# НЯСВІЖСКІЯ КАЕТЫ

Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс

№ 9 2022 г.
















# МАЛЯВАНКІ - СУСЕДКІ




Каляндар "Маляванкі-суседкі" на 2022 год створаны Наталляй Плаксай па ўзоры календароў вядомай серыі "Маляўнічая Бацькаўшчына " Валера Дранчука.

Прапанаваныя карыстальнікам дванаццаць старонак з захаванымі, а дзе толькі Божым цудам напаўацалелымі творамі народнага мастацтва - гэта пераймание добрай справы дзеля вывучэння і шанавання нацыянальных каштоўнасцяў. Было імкненне зрабіць так, як цягам дваццаці гадоў рабіў Валер Дранчук, дбаючы пра родную мову, спадчыну Купалы-Коласа, народную творчасць, нашы рэкі, балацявіны, святыя крыніцы, дубы і дубровы, творы вядомых жывапісцаў і графікаў, што занатоўвалі пэндзлем ці алоўкам тыповы беларускі краявід... дый іншае, але сваё, роднае.

Па ўзоры аўтара "Маляўнічай Бацькаўшчыны" ўжо і раней з'яўляліся беларускамоўныя календары нацыянальнай тэматыкі: напрыклад, каляндар валожынскіх сяброў ТБМ "Беларускія музычныя інструменты" (2019 год).

"Маляванкі-суседкі" - працяг народнай галерэі нясвіжскіх маляванак, распачатай ў календары "Маляванкі ў Ваш дом" (2020 г.). Цяпер зроблена спроба пашырыць геаграфію пошуку і папулярызацыі народных твораў - з Нясвіжчыны на суседнія Клеччыну і Капыльшчыну - выявіць падабенства і адметнасць маляванак-суседак.



***Маляванка "Дабравесце". Аўтар невядомы. Знойдзена ў в. Сейлавічы Нясвіжскага раёна.***

# Нясвіжскія каеты



*Гісторыя…*
*Яна шануе кожную асобу,*
*І кожны штрых, і летапіс, і дату...*
*Кастусь Жук, Затур’я.*

***Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс. Чацвёрты год выдання***

**№ 9** **СТУДЗЕНЬ - ЧЭРВЕНЬ** **2022 г.**

## *У НУМАРЫ:*





? *

Мы просім ўсіх, хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі Нясвіжчыны дасылаць іх на E-mail: kajety@list.ru

Аўтары цалкам адказныя за гістарычную дакладнасць сваіх матэрыялаў

**На правах электроннага рэсурса**

**Выдаецца ў адпаведнасці з п. 7.4 артыкула 13 ЗАКОНА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ “Аб сродках масавай інфармацыі” ад 17 ліпеня 2008 г. № 427-3**

Выдавец:
**Прыватнае ўнітарнае прадпрыемства “Пружмень”**

Рэдактар:
**Станіслаў Вацлававіч Суднік**

**Рэдкалегія:**
**Качановіч Леанід,**
**Плакса Наталля,**
**Суднік Станіслаў**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**kajety@list.ru**

**АДРАС САЙТАЎ:**
**http//nslowa.by**
**http//pawet.net**
**http//kamunikat.org**

**10 друк. аркушаў**

**Часопіс падпісаны да друку 30.06.2022 г.**

# ДЗЕНЬ РОДНАЙ МОВЫ НА НЯСВІЖЧЫНЕ




Дзень роднай мовы зноў святкавала Нясвіжчына. Як паведаміла на сваім сайце раённая газета, ва ўстановах адукацыі прайшоў шэраг мерапрыемстваў па ўшанаванні роднага слова. Так, у сярэдняй школе № 4 г. Нясвіжа адбылася квэст-гульня "З любоўю да роднга слова", у сярэдняй школе № 3 - квэст-гульня "Пагуляем у роднае слова", у Карцэвіцкай школе - квэст "Свята роднай мовы". У яслях-садку № 4 "Караблік дзяцінства" родную мову ўшанавалі "Хвілінкай беларускага вершыка".

Як высветлілася, не ў кожнай школе падтрымалі Агульнанацыянальную дыктоўку. У гэтым годзе яна пазначана лічбай 15. Аднак сталыя прыхільнікі дыктоўкі і на гэты раз не праігнаравалі яе. У Лысіцкай школе настаўніца роднай мовы Ірына Мышкавец, як і ў папярэднія гады, да ўсіх святочных дзеяў далучыла і дыктоўку з кранальным моўна-патрыятычным тэкстам. Гэтак жа штогод робіць і настаўніца школы № 3 г. Нясвіжа Вольга Варэнік, адно што ўдзельнікаў тут значна больш, чым ў вясковай школцы.

Пяць апошніх гадоў праводзяцца беларускія дыктоўкі ў Раённай бібліятэцы імя Паўлюка Пранузы. Кожны раз збіраюцца сюды новыя ўдзельнікі: пенсіянеры, наведвальнікі сацыяльнага цэнтра, сябры БРСМ, а сёлета - нясвіжскія дзевяцікласнікі. Але нязменныя і абавязковыя - урачыстасць моманту, святочнасць сустрэчы ды ноткі лёгкай усхваляванасці: не памыліцца, напісаць як найлепш!

Нязменным лідарам не толькі па колькасці, але па творчым, свядомым і душэўным падыходзе да напісання дыктовак з'яўляюцца навучэн-цы Нясвіжскага педагагічнага каледжа імя Якуба Коласа на чале з дырэктарам Аленай Жураўлёвай і выкладчыцай роднай мовы і літаратуры Марыяй Енчык. Шырокі тэматычны выбар тэкстаў дапасуецца тут да кожнага курса, групы і спецыялізацыі! Колькасць удзельнікаў ідзе на сотні! Ужо стала традыцыяй напісанне дыктоўкі выкладчыкамі і іншымі супрацоўнікамі каледжа; сёлета іх - 47! Добры прыклад кожнай установе! А тэкст "Калыска маленства" прысвечаны, як і належыць, Якубу Коласу, 140 гадавіне ад нараджэння вялікага беларуса.




- Усё атрамалася, як задумалі, як хацелі, бо рабілі ўсё ад душы, - кажа Марыя Фабіянаўна, -



бо пачатак гэтаму шчыраму дню нашага жыцця даў вольны мікрафон "Гучы, роднае слова".

Экс-сябры ТБМ правялі хатнія дыктоўкі ў вузкім сяброўскім коле. Гарадзейцы выбралі для напісання верш Ганны Палын са зборніка "Нясвіжскі ўток". Ды не толькі пісалі, але і чыталі іншыя



любімыя вершы, дзяліліся думкамі і ўражаннямі. Для жыхароў в. Карцэвічы была прадыктавана краязнаўчая замалёўка з падрыхтаванай для друку кнігі "Кунтуш Радзівіла або 100 эцюдаў нясвіжазнаўства". А Валянціна Холадава пажадала напісаць верш Васіля Казачка "Пагавары са мной па-беларуску" нават пад дыктоўку па тэлефоне.

Наведвальнікі студыі вядомай нясвіжскай мастачкі Марыны Канавалавай далучыліся да спасціжэння верша Наталлі Плаксы "Маляванкі". Да таго ж разгледзелі яе калекцыю твораў наіўнага жывапісу ды перанеслі ўсё пачутае і пабачанае на







свае "палотны". Падчас перапынку пацешыла студыйцаў гульня "Салодкія словы". *Натхненне, узнёсласць, акрыленасць, асалода, спасціжэнне, замілаванасць…* - гэтыя і іншыя беларускія словы былі акурат да месца і настрою сустрэчы. Яны як найлепш засведчылі вядомую ісціну, што мова - душа народа, і што трэба быць з роднай мовай не хвілінку, не адзін святочны дзень, а кожны дзень свайго жыцця, не "гуляць у роднае слова", а вывучаць, засвойваць як каштоўны набытак, каб мець на вуснах штодня.

***Вольга Карчэўская.***
*Нясвіж.*

Фота 1. На сустрэчы з навучэнцамі педкаледжа.

Фота 2. У Лысіцкай школе.

Фота 3, 4, 5. Дыктуе Барыс Шпак, пішуць гарадзейцы.

Фота 6 У студыі Марыны Канавалавай: не толькі пішам, але і малюем.

# Куток памяці Уладзіміра Жылкі



Травень-месяц - пара сапраўднага натхнення, нястрымнага палёту І натхнёнай творчасці... Нездарма, мабыць, менавіта ў такія цёплыя, па-асабліваму шчымлівыя для душы дні калісьці Нясвіжская зямля падарыла свету таленавітага песняра - Уладзіміра Жылку. Ён нарадзіўся 27 траўня 1900 года ў вёсцы Макашы. А зараз, 28 траўня, на 122-ю гадавіну з дня яго нараджэння, у будынку тутэйшага млына (які знаходзіцца на базе аграэкатурызму "Ля старога млына") адкрыўся музейны куток памяці паэта. Тое, што памятны куточак знайшоў свой прытулак менавіта ў сценах млына, вельмі сімвалічна, бо гэтаму месцу больш за 150 гадоў. Раней тут малолі муку для ўсёй акругі, але ў гады Вялікай Айчыннай вайны млын быў спалены. І вось цяпер, у наш час тут правялі рэканструкцыю, дзякуючы дырэкцыі і працаўнікам ААТ "Нясвіжскія Астроўкі, і зараз ён гасцінна адчыніў свае дзверы для наведвальнікаў. Ідэя аднавіць млын і ўвекавечыць тут памяць пра Уладзіміра Жылку прыйшла да ўраджэнца Макашоў Леаніда Крупца і мясцовага жыхара Вячаслава Букі, Агульнымі намаганнямі мясцовай адміністрацыі, прадстаўнікоў творчай інтэлегенцыі, настаўнікаў і вучняў Астроўскай школы, сваякоў паэта і неабыякавых макашоўцаў крыху больш за паўгода запланаванае было здзейснена. Адбылося ўрачыстае адкрыццё аднаўленага млына і кутка памяці паэта.

Пачалося мерапрыемства з імправізаванай выставы на трэцім паверсе, аб якой расказалі вучаніцы мясцовай школы. Экспазіцыя закранула ўвесь жыццёвы шлях паэта, уключыла ў сябе фота і зборнікі вершаў земляка.



***З яркай прамовай выступіў перад прысутнымі паэт, перакладчык, даследчык літаратуры, укладальнік зборніка вершаў У. Жылкі, які быў выдадзены ў 1998 г. у серыі "Беларускі кнігазбор" Міхась Скобла***

Затым гасцей запрасілі на другі паверх, дзе пачалася афіцыйная частка ўрачыстасці. Гучалі словы ўдзячнасці ўсім, хто меў дачыненне да стварэння музейнага кутка, гісторыі з біяграфіі і радаводу паэта, факты з жыцця і цёплыя ўспаміны. Выступоўцы прадстаўлялі вершы Уладзіміра Жылкі і дэманстравалі падрыхтаваныя відэаролікі.

Імя беларускага паэта, крытыка і перакладчыка Уладзіміра Жылкі не так добра вядома, як імёны Янкі Купалы, Якуба Коласа ці Максіма Багдановіча... Доўгі час у краіне не было ніводнага музея, ні адной вуліцы, ні адной установы, названых у яго гонар. Але талент паэта, яго яскравая творчасць і грамадзянская пазіцыя, безумоўна, гэтага заслугоўваюць. Толькі ў 2020-м годзе, калі святкавалі 120-годдзе з дня нараджэння паэта, у Нясвіжы, на малой радзіме песняра, з'явілася вуліца Уладзіміра Жылкі. Не так даўно ў Макашах адкрылі помнік знакамітаму земляку. А зараз, з нагоды чарговай гадавіны яго памяці, стварылі куток-экспазіцыю.

На жаль, Уладзімір Жылка не пражыў і трыццаці трох гадоў, аднак пакінуў яркую старонку ў жыцці Нясвіжскага краю і, без сумненняў, яго вершам наканаваны нашмат даўжэйшы век. Музейны куток 4Д - часцінка памяці аб ім і сапраўдная даніна павагі земляку, чалавеку і паэту Уладзіміру Жылку.

*Я гэты свет убачыў тут*
*Дзіцём ля матчынае цыцкі*
*І рос, вясёлы шалапут,*
*З дзядоў, прадзедаў сын мужыцкі,*
*На ёміне з яго палёў,*
*Здабытай з працы, з мазалёў...*

***Дар'я ПІВАВАРСКАЯ.***
***"Нясвіжскія навіны".***

# НЯСВІЖСКІ ГІСТАРЫЧНЫ КАЛЯНДАР

## *2022 год*

**1492 г.** (530 гадоў таму) - першыя сведчанні пра в. **Круты Бераг**: Пётр Янавіч (Кішка) атрымаў ад вялікага князя Літоўскага Аляксандра прывілей на маёмасць Круты Бераг.

**У 1562 г.** (460 гадоў таму) беларускім гуманістам і асветнікам **Сымонам Будным** ў Нясвіжы аддрукаваны "Катэхізіс" і "Пра апраўданне грэшнага чалавека перад Богам", у якіх перашадрукар выклаў свае рэлігійныя, палітычныя і філасофскія ідэі.

**У 1562 г.** (?) (460 гадоў (?) таму) нарадзіўся **Тамаш Макоўскі** - мастак, графік, гравёр, друкар, картограф, стваральнік карты Вялікага Княства Літоўскага, аўтар гравюр да кнігі М.К.Радзівіла "Перэгрынацыя, або Паломніцтва ў Святую зямлю", а таксама гравюр многіх гарадоў (напрыклад, Нясвіжа, Клецка, Коўні, Вільні і інш.). Самую плённую частку жыцця пражыў у Нясвіжы.

**У 1582 г.** (440 гадоў таму) **Мікалай Крыштаф Радзівіл (Сіротка)** распачаў сваё знакамітае падарожжа ў Святую зямлю, якое доўжылася да 1584 года. Наведаў Венецыю, Крыт, Кіпр, Палестыну, Сірыю, Егіпет.

**1627 г.** (395 гадоў) адкрыта аптэка пры Нясвіжскім езуіцкім калегіюме.

**1672 г.** (350 гадоў) пабудаваны кляштар дамініканцаў з касцёлам Іаана Хрысціцеля, у 1877 годзе (145 гадоў) скасаваны, будынкі перароблены пад Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю. Пасля Другой сусветнай вайны разбураны.

**1722 г.** (300 гадоў таму) - першыя згадкі пра в. **Кучынаўшчына** як пра засценак у Наваградскім ваяводстве ВКЛ, уладанне Радзівілаў.

**У 1747 г.** (275 гадоў таму) заснаваны Нясвіжскі кадэцкі корпус для падрыхтоўкі кадраў для войска Радзівілаў. Выкладаліся французская, нямецкая, лацінская, руская мовы, геаметрыя, матэматыка, цывільная і вайсковая архітэктура, маляванне, айчыннае права, айчынная і агульная гісторыя. Кадэтаў навучалі верхавой яздзе, фехтаванню, танцам.

**1747 г.** (275 гадоў таму) у двары касцёла Божага цела пабудавана капліца Булгарына, італьянскі архітэктар Маўрыцыа Пядэці.



КАТИХИЗІСЪ·
ТО ЕСТЪ,
НАУКА СТАРОДАВНЯЯ ХРІСТІЯНЬ
СКАЯ Ѡ СВЕТОГО ПИСМА, ДЛЯ ПРО
СТЫХЪ ЛЮДЕЙ ЯЗЫКА РУ
СКОГО, ВЪПЫТАНІЯХЪ Ѡ.
КАЗЬХЗ ОБРАНА.
Ѡ ПЕРЪВАГО СВЕТОГО АПОСТОЛА
ПЕТРА ПОСЛАНІЯ ЗАЧАЛО



***Гравюра Т. Макоўскага да кнігі М.К. Радзівіла "Перэгрынацыя, або Паломніцтва ў Святую зямлю"***

**У 1752 г.** (270 гадоў таму) у Нясвіжы заснавана суконная мануфактура, а ў Альбе (пад Нясвіжам) - дывановая. Першая дзейнічала да 1867 года, другая праз 10 гадоў пасля заснавання пераведзена ў Карэлічы.

**У 1772 годзе** (250 гадоў таму) гістарычныя і мастацкія каштоўнасці Нясвіжскага замка канфіскаваны расійскімі войскамі, бібліятэка (каля 10 тыс. тамоў) вывезена ў Пецярбург і перададзена Акадэміі навук (паводле кнігі "Памяць").

**1792 г.** (230 гадоў таму) Нясвіж і замак пасля кароткага штурму быў заняты расійскімі войскамі ў выніку другога падзелу Рэчы Паспалітай.

**1812 г.** (210 гадоў таму) - падчас Айчыннай вайны 1812 года Нясвіжскі палац быў заняты расійскімі войскамі і разрабаваны.

**1862 г.** (160 гадоў таму) - не стала вядомага беларускага і польскага паэта, фальклырыста і краязнаўца **Уладзіслава Сыракомлі** (Людвіка Кандратовіча), жыццё і творчасць якога былі звязаны з Нясвіжам. 16 красавіка 1844 года вянчаўся ў Нясвіжскім фарным касцёле з Паўлінай Мітрашэўскай. З любоўю і замілаваннем пра горад Нясвіж пісаў у краязнаўчым нарысе "Вандроўкі па маіх былых ваколіцах".

**1882 г.** (140 гадоў таму) - пабудавана Свята-Дабравешчанская царква ў **в. Кунаса** - помнік рэтраспектыўна-рускага стылю, які панаваў у канцы 19-пачатку 20 ст.



***Кунаская Свята-Дабравешчанская царква***

**1887 г.** (135 гадоў таму) - нарадзіўся **Касач Павел Мікалаевіч**, кампазітар, заслужаны дзеяч культуры Беларусі. З 1945 года жыў і працаваў у Нясвіжы.

**У 1902 годзе** (120 гадоў таму) **Кастусь Міцкевіч** (Якуб Колас) скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю, у якой навучаўся на працягу пяці гадоў(1898-1902)

**Вясной 1907 года** (115 гадоў таму) у маёнтак Дольны Сноў прыехаў працаваць **Янка Луцэвіч** (Янка Купала). Тут дачакаўся ён весткі пра выданне свайго перашага зборніка "Жалейка".

**1912 г.** (110 гадоў таму) - устаноўлена мемарыяльная дошка **Уладзіславу Сыракомлю** (Людвіку Кандратовічу) у касцёле Божага цела.

**100 гадоў** ад нараджэння **Івана Гурбана** (21.05.1922-01.05.1999) - ураджэнца нясвіжскай вёскі Юшавічы, сябра СП Беларусі з 1994 года, аўтара зборнікаў паэзіі для дзяцей "Чубаценькі будзільнік", "Пахі вясны", "Калі ветрык спачывае, " зборніка выбраных твораў "Паэт". Друкаваўся ў калектыўных зборніках нясвіжскіх аматараў прыгожага пісьменства "Пяром і сэрцам з Нясвіжам", "Нясвіжскія вытокі" і інш. Да 100-гадовага юбілею выдадзены зборнік паэзіі "Выбранае."



***Павел Касач***

**90 гадоў** (05.07.1932) ад нараджэння **Міхася Сазончыка** - сябра раённага літаратурнага аб'яднання "Валошкі", Ганаровага сябра СП Беларусі, аўтара кнігі "Крыніца". Друкаваўся ў калектыўных зборніках паэтаў Нясвіжчыны.

**80 гадоў** таму назад 05.08. 1942 г. ва ўрочышчы **Гайкі**, недалёка ад в. Еськавічы, нямецка-фашысцкімі захопнікамі расстраляна больш за 80 мірных жыхароў.

**80 гадоў** таму назад 17.07.1942 г. - расстрэл яўрэяў г.п. Гарадзея.

**1982 г.** (40 гадоў таму) - у Нясвіжы ўстаноўлены помнік **Сымону Буднаму**. Аўтар Святлана Гарбунова.

**1992 г.** (30 гадоў таму) - у Замкавым парку ўсталяваны тры дэкаратыўныя вазы з барэльефамі на тэмы гістарычных падзей: у гонар перамогі над крыжакамі пад Грунвальдам у 1410 годзе; у гонар роду Радзівілаў; у гонар вызваленчых паўстанняў 1794-га і 1863-га гг.

**1992 г.** (30 гадоў таму) - на Алеі памяці ў Старым парку ўсталяваны бюсты гістарычных дзеячаў, звязаных з Нясвіжам: Юрыю Нясвіжскаму, М.К. Радзівілу Сіротку, архітэктару Я.М.Бернардоні, гравёру Т. Макоўскаму, паэтам У. Сыракомлю, Я. Коласу.

**У 1997 годзе (верасень)** (25 гадоў таму) Нясвіж быў сталіцай "Дня беларускага пісьменства".

**24 снежня 2002 г.** (20 гадоў таму) - пажар у замку падчас правядзення рамонтных работ.

**2012 г.** (10 гадоў таму) - завяршэнне рэстаўрацыі замка Радзівілаў і адкрыццё яго для наведвальнікаў.

**2012 г.** (10 гадоў таму) - заснаванне ансамбля песні **"Ланская бяседа"**, які праз год займеў званне Народнага.



***Ансамбль "Ланская бяседа"***

***Падрыхтавала Станіслава Вальчык.***

**Перачытваючы Сымона Буднага**

Найважнейшым элементам светапогляду і дзейнасці Сымона Буднага з'яўляецца ўсведамленне ім свабоды самавыяўлення. Свабоду самавыяўлення ён лічыў галоўнай умовай здаровага развіцця грамадства.

*"… Хіба можа быць прызнанай улада, якая ўсім жадае зачыніць рот, а аднаму ці тром дазваляе папусціць лейцы, каб пісалі, што захочацца? Я прызнаю ўладу і асуджаю беспарадак,* - пісаў ён аднаму са сваіх апанентаў, - *але я называю ўладай не тое, што ты. У цябе ўладай з'яўляецца тая, што аднойчы прынятая і патрабуецца тром, ахоўваецца ўсімі сіламі (нягледзечы на тое, добра тое, ці блага); для мяне гэта не ўлада, а тыранія і рабства, вельмі падобнае на папскія. Улада была б, калі б не гасілі дух, усё выпрабоўвалі і прымалі тое, што аказалася лепшым… Дай нам Божа такую ўладу, пры якой мы не думалі б пра сябе, не прыніжалі іншых, дазвалялі казаць праўду адзін аднаму, не лічылі б сябе бязгрэшнымі… Трэба, каб у нас была воля размаўляць аб Боскіх справах не толькі вучоным, але і простым людзям, не толькі заможным, але і бедным. Гэта цудоўная, асаблівая воля…".*

# ХАЙ ЦВІТУЦЬ ГРУШЫ

***Селянін з душой паэта***
***І паэт з рабочымі рукамі.***
*Мікола Маляўка (з верша "Іванава душа" )*

Сёлета споўнілася 100 гадоў ад нараджэння паэта з нясвіжскіх Юшавіч Івана Гурбана, сябра СП Беларусі з 1994 года, аўтара зборнікаў "Пахі вясны," "Чубаценькі будзільнік", "Калі ветрык спачывае". Апошні месяц вясны, калі цвітуць грушы - яго час: гэтай парой ён нарадзіўся, гэтай парой праз 77 гадоў ціха сышоў на Божыя сцежкі, пакінуўшы землякам самы дарагі свой набытак - паэзію з родных ваколіц.

Першапачатковы струменьчык мастацтва ва ўсіх яго праявах - вялікае душэўнае ўзрушэнне. Яно выяўляе творцу, які словам ці фарбай, лініяй ці мелодыяй імкнецца занатаваць для вечнасці жывое, а таму і нявечнае імгненне. Дождж выпойвае поле, цёплым сырадоем пацёк над поплаўцам вечаровы туман, зацвіла груша - і "расчульвалася да дна" перад зямной красой душа юшавіцкага паэта, складаліся вершы - цёплыя, добрыя, жыццёва мудрыя. А вясковае асяроддзе, блізкасць да першаасноў спрыялі гэтаму. Паэт араў зямлю, саджаў агарод, амаль да апошніх дзён трымаў карову, даглядаў садок - жыў клопатамі працавітага і гаспадарлівага вяскоўца. *"Сцяжыны ў полі як жывыя вены майго сялянскага жыццябыцця"*, - пісаў ён, прызнаючы сваю непарыўную сувязь з вёскай. А таму і вобразы, і тэмы сваіх твораў браў ад зямлі: ад красавіцкай раллі, чэрвеньскай сенажаці, жнівеньскага даспелага палетка, лістападаўскай руні. Паэтычны свет Івана Гурбана - свет сялянскай працы. Працуюць усе: ветрык гоніць на поле дажджавыя хмаркі, туман *"цёплай коўдрай саграваe травы першыя ў расе"*, плуг *"у працы шчыры хват"* і ткач-павук "*на гары праспаўся ды за працу ўзяўся"*. А вечар, як і дзень, мае свой занятак, *"паціхеньку ідзе пагушкаць немаўлятак*".

Вершы нашага земляка, адрасаваныя найперш маленькім чытачам, дапамагаюць пільней углядацца ў наваколле, бачыць яго прыгажосць, мацуюць душэўную чуйнасць, любоў да свайго, роднага. Вось з цёплага выраю наперакор снягам спяшаецца ў *"кут свой дарагі"* жаўрук:

*І хоць спрыяла выраю цяпло,*
*Ён прыляцеў да родных ніў, дадому,*
*Глядзіць з нябёс на поле, на сяло,*
*І спеўна так, і радасна малому!*



**Іван Гурбан каля роднай хаты**

Большасць з апублікаванага Іванам Гурбанам - творы для дзяцей, займальныя, вясёлыя, гарэзлівыя, павучальныя. Аднак нямала і тых радкоў, што гучаць стала і важка. Прамоўленае

ў іх праверана ўласным вопытам, сэрцам аўтара (а вопыт той багаты: нішчымнае даваеннае дзяцінства… у 44-ым грузіў бомбы на Баранавіцкім аэрадроме… аднаўляў вугальныя шахты ў Растоўскай вобласці, перахварэў на тыф, цудам выжыў, праляжаўшы 21 дзень у непрытомнасці; пасля вяртання на радзіму працаваў паляводам, краўцом, рахункаводам, загадчыкам магазіна, рабочым-меліяратарам). Колькі мудрых народных высноў рассыпана спелымі зернеткамі па вершах чалавека, што шмат зведаў цягам свайго веку: мець і пашану, і адпачынак, калі яны запрацаваныя; не радавацца знойдзенаму ці дармоваму; хадзіць штодня *"па новым і новым рубяжы"*, усведамляць сябе і быць годным спадкаемцам папярэднікаў… І не дзіўна, што Уладзімір Ліпскі характарызуе паэзію Івана Гурбана *"не вельмі кідкай і моднай, але жыццёва выверанай, з высокай мараллю, адрасаванай усім, хто хоча стаць Чалавекам"*.

*Любіць цябе святое маю права,*
*Зямля бацькоў і прадзедаў маіх!*
*Іх каранёў глыбокіх я - атава,*
*Што сок жывы бярэ з крыніц тваіх.*

Грунтавалася ўсё найлепшае ў гэтым чалавеку на моцнай хрысціянскай веры. Як заначалі неаднойчы дочкі Ларыса і Людміла, бацька не садзіўся за стол не памаліўшыя. Ёсць і больш важкія доказы яго набожнасці: у часы так званага ваяўнічага атэізму ўзначальваў Іван Гурбан Юшавіцкі сельсавет. Загадалі спілаваць крыж на вясковай царкве. Адмовіўся - і са старшынёўствам развітаўся. Адкуль сіла веры? Тут варта згадаць адзін малавядомы факт з жыцця паэта: яшчэ ў даваеннай польскай школцы настаўнікам юшавіцкага падлетка быў святар, пісьменнік, перакладчык, краязнавец Пятро Бітэль (зводзіць жа лёс людзей!) Розніца ва ўзросце паміж вучнем і настаўнікам - роўна дзесяць гадоў. Пятро Бітэль на той час ужо меў вайсковае званне, закончыў Віленскую настаўніцкую семінарыю, пісаў вершы, дэбютаваў з імі ў друку. Можна толькі ўяўляць, якімі вачыма глядзеў на настаўніка яго вучань, што таксама пачынаў нешта рыфмаваць ды запісваць "у слупок". Нікольні не адхіляючы, не прымяншаючы іншыя акалічнасці, трэба зважаць і на ролю Пятра Бітэля ў станаўленні асобы Івана




***Вокладка зборніка, выдадзенага стараннямі родных і землякоў да 100-гадовага юбілею Івана Гурбана***

Гурбана. Хай неўпрыкмет, але пераемнасць адбылася - і ў прыгожым пісьменстве, і ў хрысціянскай веры. Шчырую набожнасць і вернасць беларускаму паэтычнаму слову Іван Гурбан засведчыў жыццём і творчасцю. *"Прыемных, добрых родных слоў"* яму хапала, каб даць параду дзіцяці, успомніць першае каханне, уславіць талент Міцкевіча, высмеяць пустаслова ці гультая, паразважаць пра лёс Айчыны і чалавецтва, памаліцца на світанні (верш "Малітваю дзень пачынаю" - прызнаная візітоўка паэта).

**З успамінаў**

У краязнаўчым нататніку захоўваю шмат добрых слоў пра Івана Гурбана, якія дапоўняюць яго вобраз. Ад Жанны Грабоўскай запісала пра яе аднавяскоўца: *"Хараша жыў з людзьмі, нікому крыўды не чыніў. Грушы былі ў яго вельмі*



*"Зямля бацькоў і прадзедаў маіх"*

першымі слухачамі сваіх новых вершаў. А для ўнука Аляксандра дзед Іван - узор жыццёвага імпэту, дзейснасці, няўрымслівасці ва ўсім.

* * *

Адным днём закарцела без шумнай грамады наведацца ў Юшавічы, дакладней, здзейсніць вясновую пілігрымку да пакінутай сядзібы паэта, паглядзець на тое, што адвеку было ў яго перад вачыма. Вось драўляны парожак, адшліфаваная дотыкам рук старасвецкая клямка, стрэшка калодзежа, поплаўца за хлеўчуком, далёкі лясок, крыж на раздарожжы… А непадалёк ад хаты - груша. Хоць гаспадар пакінуў родныя сцежкі больш дваццаці гадоў, яна, як і некалі, буяе маладой лістотай, кіпіць

*смачныя, яблыкі, слівы. Пасём статак непадалёку - абавязкова прынясе, пачастуе"*. Сусед Іосіф Падамацька ўспамінаў, што была ў Івана Яфімавіча стрэльба і на паляванне ён хадзіў, але ніколі ніякай дзічыны дамоў не прыносіў: яго паляванне - творчая вандроўка дзеля паэтычных трафеяў. Марыя Падамацька прыгадвала, што сусед, калі завітваў да яе, заўсёды быў нейкі неспакойны, нібы чымсьці ўсхваляваны. І як пасля гэтага не прыгадаць словы П. Панчанкі: *"Я вершы пішу, бо душа ўстрывожана любоўю і болем за кожнага з вас"*. Яшчэ далікатна дзялілася назіраннямі суседка: *"Быў ён нібыта адзінокі, хоць дзеці і ўнукі любілі яго, часта наведваліся"*. Але ж і гэта не ў навіну: творчы чалавек крыху адасоблены ад людзей, бо любая творчасць, а тым больш паэзія, - інтымны працэс, засяроджанасць ў сабе, напружаная работа душы і розуму. Паэт Мікола Чарняўскі ўхваляў заўсёднае імкненне Івана Яфімавіча вучыцца, удасканальвацца. Сын Анатоль сведчыў пра непадзельнае суседства ў бацькавым жыцці вясковай працы і творчасці: *"Пасём каровы, я - у адным канцы, бацька - у другім. Паглядаю, а ён увесь дзень не толькі за статкам сочыць, але яшчэ ўсё нешта запісвае. Аловак і папера былі заўсёды пры ім"*. На думку дачкі Людмілы, менавіта родных бачыў бацька



***Дамок пад грушай (на сядзібе паэта)***

густой квеценню, гудзе пчоламі, духменіць адвечным мядовым водарам. Пэўна, дзеля таго, каб не перавяліся на нашай зямлі вясковыя паэты.

***Наталля Плакса,***
*краязнавец.*

***Вітольд Банах***

# РАДЗІВІЛЫ*

## Бурлівыя лёсы слыннага роду

### Першы з роду Радзівілаў, звязаны з Вялікапольшчай

Быў 1704 год, егамосцю падскарбію[1] даверылі тады дыпламатычную місію ў Берліне, мэтай якой было атрыманне прускай дапамогі ў вайне са шведамі. Там ён выдаў дачку за Яна Мікалая Радзівіла (1681-1729), пазнейшага кашталяна віленскага, ваяводу наваградскага, VI ардыната клецкага. Пшэбяндоўскі меў грошы, а яго зяць найпершае прозвішча на ўсёй Літве. Падобна, што абое былі на элекцыі. Радзівіл спачатку падтрымліваў Якуба Сабескага, але перайшоў у лагер саскага электара Фрыдарыка Аўгуста. Можа, і Пшэбяндоўскі меў на гэта ўплыў.

Ранейшая кар'ера Яна Мікалая, прынамсі яго адукацыя і палітычныя захады паказвалі на някепскую будучыню. Радзівіл вучыўся ў езуіцкім калегіюме ў Нясвіжы, у кастрычніку 1695 года супакоіў выступленне праціўнікаў яго роду, будучых прыхільнікаў Сапегаў, якія канфліктавалі з Радзівіламі. 27 ліпеня 1696 года быў абраны паслом (дэпутатам) ад Наваградскага ваяводства. У наступным годзе на сойміку Наваградскага ваяводства быў абраны палкоўнікам пры сваім бацьку, генеральным палкоўніку ваяводства.

Яшчэ ў тым самым годзе яго бацька памёр, і тады Ян Мікалай падпісаў з мачахай угоду ў справе яе ўтрымання і радавых добраў. Каранацыйны сойм прызначыў яго адным з камісараў, хоць і не быў паслом, у Берасце Літоўскае з заданнем аплаты вернага новаму каралю літоўскага войска. Па ходу была яшчэ вучоба ў Празе (1698-1699). Да вяртання на Літву змусіла яго перш за ўсё сітуацыя пасля смерці бацькі, а канкрэтна велізарныя даўгі, якія атрымаў у спадчыну. Тады ж атрымаў тытул крайчага літоўскага. Рабіў захады наконт жаніцьбы, якая магла б дапамагчы яму ў фатальнай фінансавай сітуацыі. Магло яе паправіць адданне на чатыры гады ў арэнду часткі сваёй маёмасці. Прымерваўся спярша з пачатковых канкурэнтак да Людвікі Апалінскай, дачкі Пятра, генеральнага старасты вялікапольскага і ваяводы ленчыцкага, а таксама і да дачкі Уладзіслава Пшыемскага, ваяводы калішскага. Жаніцьба з адной з тых кандыдатак магла



***Ян Мікалай Радзівіл, крайчы вялікі літоўскі***

паправіць яго фінансавую сітуцыю, але ў канцы змяніў рашэнне.

Восенню 1699 года выбраўся ў Парыж, дзе быў на аўдыенцыі ў Людвіка XIV. Сустракаўся з многімі французскімі арыстакратамі. Некалькі разоў адмаўляўся ад прапановы прыняць ордэн Святога Духа з рук Людвіка XIV, гаворачы, што не можа яго прыняць без згоды Рэчы Паспалітай. Пры яго адсутнасці ў краі 4 студзеня 1701 года наваградская шляхта абрала яго ротмістрам павятовай панцырнай харугвы.

У Парыжы дайшла да яго вестка пра каранацыю Фрыдрыха I на караля Прусіі, у сувязі з гэтым 9 сакавіка 1701 года склаў у парыжскім парламенце пратэст супраць гэтага бяспраўнага акту, які нарушаў правы

* Кніга Вітольда Банаха "РАДЗІВІЛЫ. Бурлівыя лёсы слыннага роду" пра недастаткова вядомую на Беларусі "прускую" лінію Радзівілаў выйшла ў Познаньскім выдавецтве "Copyright" у 2018 годзе. Тут яна падаецца ў перакладзе Станіслава Судніка. Кніга не ілюстраваная, таму ілюстрацыі для часопіснана варыянту падабірае рэдакцыя. Рэдакцыя робіць і каментары паводле розных крыніц.

[1] Падскарбій - тут, Ян Ежы Пшэбяндоўскі.

польскага караля і Рэчы Паспалітай. Пратэст гэты атрымаў галоснасць сярод шляхты, а таксама па-за межамі Рэчы Паспалітай, быў апублікаваны пад назвай "Vox iusta et libera Joanis ducis Radziwill". Далейшае падарожжа Яна Мікалая вяло ў Італію, Іспанію і Нідэрланды. У снежні 1701 года прыбыў у Варшаву, але ўжо ў траўні наступнага года зноў пакінуў край. На гэты раз праз Уроцлаў падаўся ў Вену. Вясной 1703 года быў зноў у Рэчы Паспалітай, ахопленай падзеямі Паўночнай вайны, не ўмешваючыся ў ішоўшыя баі застаўся верным падданым Аўгуста II.

Успадкаваўшы даўгі бацькі, у выніку падарожжа ў краіны Заходняй Еўропы ён толькі павялічыў свае фінансавыя праблемы.

Аднак і далей карыстаўся даверам караля, які ў ліпені 1793 года надаў яму Радуньскае староства, атрымаў ён таксама пацверджнне ў годнасці ваяводы Наваградскага пасля раптоўнай смерці Стэфана Тызенгаўза. Быў моцна ўдзячны ў тым вялікаму літоўскаму канцлеру Каралю Станіславу Радзівілу, свайму кузіну, старэйшаму на 12 гадоў. Такім чынам складваліся добрыя адносіны караля з найважнейшым родам на Літве.

## Пачаткі многіх бедаў

У лютым 1704 года дайшло да падзелу добраў паміж Янам Мікалаем і яго братамі. Добры Радзівілаў аднак у большасць былі пазакладзены на звыш чым мільён злотых. Якраз столькі, колькі было патрэбна Радзівілу, мела прынесці ў пасаг дачка Пшэбяндоўскага, дакладна 780 000 злотых наяўнымі, 110 000 у пасажных рэчах і 110 000 у каштоўнасцях. Быў гэта пасаг паважны і сведчыў пра фінансавы стан бацькі панны маладой.

Шлюб адбыўся 18 верасня 1704 года ў Берліне ў прысутнасці караля Фрыдрыха I (мусіў неяк выбачыць Радзівілу парыжскі пратэст). Пан малады спачатку атрымаў "толькі" 600 000 злотых. Справа затрыманага пасагу будзе ў наступныя гады нагодай непаразуменняў з цесцем і спрычыніцца да фатальнага ходу сямейнага жыцця Радзівіла з дачкой падскарбія Пшэбяндоўскага. Цяжка аднак дзівіцца таму, што цесць не спяшаўся з выплатай рэшты пасагу, паколькі неўзабаве па шлюбе пан малады выбраўся ў Гданьск (у горадзе над Матлавай з'явіўся 19 верасня 1704 г.) і там патраціў (што цяжка сабе ўявіць) усе грошы. Калі б трата грошай мела нейкую сувязь з палітычнай місіяй, якую, быць можа, атрымаў Радзівіл, які ад імя караля меў схіліць прымаса Радзяёўскага пакінуць апазіцыю і памірыцца з Аўгустам II? Нават ацэньваючы траты, якія панёс з уласнай кішэні рэалізуючы дзяржаўныя задачы, факт, што распусціў звыш паўмільёна злотых, падаецца з'явай надзвычайнай.

У палітычных сітуацыях паводзіў сябе рацыяльна, быў адносна Ветына паслядоўна лаяльны. Калі шалі канфлікту ў Паўночнай вайне пахіліліся на бок Швецыі (пад аслонай шведскіх войскаў невялікае згрупаванне шляхты выбрала на польскі трон Станіслава Ляшчынскага), Ян Мікалай прыняў ад пратажэ Карла XII вакантны тытул ваяводы Наваградскага, абяцаны ўжо зрэшты Аўгустам II.

Наданне Ляшчынскага не выклікала негатыўнай рэакцыі Саса, калі ён пасля трох гадоў ад адрачэння зноў вярнуў карону Рэчы Паспалітай. Калі Ляшчынскі быў вымушаны пакінуць Польшчу, Радзівіл выслаў Аўгусту II віншаванне, а той сваёй намінацыяй ад 31 кастрычніка 1709 года пацвердзіў тытул ваяводы Наваградскага для Яна Мікалая Радзівіла. У наступныя месяцы актыўна дзейнічаў як прыхільнік караля, кіраваў соймікам у Наваградку, адказваў за амністыю, за прымірэнне караля з яго ранейшымі праціўнікамі, за эвакуацыю расійскіх войскаў, за правядзенне найму войска.

Добрыя адносіны з каралём, частыя побыты пры яго двары, а таксама сувязі з Пшэбяндоўскім (гэтае апошняе можа выклікаць здзіўленне, калі ўлічыць сямейныя праблемы яго дачкі, пра якія пазней) прынеслі Яну Мікалаю найвышэйшыя ўганараванні Рэчы Паспалітай, у тым ліку наданне ордэна Белага арла, уручанага ўрачыста 2 жніўня 1715 года.

Аднак справы прыватныя, асабліва маёмасныя, ішлі ў Яна Мікалая што раз горш. Пасварыўся са сваім ранейшым пратэжэ князем Каралем Станіславам Радзівілам, яго час паглыналі галоўным чынам працэсы з паверанымі асобамі, з дзяржаўцамі добр, аддадзеных у заставу, братам Мікалаем Фаўстынам і ... цесцем Пшэбяндоўскім. У траўні 1714 года прайграў справу са сваім галоўным паверанымі, Міхалам Воўкам Ланеўскім, выракам Літоўскага трыбунала меў страціць усе добры, хаця тут у выніку справу ўдалося часткова залагодніць. У старасвецкім стылі разыгралася чарговая спрэчка Радзівіла з нейкім Пякарскім, якому ў пачатку 1719 года Радзівіл прайграў у Трыбунале, і выглядала на тое, што гэта будзе чарговая "апошняя" фінансавая параза наваградскага ваяводы. Асабліва таму, што пераможцам працэсу быў пратажэ гетмана Людвіка Пацея, які пры яго дапамозе здзейсніў наезд на маёнткі Радзівіла, той жа меў столькі ж шчасця, што і даўгоў. Пякарскі неўзабаве памёр. Радзівіл вярнуў сваю маёмасць. Сам жа наехаў на так званае Шыдлавецкае графства, якое хацеў пераняць пасля смерці брата Міхала Антонія (29 жніўня 1721 г.); пасля гэтага ўблытаўся ў чарговы працэс, тым разам са швагеркай, удавой Марыянай з Даўмонт-Сяціцкіх. Працэсаў меў без ліку, акрамя названых з блізкіх сваякоў былі яшчэ ў т.л. суды з Белазорамі, Бжастоўскімі, Флемінгамі, Рымшамі, Сапегамі і Скальскімі.

Нават, калі з'яўляўся на соймах, таксама мусіў выступаць на абарону сваіх добр. На фоне яго незлічоных маёмасных спрэчак: змаганне з даўжнікамі, суды за правы спадчыны, вырашэнне спрэчак наездам, працэсы са сваякамі і застаўнікамі, разыгрывалася справа з чалавекам найбліжэйшым, хаця з увагі на пікантныя і вострыя дэталі яна адсланяла асабістыя рысы характару Радзівіла, або хутчэй яго псіхічнай хваробы.

*(Працяг у наступным нумары.)*

*Станіслаў Суднік*

# Гербоўнік сейлавіцкай шляхты

З гэтага нумара мы пачынаем друкаваць гербоўнік сейлавіцкай шляхты. Рукапісу гэтай працы не існуе, а напрацоўкі ёсць. Трэба друкаваць. Будуць памылкі і недакладнасці. Потым, у наступных пакаленнях, пакрытыкуюць, паправяць, але будзе аснова.

Сейлавіцкая шляхта - гэта радзівілаўская шляхта, а гэта значыць - сабраная сюды з усяго свету.

Было шмат стратэгій развіцця тэрыторый у Вялікім Княстве Літоўскім. Радзівілаўская стратэгія - засяляць свае землі беднай, але гербавой шляхтай. Шляхта атрымоўвала землі бясплатна, але мусіла служыць князю: хадзіць на войны і ездзіць на соймы. У гэтым была перавага радзівілаўскай стратэгіі перад стратэгіямі тых магнатаў, якія развівалі баярскія і выбранецкія вёскі.

У выніку гэтай стратэгіі на радзівілаўскіх землях аказалася мноства шляхочых засценкаў і ваколіц. Засценак Сейлавічы - адзін з найбуйнейшых. Вакол Сейлавіч раскінулася шмат драбнейшых засценкаў і ваколіц, якія з часам пазнікалі,ператварыліся ў вёскі, аграмястэчкі. Гэта Ліпніцкія, Канішча, Суднікі, Бучныя, Куль, Масявічы, Затур'я, Пасякі, Цагельня, Ракавічы, Слаўкава, Мікулічы, Амлынцы і інш., двары Журава, Ганусаўшчына, Дыямполь, лясніцтва Вінклераўшчына. Траплялася шляхта і ў вёсках Андрушы, Кунаса, Бузуны, Белікі, Юшавічы.

Гербоўнік будзе мець дзве часткі. Спачатку будзе, па магчымасці ў алфавітным парадку, пададзена шляхта, якая жыла ў Сейлавічах, Ліпніцкіх, Канішчы, Андрушах, Кунасе, Вінклераўшчыне і захавала сваё шляхецтва ў XX стагоддзі, а потым тыя шляхочыя роды, якія страцілі шляхецтва падчас разбору шляхты па паўстанні 1831 года, але вядомыя як старыя шляхочыя роды ВКЛ.

Нічога дзіўнага не будзе, калі акажуцца ў гербоўніку роды слаўкаўскія ці пасякоўскія. Шляхта перамяшчалася па засценках: купляла зямлю, хадзіла ў прымы. Так Суднікі некалі перасяляліся ў Сейлавічы з Суднікоў, а Войніч прыйшоў у прымы ў Ліпніцкія з Масявіч і г.д. Але ў XX стагоддзі існаваў пэўны кангламерат сейлавіцкай шляхты, і мы пастараемся яго нейкім чынам ахапіць.

Пачнём з Акінчыца.

### Акінчыц

У Сейлавічах была вядома, прынамсі мне, адна сям'я Акінчыцаў. Іхнюю хату нядаўна знеслі і пабудавалі на яе месцы сучасны дом тыпу "катэдж".

У беларускай гісторыі добра вядомы засценак **Акінчыцы**, дзе нарадзіўся Народны пісьменнік Беларусі Якуб Колас.

У Акінчыцах нарадзіўся беларускі дзеяч пачатку XX стагоддзя **Фабіян Акінчыц**.

Населены пункт Акінчыцы - засценак. Тут павінна жыць шляхта. Але пошук шляхочага роду Акінчыц поспеху не мела. Таму самы раз было згадаць, што беларускае "а" - гэта не зусім "а" і не толькі "а". Перайшоўшы да формы **Okinczyc** знайходзім такі шляхочы род у Рэчы Паспалітай. Прыпісаны ён да герба **"Аксак"**.



**Аксак** (польск. Aksak, Akszak, Axak, Kara, Obrona) - шляхочы герб Рэчы Паспалітай.

Герб паходжання татарскага, вядомы з XIV стагоддзя.

**Апісанне.**

У полі невядомага колеру, найбольш праў-

дападобна - чырвонага, два трохкутнікі, злучаныя вяршынямі, цераз злучэнне праходзіць страла, наканечнікам управа. Над шлемам у кароне тры страўсавыя пяры.

*Juliusz Ostrowski: Ksiega herbowa rodow polskich, T.2*

**Роды - носьбіты герба.**

Аксак (Aksak), Акшак (Akszak), Асановіч (Assanowicz), Бернатовіч (Bernatowicz), Бялоцкі (Bialocki), Даўнаровіч (Downarowicz), Эрбейдар (Erbejder), Эрбрэйтар (Erbreiter), Гружэвіч (Gruzewicz), Гурко (Hurko), Янчура (Janczura), Кардасевіч (Kardasewicz), Кардашэвіч (Kardaszewicz), Каспяровіч (Kasperowicz), **Окенчыц (Okienczyc)**, **Окіньчыц (Акіньчыц, Okinczyc)**, Селіміновіч (Seliminowicz), Селімовіч (Selimowicz), Шагуневіч (Szaguniewicz), Шахуневіч (Szahuniewicz), Талкоўскі (Talkowski).

Мяккі знак вялікага значэння не мае. Тым больш, што мы пакуль не бачылі, як пры Польшчы пісалася прозвішча сейлавіцкіх Акінчыцаў.

***Крыніцы.***

*Juliusz Ostrowski. Ksiega herbowa rodow polskich. - Warszawa: Ksiegarnia Antykwarska B. Bolcewicza, 1897. - T. 1. - C. 13. - 620 с. (польск.)*

*Juliusz Ostrowski. Ksiega herbowa rodow polskich. - Warszawa: Ksiegarnia Antykwarska B. Bolcewicza, 1898. - T. 2. - C. 10. - 380 с. (польск.)*

*Gajl T. Polish Armorial Middle Ages to 20th Century. - Gdansk: L&L, 2007. - ISBN 978-83-60597-10-1. (польск.)*

### Ануфровіч

**Ануфровічы** значацца у многіх спісах шляхты ВКЛ. У Сейлавічах жылі ў Куліку. Аднак, каб знайсці герб ізноў давялоя замяніць першую літару “А” на “О” і перайсці да формы **Onufrowicz**.

Карысталіся гербам **“Боньча”**.

**Апісанне.**

**Боньча** (польск.: **Boncza**) - шляхецкі герб італьянскага паходжання.

У блакітным полі белы (срэбны) уздыблены адзінарог. У кляйноце на шлемам палова ўздыбленага белага (срэбнага) адзінарога.

Найстарэйшы ўспамін у 1396 годзе.

Іншыя назвы: Буньча, Гаварог, Адзінарог, Rinocerus, Unicornus.



**Герб Боньча належаў родам:** Аздоўскі, Аленікаў, Альфінер, **Ануфровіч**, Артвіх, Асмалоўскі, Асмольскі, Асмульскі, Атэнхаўзен, Бабіноўскі, Бабінскі, Багдановіч, Багдзевіч, Багунеўскі, Баярскі, Бадэні, Бадоўскі, Баневіч, Банькоўскі, Банецкі, Баніцкі, Банкевіч, Барадзенка, Барвікоўскі, Бародзіц, Бародзіч, Баршчэўскі, Барташэўскі, Барташынскі, Бартыноўскі, Бернат, Белабрэскі, Біневіч, Богдан, Бойка, Бразіцкі, Брацієўскі, Брацёўскі, Брастоўскі, Брыскі, Брэскі, Буза, Буйневіч, Букоўскі, Букшэўскі, Бумецкі, Быстрыцкі, Валеўскі, Васнеўскі, Васнёскі, Васнёўскі, Вельга, Вільга, Вільгерд, Высоскі, Высоцкі, Выспянскі, Высьнеўскі, Вяльговіц, Вярхоўскі, Гаспарскі, Гадкоўскі, Гадлеўскі, Гадзімерскі, Газімерскі, Газімірскі, Галашэўскі, Галіян, Гатартоўскі, Гаўскі, Грахоўскі, Гудыновіч, Гульбінскі, Гулінскі, Даланоўскі, Дамагальскі, Дрылінскі, Дыгульскі, Жалкеўскі, Жрабецкі, Заворскі, Захерт, Здрайкоўскі, Зімнох, Зрабецкі, Іжыцкі, Катарскі, Кланоўскі, Краёў, Кракавецкі, Кракаў, Крэскі, Крэўскі, Кульвінскі, Кулацкі, Куніцкі, Лакуцееўскі, Лакуцеўскі, Лінчоўскі, Лісоўскі, Лубкоўскі, Лубкоўскі Буза, Любецкі, Любкоўскі, Мадзалеўскі, Мазалеўскі, Маранецкі, Марковіч, Маркоўскі, Мерзб, Мілеўскі, Міхалоўскі, Мукулоўскі, Мяскоўскі, Мячкоўскі, Нагорны, Небрагоўскі, Недабыльскі, Павульскі, Пакрыўніцкі, Парніцкі, Пархвіц, Паструцкі, Паструскі, Плончык, Правідніцкі, Правінскі, Прахвіч, Пянчула, Пяро, Пячынскі, Радавецкі, Раманенка, Раманечка, Раманоўскі, Раманчанка, Ратоўт, Рудзявіцкі, Руткоўскі, Рушкоўскі, Рыбчоўскі, Рыбчэўскі, Салікоўскі, Сапега, Саха, Сварачэўскі, Скачэўскі, Скарынскі, Скачэўскі, Скакоўскі, Скароўскі, Скварскі, Скраноўскі, Скрыдлеўскі, Скрынецкі, Скверас, Смятанка, Сра-

бецкі, Стабецкі, Стагнеў, Страбейка, Страбецкі, Страбялінскі, Стральбіцкі, Страшкоўскі, Ступінскі, Сяніцкі, Сянкевіч, Табішэўскі, Тамашоўскі, Тамашэўскі, Тарашоўскі, Трабецкі, Трубецкі, Трошчаль, Тросцель, Трушкоўскі, Турно, Турабойскі, Уздоўскі, Ушдоўскі, Фінк, Фокс, Францасон, Фрэдра, Халецкі, Хархоўскі, Харленскі, Харлінскі, Хіларскі, Хмялецкі, Хабаткоўскі, Хадноўскі, Хадасоўскі, Хамантоўскі, Храпак, Храсціхоўскі, Храсцяхоўскі, Храсцяёўскі, Храсцікоўскі, Хрусцікоўскі, Хылінскі, Ціхаш, Чыжыкоўскі, Шаблёўскі, Шаблоўскі, Шаршынскі, Шаршэньскі, Шарэвіч, Шашэньскі, Шушкоўскі, Шышкоўскі, Шышыловіч, Яблонскі, Ядлоўскі, Яцімерскі, Яцімірскі.

**Крыніцы:**

*Ks. Kacper Niesiecki. Herby i familie rycerskie tak w Koronie jako y w W.X.L. Lwow, 1728.*

*Gajl T. Polish Armorial Middle Ages to 20th Century. - Gdansk: L&L, 2007. - ISBN 978-83-60597-10-1. (польск.)*

*Гербовник дворянских родов Царства Польского. Часть I. Варшава. Типог. С. Оргельбранда. 1853 г. Герб Боньча. стр. 72-86.*

*Okolski S. Orbis Polonus. - Krakow, 1641. - Т. 1. Перевод с лат. яз. М. А. Бонч-Осмоловской*

*Rutka Th. Herby, abo Znaki Kosciola prawdziwego. - Lublin, 1696. Перевод с польск. яз. М. А. Бонч-Осмоловской*

### Баранцэвіч

**Баранцэвічы** - шырока разналінаваны шляхочы род. Баранцэвіч Кастусь і Баранцэвіч Сцяпан (Стэфан) са шляхты Мінскай губерні бралі ўдзел у паўстанні 1863-64 гадоў. Бралі ўдзел у паўстанні і Баранцэвічы з іншых губерняў.

На сейлавіцкіх каталіцкіх могілках не так даўно з'явіўся помнік па **Каспару Баранцэвічу**.

Карысталіся гербам **"Юноша"**.

**Апісанне.**

**Юноша** (польск.: **Junosza**) - шляхецкі герб. У чырвоным полі срэбны баран, які стаіць на зялёнай траве. У клейноце пяць страўсіных пёраў. Першая згадка ў крыніцах - 1335 год.

Іншыя назвы - Ягня, Агнец (Agnus), **Баран** (Baran), Бараны (Barany).

Назва герба **"Баран"** сугучна прозвішчу **Баран**цэвіч.



**Герб Юноша належаў родам:** Амяцінскі, Аранскі, Арлоўскі, Банькоўскі, Баран, Баранцэвіч, Барановіч, Бараноўскі, Баркоўскі, Бароўскі, Бялінскі, Вольскі, Гадлеўскі, Гзоўскі, Галецкі, Галіцкі, Глінскі, Грахоўскі, Гумоўскі, Дабравольскі, Далецкі, Дамброўскі/Дуброўскі, Даражынскі, Дудзінскі, Жукоўскі, Завадскі, Заліўскі, Залускі, Здраеўскі, Кавалеўскі, Каменскі, Камарніцкі, Кернажыцкі, Кісялеўскі, Крымоўскі, Лабоцкі, Ліпніцкі, Лісоўскі, Лямніцкі, Макржыцкі/Макрыцкі, Маліцкі, Малыніч, Мацерна, Мокрскі, Набароўскі, Палікоўскі, Палхоўскі, Панятоўскі, Патоцкі, Паўлоўскі, Плавінскі, Пырскі, Пяскоўскі, Расцішэўскі, Ратомскі, Сабанскі, Сапрыноўскі, Скарлецкі, Сьлівінскі, Смагаржэўскі/Смагарэўскі, Стамкоўскі, Старжынскі, Стапінскі, Стравінскі, Стафаноўскі, Суневіч, Сухадольскі, Хамянтоўскі, Шаняўскі, Шушкевіч, Шымановіч, Шыманоўскі, Шышкоўскі, Яблонскі, Яворскі, Якубовіч, Янішэўскі, Янкоўскі.

**Крыніцы.**

*Bartosz Paprocki. Herby rycerstwa polskiego. Krakow, 1584.*

*Simon Okolski. Orbis Polonus. Krakow, 1642. T.1-3.*

*Ks. Kacper Niesiecki. Herby i familie rycerskie tak w Koronie jako y w W.X.L. Lwow, 1728*

*Гербоўнік беларускай шляхты.Т.2.Б. С. Рыбчонак [і інш.]. - Мінск: НАРБ, 2007. - 672 с.: іл. - ISBN 978-985-6372-52-3.*

*Северин Уруский. Семья. Гербовник шляхты польской. В пятнаццати томах. Т. 6. Стр. 117. Гродно. Ламарк. 2011.*

*Леанід Лаўрэш*

# Спіс былых сяброў Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў

Беларуская партыя сацыялістаў-рэвалюцыянераў (БПС-Р) ці Партыя беларускіх эсэраў існавала з 1918 па 1924 г. Партыя пачала фарміравацца ў красавіку 1918 г. Ініцыятарам стварэння была народніцкая група на чале з Тамашом Грыбам і Палутай Бадуновай, якая выступіла супраць правага крыла ЦК Беларускай сацыялістычнай грамады (БСГ) за яго падтрымку германскай арыентацыі Рады Беларускай Народнай Рэспублікі і заявіла пра сваю аўтаномію ў рамках БСГ. Прадстаўнікі групы выйшлі з Народнага сакратарыята БНР і ў траўні 1918 г. заявілі аб стварэнні БПС-Р. Кіраўнічае ядро партыі склалі выхадцы з БСГ: М. Асвяцімскі, П. Бадунова, Т. Грыб, Л. Заяц, А. Карач, Я. Ладноў, Я. Мамонька, А. Маркевіч, С. Некрашэвіч, Ф. Шантыр, М. Шыла і інш. Пазней да іх прымкнулі В. Ластоўскі і А. Цвікевіч. Заўважу, што Ладноў праз нейкі час стаў агентам польскай выведкі.

З канцы 1920-га г. савецкая ўлада пачала арышты сяброў партыі на тэрыторыі БССР. У 1924 г. у Заходняй Беларусі эсэры уступілі ў КПЗБ. На з'ездзе ў Менску ў чэрвені 1924 г. партыя самараспусцілася. Сяброў партыі прымалі ў Кампартыю на індывідуальнай аснове.

Такім чынам адбылася самаліквідацыя партыі.

Але дзейнасць у складзе партыі і беларускі патрыятызм савецкая ўлада ніколі не даравала. У канцы 1920-30-х гг. усе былыя члены партыі беларускіх эсэраў былі беспадстаўна рэпрэсаваны. У 1937 г. былыя кіраўнікі БПС-Р прыцягнуты да судовай адказнасці па так званай "справе эсэраў" і прыгавораны да вышэйшай меры пакарання.

Такім чынам, спіс 1925 г. гэта спіс асоб, якія жылі ў Заходняй Беларусі і ўжо не з'яўляліся сябрамі гэтай партыі. Сярод іх шмат вядомых у беларускай гісторыі асоб. Спіс з Экспазітуры Палітычнай паліцыі ў Вільні быў разасланы па ўсе павятовыя камендатуры паліцыі.

## Спіс былых сяброў Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў для інфармацыі і выкарыстання[1]

11.05.1925

1. **Астроўскі Радаслаў**, жыве ў Вільні па вул. Вострабрамскай, 8. Дырэктар беларускай гімназіі ў Вільні. Сябар так званай "Кіруючай беларускай тройкі".

2. **Рак-Міхайлоўскі Сымон**, жыве ў Вільні па вул. Вастрабрамскай, 7. Пасол, сябар "Тройкі". Былы сябар ЦК Беларускай Сацыялістычнай грамады, дзе стаяў на крайне левых пазіцыях.

3. **Сокалава Алена**, жыве ў Вільні па вул. Вастрабрамскай, 11-5. Настаўніца.

4. **Самойла Уладзімір**, жыве ў Вільні. Супрацоўнік беларускіх газет выдаваных Віленскім Беларускім Нацыянальным камітэтам.

5. **Будзька Эдвард**, жыве ў Вільні. Кааператар. Родны брат Будзькі, які знаходзіцца ў Менску на службе ў бальшавікоў.

6. **Савіцкі Ян**, жыве ў Вільні. Настаўнік беларускай гімназіі, сябар Беларускай Цэнтральнай Школьнай Рады ў Вільні.

7. **Гаўрылік**, настаўнік беларускай гімназіі, сябар Беларускай Цэнтральнай Школьнай Рады ў Вільні.

8. **Рагуля Васіль**, пасол, сябар Беларускай Цэнтральнай Школьнай Рады ў Вільні. Настаўнік народнай школы ў Воршы, б. сябар партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў і адначасова бальшавіцкі шпег і правакатар.

9. **Касцевіч Макар**, жыве ў Вільні па вул. Людвісарскай, 4. Фактычны рэдактар газеты "Грамадскі голас", старшыня беларускага таварыства "Прасвета". Былы народны настаўнік, былы сябар Беларускай Сацыялістычнай грамады.

10. **Кернажыцкі**, жыве ў Сініяўцы Браслаўскага павета. 1-шы сакратар таварыства "Прасвета". Былы народны настаўнік, былы сябар Беларускай Сацыялістычнай грамады.

11. **Чыжэўская Марыя**, 2-я сакратарка таварыства "Прасвета", былая настаўніца, агентка

[1] Дзяржаўны архіў Гарадзенскай вобласці. Ф. 200. Воп. 1. Адз. зах. 101. Арк. 70 - 77. адв.

Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

12. **Рудзь**, жыве каля Радашковічаў, былы эсэраўскі прыхільнік, некалі прыстаўлены эсэрамі да Алексюка.

13. **Шыла**, жыве ў Вільні, без сталага месца жыхарства, хаваецца. Былы рэдактар газеты выдаванай Віленскім Беларускім Нацыянальным Камітэтам. Супрацоўнік Віленскага Беларускага Нацыянальнага Камітэта, настаўнік, былы прыхільнік эсэраў.

14. **Крачкоўскі**, жыве ў г. Радашковічы, былы агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта ў Радашковічах.

15. **Дудка**, жыве ў г. **Маладзечна**, былы прыхільнік эсэраў.

16. **Канчук**, жыве ў м. Любча, былы агент эсэраў.

17. **Раковіч**, жыве ў вёсцы Карэлічы Наваградскага павета, былы агент эсэраў.

18. **Навумовіч**, жыве ў в. Русочын Наваградскага павета, былы агент эсэраў.

19. **Гарэляк**, жыве ў м. Танута Вілейскага павета, былы агент эсэраў.

20. **Іўжык**, жыве ў м. Кавалі, былы агент эсэраў.

21. **Станкевіч Міхал**, жыве ў м. Забрэззе, былы агент эсэраў.

22. **Маршал Даніл**, жыве ў м. Забрэззе, былы сябар эсэраўскай "ячэйкі".

21. *(Спіс працягваецца зноў з №21. - Л. Л.)* **Якімовіч**, засценак Клушын Дзісненскага павета, агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

22. **Аношка**, засценак Клушын Дзісненскага павета, агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

23. **Шчыркоўскі Уладзімір**, жыве ў **в. Новы Свержань Нясвіжскага павета**, агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

24. **Макулак Юры**, жыве ў в. Алекшыцы Гарадзенскага павета, агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

25. **Янчыковіч Мікалай**, жыве ў в. Свірыдавічы Ашмянскага павета, беспрацоўны беларускі настаўнік, агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

26. **Губка А.** (солтыс), жыве ў вёсцы Цэдзевічы Свянцянскага павета, агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

27. **Губка**, жыве ў вёсцы Цадзевічы Свянцянскага павета, камуніст.

28. **Лавейка П.** жыве з в. Сазаны Дзісненскага павета, камуніст.

29. **Нарэйка Якуб**, жыве ў в. Саўкава Дзісненскага павета, камуніст.

30. **Нарэйка Аляксандр**, жыве ў в. Саўкава Дзісненскага павета, камуніст.

31. **Лавейка Вінцэнт**, жыве ў фальварку Бабічава Дзісненскага павета, камуніст.

32. **Белавусава**, жыве ў в. Ледзьня Слонімскага павета, беларуская настаўніца, камуністка.

33. **Аляхновіч Антон** (поп), жыве ў Косаўскім павеце, агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

34. **Сіняўскі Дзмітрый**, жыве ў в. Казінкі Дзісненскага павета, займаецца пераводам праз мяжу.

35. **Шэлеч Адам**, жыве ў в. Гаўрыльчыцы Лунінецкага павета, камуніст-прыхільнік.

36. **Сялінскі Юльян**, жыве ў вёсцы Вордзішкі Ашмянскага павета, камуніст.

37. **Тробз Антон**, жыве ў в. Корабы Ашмянскага павета, прыхільнік, камуніст.

38. **Гонікман**, жыве ў Гародні, працуе на тытунёвай фабрыцы, ранейшай Шарашэўскага, камуніст.

39. **Цар Міхал**, жыве ў Гарадзенскім павеце, камуніст-агітатар.

40. **Мазуркевіч**, жыве ў Гародні, рабочы, сябар Прафсаюзнага класавага звязу (Zawodowego Zwiazku Klasowego), камуніст.

41. **Вайшовіч Антон**, жыве ў в. Сышавічы Вілейскага павета, сябар дыверсійнай банды, камуніст.

42. **П..оз А**. жыве ў в. Сышавічы Вілейскага павета, сябар Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі, дыверсант.

43. **Зарэцкі Пётр**, жыве ў Лунінцы, камсамолец.

44. **Ігнатовіч** (?) …, жыве ў мястэчку Азёры Гарадзенскага павета, камуніст-агітатар.

45. **Масылевіч Аляександр**, жыве ў в. Вялікая Калпеніца Баранавіцкага павета, камсамолец.

46. П**рымак Дзям'ян**, жыве ў вёсцы Углевічы Косаўскага павета, сябар мясцовай ячэйкі.

47. **Шнаркевіч**, жыве в **г. Нясвіжы**, сябар Беларускай Цэнтральнай Школьнай Рады ў Вільні, настаўнік і былы дырэктар Беларускай гімназіі ў Нясвіжы, былы агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта, сакратар Беларускага пасольскага клуба.

48. **Дусіцкі**, жыве ў Віленскім павеце, агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

49. **Насуцкі**, жыве ў г. Бельск, былы агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

50. **Пакчынскі**, жыве ў г. Ашмяны, былы агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта і загадчык Беларускага пасольскага клуба ў Ашмянах.

51. **Барысевіч**, жыве ў в. Блашаклі Дзісненскага павета, былы прыхільнік …

52. **Круткоўскі**, жыве ў в. Краснае Вілейскага павета, былы настаўнік, былы агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

53. **Дакурна Пётр**, жыве ў в. Балчава Вілейскага павета, былы агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

54. **Дудка Уладзімір**, жыве ў в. Зарудзіча Вілейскага павета, былы агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

55. **Савіцкая**, жыве ў в. Краснае Вілейскага павета, былая касірка эсэраў.

56. **Савіцкі Уладзімір**, жыве ў в. … Вілейскага павета, былы агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

57. **Хлябец**, жыве ў в. …, Вілейскага павета, былы эсэр.

58. **Рамановіч**, жыве ў в. ..., Вілейскага павета, былы эсэр.

59. **Рамановіч**, жыве ў в. …, Вілейскага павета, былы эсэр.

60. **Ліновік**, жыве ў Вільні, былы прыхільнік эсэраў.

61. **Навіцкі**, жыве ў Вільні, былы эсэр.

62. **Палівода**, жыве ў г. Маладзечна, былы агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

63. **Посах**, жыве ў г. Маладзечна, былы настаўнік, былы агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

64. **Шынка**, жыве ў г. Маладзечна, былы агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

65. **Буткевіч**, жыве ў в. Жупраны Ашмянскага павета, былы агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

66. **Кастусь Ян**, жыве ў в. С… Наваградскага павета, былы прыхільнік эсэсраў.

67. **Шнаркевіч Ян** (насамрэч Язэп, ужо ёсць пад № 47. - *Л. Л.*), сябар Беларускай Цэнтральнай Школьнай рады ў Вільні, былы дырэктар Беларускай гімназіі ў Нясвіжы, былы агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

68. **Гаўрыльчык Палікарп**, жыве ў в. Рудакі Дзісненскага павета, былы прыхільнік эсэраў.

69. **Баравік**, жыве ў в. Сольча Дзісненскага павету, былы прыхільнік эсэраў.

70. **Давідовіч**, жыве ў **в. Новы Мядзель Нясвіжскага павета**, былы кааператар, былы агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

71. **Рак**, жыве ў м. Косаў, былы агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

72. **Мялеха**, жыве ў г. Косаў, былы агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

73. **А. Юрэвіч**, жыве ў г. Косаў, былы агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

74. **Клютка**, жыве ў в. Яглавічы Косаўскага павета, загадвае сакратарыятам Беларускага пасольскага клуба, былы агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

75. **Переалоцкі**, жыве ў в. Яглавічы Косаўскага павета, былы агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

76. **Гунька Павел**, жыве ў ст. Ландвараў, былы прыхільнік эсэраў.

77. **Тарука Янка**, жыве ў в. Ізабелін Дзісненскага павета, былы агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

78. **Лабуска**, жыве ў м. Глыбокае Дзісненскага павета, былы агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

79. **Нарка**, жыве ў м. Ілья Вілейскага павета, былы агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

80. **Макоўскі Ян**, былы агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

81. **Тайка**, жыве ў м. Глыбокае Дзісненскага павету, былы настаўнік і агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

82. **Калеснікаў**, жыве ў г. Валожын, былы агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

83. **Міхасевіч Захар**, жыве ў в. Княжын Дзісненскага павета, былы афіцэр, былы прыхільнік эсэсаў.

84. **Буры**, жыве ў **г. Нясвіж**, былы агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

85. **Пінчук**, жыве ў **г. Нясвіж**, былы агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

86. **Паверзак**, жыве **г. Нясвіж**, былы агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

87. **Дубіцкая**, жыве ў Вільні, агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

88. **Марцінчык**, жыве ў Вільні, студэнт УСБ, старшыня Віленскага аб'яднання студэнтаў, агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

89. **Лабенец**, жыве ў Вільні, студэнт УСБ, сябар Віленскага аб'яднання студэнтаў, агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

90. **Гаворка**, жыве ў Наваградку, былы эсэр.

91. **Пронька**, жыве ў Наваградку, былы эсэр.

92. **Салавей,** жыве ў Вільні, адказны рэдактар газеты "Грамадскі голас", былы эсэр.

93. **Пратас**, жыве ў в. Касаворына Дзісненскага павета, былы прыхільнік эсэраў.

94. **Брахун Аляксандр**, жыве ў в. Ялаўцы Дзсіненскага павета, былы прыхільнік эсэсраў.

95. **Барысевіч Рыгор (Барысёнаў Васіль)**, жыве ў в. Ялаўцы Дзісненскага павета, былы прыхільнік эсэраў.

96. **Сяняўскі Ян**, жыве ў в. Казінка Дзісненскага павета, былы прыхільнік эсэраў.

97. **Вацура Дзмітрый**, жыве ў в. Казінка Дзісненскага павета, былы прыхільнік эсэраў.

98. **Цвірка Віктар**, жыве ў в. Кучкуны Стаўпецкага павета, былы прыхільнік эсэраў.

99. **Шпакоўскі**, жыве ў в Кучкуны Стаўпецкага павета, былы прыхільнік эсэраў.

100. **Бабарыка Мікалай**, жыве ў в. Зазнава Вілейскага павета, былы прыхільнік эсэраў.

101. **Юркевіч Тамаш**, жыве ў в. Зазнава Вілейскага павета, агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

102. **Тамашэўскі**, жыве ў м. Лебедзева Вілейскага павета, агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

103. **Талочка Тэадор**, жыве ў в. Гылевічы Дзісненскага павета, былы прыхільнік эсэраў.

104. **Шэнда Стэфан**, жыве ў в. Гылевічы Дзісненскага павета, былы агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

105. **Марголіс**, жыве ў м. Мёла Дзісненскага павета, агент былога Пасольскага клуба.

106. **Грыдзюшка Якуб**, жыве ў в. Беляны Дзісненскага павета.

107. **Хаданёнак Зыгмунт**, жыве ў в. Навасельцы Дзісненскага павета, былы агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

108. **Ранода Аляксандр**, жыве ў в. Верацелі Дзісненскага павета, былы агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

109. **Роўда Дзімітрый**, жыве ў м. Германічы Дзісненскага павета, былы прыхільнік эсэраў.

110. **Рымдзюнак Васіль**, жыве ў в. Бруйкі Дзісненскага павета, былы агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

111. **Катовіч Адольф**, жыве ў в. Баяры Дзісненскага павета, былы прыхільнік эсэсраў.

112. **Ластоўскі Ян**, жыве ў в. Баяры Дзісненскага павета, былы агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

113. **Козан Ян**, жыве ў в. Бальбекі Дзісненскага павета, былы агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

114. **Рабіза**, жыве ў в. Пашкі Дзісненскага павета, былы агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

115. **Рымдэнак Віктар**, жыве ў в. Пашкі Дзісненскага павета, былы агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

116. **Ячыноўскі Ян**, жыве ў в. Стрэліца Дзісненскага павета, былы агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

117. **Фёдараў Мацей**, жыве ў в. Атокі Дзісненскага павета, былы агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

118. **Юркоўскі**, жыве ў в. Пліса Дзісненскага павета, займаецца суправаджэннем праз мяжу, былы прыхільнік эсэсраў.

119. **Грыч**, жыве ў в. Пліса Дзісненскага павета, займаецца суправаджэннем праз мяжу, былы прыхільнік эсэраў.

120. **Мядзёлка**, жыве ў в. Шаркаўшчына Дзісненскага павета, былы агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

121. **Сямянка**, жыве ў в. Пескі Косаўскага павета, настаўнік, былы агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

122. **Кабяка Любоў**, жыве ў в. Бацянка Дзісненскага павета, былая настаўніца, былая прыхільніца эсэраў.

123. **Стасючонак Ян**, жыве ў в. Папелі Дзісненскага павета, былы прыхільнік эсэраў,

124. **Таманоўскі Міхал**, жыве ў в. Канцэрва Дзісненскага павета, былы прыхільнік эсэраў.

125. **Шчасновіч Анна**, жыве ў в. Псюя Дзісненскага павета, былая прыхільніца эсэраў.

126. **Глебка**, жыве ў в. Абухава Дзісненскага павета, займаецца суправаджэннем праз мяжу.

127. **Нігурэй**, солтус, жыве ў в. Буйкі Дзісненскага павета, былы настаўнік, былы агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

128. **Грыгор'еў**, поп, жыве ў г. Дзісна, былы агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

129. **Лабунька**, жыве ў м. Глыбокае Дзісненскага павета, былы агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

130. **Сідаровіч Павел**, жыве ў Вільні, былы прыхільнік эсэраў.

131. **Шымевіч Павел**, жыве ў Вільні, былы прыхільнік эсэраў.

132. **Святагор Стэфан**, жыве ў Вільні, агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

133. **Шымуць Ян**, жыве ў м. Баруны Ашмянскага павета, агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

134. **Кірылюк**, жыве ў в. Плюсты Ашмянскага павета, агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

135. **Бычкоўская**, жыве ў в. Жупраны Ашмянскага павета, агентка кс. Станкевіча.

136. **Казёл Сымон**, жыве ў в. Ардэя Ашмянскага павета, былы эсэр.

137. **Казлоўскі Тэадор**, жыве ў в. Міхалевічы Вілейскага павета, былы эсэр.

138. **Сідаровіч**, жыве ў в. Вавукі Ашмянскага павета, былы эсэр.

139. **Чаплінскі**, жыве ў в. Мураваная Ашмянка, агент ксяндза Станкевіча.

140. **Мурашка**, жыве ў м. Смаргоні Ашмянскага павета, зараз займаецца гандлем, былы настаўнік, былы агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

141. **Трызна**, жыве ў м. Смаргоні Ашмянскага павета, кааператар, былы агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

142. **Жабінскі**, жыве ў м. Смаргоні Ашмянскага павета, былы агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

143. **Бурсевіч**, жыве ў в. Каменны Лог Віленскага павета, настаўнік, былы агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

144. **Латышкевіч**, жыве ў в. Рудзішкі, агент кс. Станкевіча.

145. **Альшэўскі Ян**, жыве з в. Зачорац Валожынскага павета, былы агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

146. **Вастрамецкі**, жыве ў в. Яросмішкі Валожныскага павета, былы агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

147. **Савіцкая Вера**, жыве ў в. Карабачы Свянцянскага павета, настаўніца, былая прыхільніца эсэраў.

148. **Мяцеліца**, жыве ў Лужкі Дзісненскага павета, былы агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

149. **Мільневіч**, жыве ў в. Лужкі Дзісненскага павета, былы агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

150. **Граб**, жыве ў в. Сучаняты Свянцянскага павета, агент кс. Станкевіча.

151. **Рымкевіч**, жыве ў в. Свейкшыны Свянцянскага павета, былы агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

152. **Блажык Казімір**, жыве ў м. Опса Браслаўскага павета, былы агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

153. **Хрышчановіч Юзаф**, былы агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

154. **Дук Мікалай**, жыве ў в. Рабцы Вілейскага павета, былы агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

155. **Мацюта Філіп**, жыве ў в. Верамейкі Вілейскага павета, былы агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

156. **Бандар Ян**, жыве ў в. Вялікае Сяло Вілейскага павета, былы агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

157. **Шлойда Ян**, былы агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

158. **Кажура Пётр**, жыве ў м. Ілля Вілейскага павета, былы агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

159. **Капусцінскі**, жыве на ст. Залессе Вілейскага павета, адвакат, былы агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

160. **Карыцкі Ігнат**, жыве ў в. Шыкова Вілейскага павета, былы прыхільнік эсэраў.

161. **Смалонская**, жыве ў в. Сычавічы Вілейскага павета, настаўніца, былы агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

162. **Хадкевіч Адам**, жыве ў фальварку Зосня Дунілавецскага павета.

163. **Шашка Канстанцін**, жыве ў м. Докшыцы Дунілавецкага павета, былы прыхільнік эсэраў.

164. Муха **Андрэй**, былы прыхільнік эсэраў.

165. **Крыкун Юзаф**, жыве ў ваколіцах Докшыцаў, былы агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

166. **Шэваль Мацей**, жыве ў м. Докшыцы, былы агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

167. **Шасцярнік Юзаф** з ваколіц Докшыц, былы агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

168. **Астаповіч**, жыве ў м. Новая Мыш, былы агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

169. **Грап Васіль**, жыве ў в. Лукавічы Наваградскага павета, былы агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

170. **Гімуэль Сяргей**, жыве ў в. Лукавічы Наваградскага павета, былы агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

171. **Грышч Афанасі**, жыве ў в. Пацавічы Ваўкавыскага павета, беларускі настаўнік, былы прыхільнік эсэсраў.

172. **Янушэнка Анастас**, жыве ў пошце в. Карэлічы Наваградскага павета, паручнік рускай арміі, былы прыхільнік эсэраў.

173. **Сак Канстанцін**, жыве ў Наваградскім павеце, беларускі афіцэр, былы прыхільнік эсэраў.

174. **Забалотны**, жыве ў м. Свіслач Ваўкавыскага павета, былы агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

175. **Углік**, жыве ў м. Картуз-Бяроза Баранавіцкага павета, агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

176. **Лапушынскі Міхал**, жыве ў м. Лунінцы, былы агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

177. **Шулакоўскі Ян**, жыве ў в. Завостраў Лунінецкага павета, былы агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

178. **Карловіч Адам**, жыве ў в. Вільча Лунінецкага павета, былы прыхільнік эсэраў.

179. **Давідовіч**, жыве ў в. Вільча Лунінецкага павета, былы прыхільнік эсэраў.

180. **Мысліцкі**, жыве ў в. Маршчаковічы Лунінецкага павета, займаецца суправаджэннем за мяжу.

181. **Наўмовіч Васіль**, жыве ў в. Мілевічы Лунінецкага павета, беларускі афіцэр, былы прыхільнік эсэраў.

182. **Цыліпюк**, жыве ў в. Вастынь Лунінецкага павета, былы агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

183. **Палазот Дзмітрый**, жыве ў в. Лактычы Лунінецкага павета, былы агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

184. **Дашкевіч**, жыве ў в. Чучэвічы Лунінецкага павета, былы прыхільнік эсэраў.

185. **Міхалоўскі Мікалай**, жыве ў в. Бурдзейкі Лунінецкага павета, былы прыхільнік эсэраў.

186. **Трухан**, жыве ў в. Вераб'евічы Слонімскага павета, былы прыхільнік эсэраў.

187. **Давідзік**, жыве ў вю Вераб'евічы Слонімскага павета, солтыс, былы агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

188. **Каляда**, жыве ў м. Белавежа, былы агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

189. **Грынь**, жыве ў Парэччы каля Гародні, агент ксяндза Станкевіча.

190. Г**ардзейка Юстын**, жыве ў в. Галін Касаўскага павета, настаўнік, былы агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

191. **Давідовіч Рыгор**, жыве ў в. Бусяж Косаўскага павета, былы агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

192. **Сеўрук**, жыве ў м. Скідзель каля Гародні, былы агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

193. **Новік**, жыве ў Гародні, былы прыхільнік эсэраў.

194. **Ільяшэнак**, жыве ў Гародні, былы агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

195. **Аршун**, жыве каля Гародні, настаўнік.

196. **Баліцкі**, жыве каля Гародні, настаўнік.

197. **Вітка Васіль**, жыве ў в. Хінавічы Гарадзенскага павета, былы агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

198. **Чабатарэвіч**, жыве ў м. Скідзель каля Гародні, былы агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

199. **Бабінскі Міхал**, жыве ў в. Сяргейчыкі Дзісненскага павета, агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

200. **Чарка**, жыве ў в. Кейзікі Дунілавіцкага павета, агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

201. **Танан**, жыве ў в. Кейзікі Дунілавецкага павета, агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

202. **Вярцінскі Дзмітрый**, жыве ў в. Кухцінцы Дзісненскага павета, агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

203. **Бабіч Рыгор**, жыве ў в. Залессе Дзісненскага павета, настаўнік.

204. **Швак Адам**, жыве ў **в. Гарні Нясвіжскага павета**, агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

205. **Кунч Сымон**, жыве ў **в. Гарні Нясвіжскага павета**, агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

206. **Тарашкевіч Ян**, жыве ў в. Нязнанава Наваградскага павета, агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

207. **Радзюк Міхал**, жыве ў в. Нязнанава Наваградскага павета, агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

208. **Бурац Васіль**, жыве ў в. Лапейкі Дзісненскага павета, агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

209. **Гаўрыльчык Мікалай**, жыве ў в. Лапейкі Дзісненскага павета, б. эсэр.

210. **Мялешка Ян**, жыве ў в. Гародзькі Валожынскага павета, супрацоўнік …, агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

211. **Трусаў Якуб**, жыве ў в. Хатулькі Дзісненскага павета, б. эсэр.

212. **Станкевіч Марыя**, жыве ў в. Гародзькі Валожынскага павета, настаўніца, беларуска, камуністка, агентка Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта. Падчас прыходу бальшавікоў дэманстравала сац. перакананні, выгналі са школы за рэлігійную абразу.

213. **Станкевіч Міхал**, сын Ануфрыя, жыве ў в. Гародзькі Валожынскага павета, беларускі настаўнік, агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта, сацыяліст-рэвалюцыянер.

214. **Станкевіч Міхал сын Адама**, жыве ў в. Гародзькі Валожынскага павета, беларускі настаўнік, беспрацоўны, камуніст.

215. **Мядзелка**, жыве за 23 км ад Глыбокага Дзісненскага павета, агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта, б. эсэр, брат Мядзелкі-Грыб, якая зараз у Літве.

216. **Гаркуш Аляксандр** (поп), жыве ў в. Юдзегна Дзісненскага павета, бальшавіцкі агітатар, агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

217. **Кушкі Аляксандр**, жыве ў в. Бронік Гарадзенскай гміны, агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

218. **Баланюк**, жыве ў в. Сіманава гміны Мір, агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

219. **Скрабец**, жыве ў г. Наваградку, агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

220. **Сямейка Канстантын**, жыве ў в. Асава Докшыцкай гміны, агент Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта.

***Кашэўскі**,*
*кіраўнік Канцылярыі Экспазітуры*
*Палітычнай паліцыі ў Вільні.*

*В. А. Акула*

# На паўднёвы захад ад Мінска

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

**АДХОДЗІМ ДАЛЕЙ**

Снегапад загнаў у схованку амаль усіх партызан. І раптам каманда:

- Трэцяя рота, выходзь шыхтавацца!

Хлопцы заварушыліся. Лагерманаў узяў кулямёт, я - дыскі і падаліся да выхаду.

Камандзір роты М. Г. Саўчанка абвясціў, што брыгада ўначы пойдзе на прарыў. Прыкрываць адход даручана нашай роце.

- Самі разумееце, будзе туга,- заўважыў ён,- браць з сабой толькі неабходнае.

- Патронаў - як кату пад'есці, Марк Гаўрылавіч, - заўважыў камандзір звяза Радзецкі.

- Ведаю, - адказаў Саўчанка. - Абяцалі дапамагчы. Камбрыг загадаў атрадам выдзеліць для нас боепрыпасы.

У жыцці партызанскай брыгады наставаў адказны момант. Нам трэба было не толькі выжыць, але і захаваць сілы для будучых баёў. Праціўнік асядлаў усе дарогі, заняў важныя ў тактычным плане вышыні. Бесперапынны артылерыйска-мінамётны агонь па месцах стаянак, пастаянныя сутычкі - усё гэта разлічвалася ворагам на прыгнечанне нашага маральнага духу, зніжэнне баяздольнасці. Не толькі днём, але і начамі грукатаў рупар, аглушаючы наваколле:

- Рус партызан, здавайся, ві акружаны!

Мы рыхтаваліся да прарыву. Ажылі буданы. Замітусіліся камандзіры і байцы. То тут, то там чуліся прыглушаныя каманды, гутаркі. У цемры шыхтаваліся звязы, роты.

Правесці ўдар вырашана было ў бок Сабельскага канала і, прарваўшы акружэнне, адходзіць у глыб палескіх балот. Зборная група кулямётчыкаў і аўтаматчыкаў пайшла наперад. За імі рушыла вялікая маса ўзброеных партызан. Толькі наша рота заставалася на месцы. Вось і апошні звяз схаваўся ў цемры.

Прыкладна праз паўгадзіны паблізу раздаліся аўтаматныя чэргі. Лес адгукнуўся суцэльнай стральбой. Адбіваючыся, мы адыходзілі. Неўзабаве на месцы нашых стаянак успыхнулі вогнішчы - гарэлі буданы. Наперадзе таксама пачулася перастрэлка.

- Пачалося! - сказаў Саўчанка.

Зборная група рассеяла праціўніка. Брыгада спешна ўваходзіла ў прарыў. І зноў, у які раз, паўтараецца знаёмая карціна. Ракеты паласуюць неба, аўтаматныя чэргі раздзіраюць цемру, людзі бягуць, валяцца і зноў паднімаюцца, страляючы на хаду. У такіх выпадках больш усіх дастаецца бедным абознікам. Яны павінны беспамылкова арыентавацца ў цемры, здолець праскочыць паміж канавамі, пнямі, дрэвамі.

Світанак заспеў нашу роту каля абрамленага зараснікамі Сабельскага канала, які роўнай лініяй ідзе на поўдзень. Праследнікі спыніліся. Ракеты скакалі кіламетры за два ад нас. Час ад часу ў лесе рваліся снарады. Пад нагамі мокра, холадна. Мы сабраліся ў кола.

- Брыгада адышла далёка, - сказаў М. Г. Саўчанка, - сляды слаба прыкметныя, снегам засыпала. Будзем даганяць, але не выключана, што дарогі мініраваны. Прапаную рухацца каналам.

Прайшлі каналам кіламетры чатыры. Па гладкім лёдзе нязручна ісці. Снег, які толькі што выпаў, яшчэ не паспеў ушчыльніцца і слізгаў пад нагамі, стрымліваючы рух. Здавалася, нягледзячы на стаtранне, топчамся на месцы.

- Таварыш камандзір, з такой хуткасцю не дагнаць нам сваіх, - заўважыў Гладоўскі, - Можа, на бераг пяройдзем?

Саўчанка адышоў у бок, агледзеў стомленых байцоў.

- Прывал! - падаў каманду.

Але размяшчацца на моцным рэзкім ветры, які гуляў у рэчышчы канала, не рызыкнулі. Выбраліся на бераг, аблюбавалі невялікую катлавіну, якая пазарастала нізкім хмызняком, і стомлена зваліліся на снег. Сёй-той пачаў засынаць. Гэта ўстрывожыла камандзіра роты. Ён хадзіў паміж намі, угаворваў трымацца. Харчовыя пайкі падзялілі на ўсіх, падмацаваліся. І гэтай драбніцы аказалася досыць, каб падняўся настрой.

Кароткія зімовыя дні. Прайшлі зусім мала, а ўжо пераваліла за поўдзень. Стала пахмурна, схаваўся ў імглістым марыве лясок. Мы так і не разглядзелі, ці вялікі ён. Але ўсё адно лес, а не гэты хмызняк, перасечаны каналам, ды разбягаўшыеся ва ўсе бакі чэзлыя сасёнкі. Да лесу і рушылі.

Не паспелі дабрацца да ўзлеску, як вакол пачалі рвацца міны. Усе заляглі, каб перачакаць першыя хвіліны абстрэлу. Дзіўная справа - ні кулямётаў, ні аўтаматаў не чуваць. Толькі міны густа кладуцца вакол.

- Як яны намацалі? - нерваваўся Саўчанка,

разглядаючы ў бінокль узлесак.

Затым ён падаў каманду:

- Рота, за мной! - і грузна, цяжка пабег наперад.

Мы кінуліся за ім. І раптам убачылі: з-за лазняку ў нашым кірунку выбеглі людзі ў зялёным з аўтаматамі.

Толькі цяпер я зразумеў, чаму Саўчанка так паспешліва падняў роту і імкліва пабег да лесу, нягледзячы на мінамётны абстрэл. У гэтым было наша выратаванне. Мы беглі, а напярэймы - немцы. Усё бліжэй і бліжэй. Такое пачуццё, быццам усё гэта адбываецца ў сне, калі нясешся з велізарнай стромы ўніз, і трэба б спыніцца, ды зрабіць гэта ўжо не ў сілах.

Раздалася аўтаматная чарга, яшчэ і яшчэ. Не чуваць свісту куль, дыханне спірае, у грудзях стала балюча. А Саўчанка ўсё бяжыць. Раптам ён спыніўся. Кароткая чарга - і немец зваліўся ў снег. Усе партызаны адкрылі агонь па бегшых фашыстах.

Лагерманаў паспеў усталяваць кулямёт, і доўгая чарга прыціснула ворага да зямлі. Саўчанка павярнуў роту проста на ворага. Гітлераўцы разгубіліся, замітусіліся сюды-туды, пабеглі назад.

- Ура-а-а! - кацілася па наваколлі.

І зноў паляцелі міны. Яны клаліся густа.

- Да лесу! - прагучаў голас Саўчанкі.

Лес быў зусім побач. Па ўскраіне яго праходзіла добра ўбітая шырокая дарога. Па ёй імчаўся бранявік, паліваючы свінцом перабягаўшых дарогу партызан. Антон Сухоцкі спазніўся, і кулямётная чарга звваліла яго напавал.

Паглыбіўшыся ў лес, зрабілі прывал. Стральба цішэла. Ізноў паваліў буйнымі шматкамі снег. Усе маўчалі.

- М-так, - парушыў маўчанне Саўчанка, - удала выслізнулі. Шкада толькі Антона... А магло быць горш, калі б прыхапілі на канале.

Саўчанка паслаў Мацецкага, Лагерманава, мяне і яшчэ аднаго байца на тое месца, дзе загінуў Сухоцкі. На дарозе трупа не аказалася. Але што гэта?! Мы жахнуліся, убачыўшы перад сабой страшную карціну зверства: ляжаў абгарэлы труп таварыша. Фашысты палілі вогнішча на грудзях загінулага Антона Сухоцкага. Ніколі не забыцца гэтага!

Кінжаламі, нажамі і проста галаруч мы выкапалі яму пад высокай купчастай елкай і пахавалі Антона. Пакляліся помсціць ворагу за яго смерць.

Да раніцы рота пераадолела лясны масіў. Наперадзе раскінулася бязлесае змёрзлае балота. Далей рухацца небяспечна. Пётр Харашэльцаў і Іван Байкаш адправіліся ў выведку. Гадзіны праз паўтары яны вярнуліся з добрай весткай. Кіламетраў за пяць у лесе каля вёскі Вялікія Чучавічы размясцілася наша брыгада.

Жыццё на невялікім астраўку патроху наладжвалася. Ізноў выраслі буданы, групы адпраўляліся на заданні, інтэнсіўна вялася выведка. Але з кожным днём усё мацней даваў адчуваць сябе голад: запасы прадуктаў раставалі, а папаўняць іх не было чым. Выхады да вялікіх вёсак гітлераўцы блакавалі. У лесе ж знаходзіліся толькі адзінокія хутары, жыхары якіх, безумоўна, не маглі забяспечыць нас прадуктамі.

Памятаецца, набрылі аднойчы на такі хутарок. Сустрэў нас гаспадар, увесь у белым, як нябожчык, у лапцях.

- Праходзьце, калі ласка...

У хаце гліняная падлога, маленькія нізкія акенцы і палаткі пад столлю. А на іх, як селядцы ў бочцы, дзеці. Зірнулі на гэтую чараду, і адпала ўсякае ахвота распытваць пра прадукты.

Лагерманаў усё ж намякнуў:

- Баця, можа, лішкі якія знойдуцца? Галадаем.

- А вы спытаеце вунь у іх, як яны сябе адчуваюць.

Дзеці зашморгалі насамі, запішчалі.

- Пуды два бульбачкі засталося, калі дзяцей не шкада, бярыце.

- Што, ураджай слабы быў? - спытаў Лагерманаў.

- Крывёй зямельку напаілі, зараз ужо будзе радзіць, - прамовіў гаспадар, ні на каго не гледзячы.

Спадзяваліся падмацавацца, а выйшла наадварот - аддалі апошняе, што было. Я паклаў на стол кавалак сухога хлеба, Лагерманаў разгарнуў анучку і дастаў з яе драбок цукру.

- Вось вазьмі,- працягнуў ён худзенькай дзяўчынцы.

Тая нясмела ўзяла яго, але есці не стала, а прагна глядзела на хлеб. Не ведала, небарака, што такое цукар.

Тым часам вярнулася з далёкай выведкі Ніна Тароцька. Некалькі тыдняў не было яе, і мы ўжо думалі, што не вернецца наша Ніна. І вось яна з'явілася. Увесь атрад сустракаў дзяўчыну з радасцю. Маленькую, худзенькую Ніну атачылі партызаны.

- Ну, як там?

- Дзе пабывала?

- Крывасёлкі цэлыя? А Руднае?

Пытанні сыпаліся з усіх бакоў.

Ніна прынесла нямала каштоўных звестак з Капыльскага раёна. Яна распавяла, як пасля нашага адходу фашысты жорстка распраўляліся з мясцовымі жыхарамі, палілі вёскі. Такое не забудзецца ніколі.

### УДАЛЫ ПАДРЫЎ

Кожны дзень зводкі Саўінфармбюро паведамлялі пра цяжкія баі на фронце. Адчувалася, што і фашыстам не лёгка. Мы заўважалі гэта па тым, як нямецкае камандаванне здымала ў асобных гарнізонах ахову, якая складалася з кадравых салдатаў, замяняючы яе тылавымі падраздзяленнямі. Выведка паведамляла, што па чыгунках зачасцілі цягнікі. Нягледзячы на цяжкае становішча, якое склалася для нас у пінскіх балотах, камандаванне брыгады вырашыла ўзмацніць дыверсійную працу, каб сарваць дастаўку жывой сілы і тэхнікі на варожы фронт. Дробныя групы маглі непрыкметна выходзіць на заданне.

Халоднай лютаўскай раніцай 1943 года тры групы падрыўнікоў атрада сышлі ў розных кірунках. Нашу ўзначаліў Васіль Гамелька. Энергічны па натуры, ён усяляў у нас упэўненасць, паднімаў настрой.

Вось ён крочыць услед за Мікалаем Бабічам. Я іду за Васілём Гамелькам. Плаўна калышацца яго хударлявая, некалькі гарбаватая постаць пад цяжарам грузу. За мной крочаць Пётр Багданаў, Валодзя Бірук, Васіль Давыдок, Міхась Кныш, Васіль Кляцко, Васіль Лагерманаў, Міхась Дубатоўка.

Досвіткам перасеклі шашэйную дарогу Баранавічы - Слуцк каля вёскі Грыцавічы. У невялікім пералеску спыніліся на днёўку. З наступленнем змяркання рушылі далей. Паспрабавалі павярнуць у кірунку чыгуначнай станцыі Сноў, але каля вёскі Малева нас абстралялі гітлераўцы. Мы ўзялі правей і вырашылі ісці ў знаёмыя месцы. На трэція суткі спыніліся каля нейкага хутара.

Гамелька разгарнуў патрапаную карту і падклікаў усіх да сябе.

- Вось бачыце, зусім побач ад нас Пагарэльцы. Абыйдзем іх злева, - ён павёў пальцам па карце, - і пойдзем у кірунку Падзерычаў.

Адпачылі і зноў у дарогу. Хмызняком прайшлі недалёка ад Пагарэльцаў. Вёска пачынала свой працоўны дзень. З камінoў слупамі падніmaліся дымы, да слыху даносіліся галасы людзей, грук сякер, рыпенне калодзежных жураўлёў. На ўскраіне, што падыходзіла да самага хмызнякау, раптам заліліся брэхам сабакі. Яны, мабыць, учулі нас. Мы хутка прайшлі ўздоўж вёскі і звярнулі правей. Перад намі раскінулася шырокая лагчына, пакрытая рэдкім нізкім ядлоўцам. Крочылі хутка. Спяшаліся перасекчы лагчыну і схавацца ў лесе, што сіняй палоскай віднеўся наперадзе.

Вось і лес. Ён сустрэў нас маўклівым сумам і ўпусціў у свае цёмныя, халодныя "скляпы". Галіны ялін стульваліся над нашымі галовамі. Ішлі, не спыняючыся, прабіраючыся скрозь густыя зараснікі. Сёй-той незадаволена бурчаў, чапляючыся за сукі і карчы. Калі забраліся ў самую глухамань, Гамелька зноў зрабіў прывал.

- Можна распаліць вогнішча, - распарадзіўся ён.

Мы хуценька наламалі сухіх галінак, расчысцілі месца.

Вогнішча гарэла ярка. Пануры, задуменны Гамелька марудліва падкідаў у яго галлё. І вогнішча на імгненне быццам цішэла, а затым успыхвала з новай сілай. Спакойна глядзелі на мудрагелістыя скокі агню таварышы. Стомленыя, яны маўчалі. Раптам вада ў кацялку ўздыбілася і плюхнулася цераз край.

- Вось і гарбатка гатова, - падхапіўся Бабіч і дрыжаўшы яшчэ кацялок паставіў на снег, - з партызанскай заварачкай, - пажартаваў.

Сапраўды, цяжка было зразумець, чаго больш у нашым кацялку: вады ці асмаленых іголак.

Папіўшы кіпеню, Гамелька паслаў Мікалая, Валодзю і мяне ў выведку. Закінуўшы вінтоўкі за плечы, мы пайшлі, але неўзабаве вярнуліся: да чыгункі было недалёка. Уся група адправілася ў дарогу. Перабраліся цераз дробную, але багністую рачулку Жацераўку і выйшлі паміж вёскамі Савані і Горкі. Скончыўся лес, і наперадзе паказаўся чыгуначны насып. Схаваліся за кустамі, пачалі назіраць. Вартавых не было відаць. Але вось з-за павароту з'явіўся чыгуначнік. Ён ішоў не спяшаючыся, пераступаючы кароткімі крокамі па шпалах. Калі параўняўся з тым месцам, дзе мы схаваліся, спыніўся. Затым хуценька спусціўся з насыпа і пабег да кустоў.

Аказалася, што гэта быў памочнік дзяжурнага па станцыі Гарадзея Іосіф Шпак. Ішоў пасля змены ў вёску да сваіх знаёмых. Спачатку ён быў не вельмі гаваркі, але затым паведаміў, што на станцыі стаіць цягнік з 24 танкамі, які павінен адправіцца з Гарадзеі на Стоўбцы заўтра ў восем раніцы.

- Не хлусіш? - ажывіўся Гамелька.

- Навошта мне хлусіць, - адказаў Шпак, - сам бачыў графік. Ды і дзяжурны дакладваў начальніку, што роўна ў восем цягнік будзе адпраўлены.

- Танкі нельга прапусціць, - заўважыў Гамелька.

- А можа, гэта ўсё хлусня? - усумніўся Міхась Кныш і падышоў да затрыманага. - Ты ведаеш, што табе за гэта будзе?

- Уначы такі груз яны не рызыкнуць адправіць... Не павінны, - ужо сумняваючыся, сказаў чыгуначнік.



*Гамелька В. Я.*



*Кныш М. Н*

Ён, вядома, разумеў, што яго чакае, калі па нейкіх прычынах парушыцца, графік.

- Не павінны! - перадражніў яго Валодзя Бірук, - а раптам адправяць? Пратырчым ноч дарма на такім холадзе.

І ўсё ж вырашылі чакаць цягніка з танкамі. Палоннага свайго не адпусцілі. Па чарзе дзяжурылі ўсю ноч. Прамерзлі да мозгу костак. А па чыгунцы з грукатам і ляскам праносіліся цягнікі.

- Дванаццаты, - уздыхнуў Мікалай Бабіч, - Гэтулькі прапусцілі!

- Можа, яны ішлі з якім-небудзь барахлом,- заўважыў Гамелька, - а той з танкамі. Ты разумееш, што такое дваццаць чатыры танкі? Гэта амаль танкавы батальён не дойдзе да фронту. А што яны могуць нарабіць там? Будзем чакаць...

Як толькі замігцеў світанак, мы накіраваліся бліжэй да чыгункі. Пачакалі да паловы восьмага ў прыдарожных кустах. Затым Васіль Гамелька і Мікалай Бабіч, захапіўшы тол, адправіліся мініраваць дарогу, а я з Васілём Лагерманавым і Пятром Багданавым заляглі насупраць мінёраў, Валодзя Бірук і Міхась Кныш - злева, а Васіль Кляцко і Васіль Давыдок - справа. Міхась Дубатоўка вёў назіранне з боку станцыі Стоўбцы, каля сябе трымаў Іосіфа Шпака.

Калі міну заклалі і шнур працягнулі, нам далі сігнал зняцца з пастоў. Ізноў сабраліся ў прыдарожных кустах. Пачалі чакаць. Заставалася зусім няшмат да васьмі. Гамелька ўсё паглядаў на гадзіннік, прыкметна нерваваўся. Хваляваліся і мы. Бледны сядзеў наш палонны. Яго слых быў асабліва абвостраны. Ён і пачуў першым.

- Ідзе! - прамовіў Шпак і прыпадняўся на каленях, выцягнуўшы шыю, услухоўваючыся ў аддалены шум.

Неўзабаве і мы пачулі, што набліжаецца састаў. Усё выразней даносіўся перастук колаў. Нарэшце паравоз выскачыў з-за павароту, абдаючы парай наваколле. Ішоў ён на поўным ходу, сапучы і грукочучы, як бы навальваючыся ўсёй сваёй моцай на нас. На платформах, нічым не замаскіраваныя, стаялі танкі.

- Адыходзьце! - загадаў Гамелька і сам узяўся за канец шнура.

Мы пачалі хутка адыходзіць, пераскокваючы з купіны на купіну. З намі бег да смерці перапуджаны чыгуначнік.



*Бірук У. І.*

Пачуўся доўгі паравозны гудок, а затым аглушальны выбух скалынуў паветра. Мы спыніліся, прыслухоўваючыся да скрыгату металу і трэску ламаўшыхся дошак.

Падбег задыханы Гамелька.

- Вось гэта канцэрт! - радасна ўскрыкнуў ён. - Дзякуй табе, братка! - папляскаў ён па плячы чыгуначніка. - Не падвёў.

Той стаяў, разгублена гледзячы на нас.

- Куды ж мне зараз? - спытаў. - Можа, возьмеце з сабой?

- Не, Іосіф,- адказаў Гамелька, - працуй пакуль на станцыі. Спатрэбішся, знойдзем, а цяпер ідзі, куды ішоў, да сваіх знаёмых.

Мы развіталіся з Іосіфам, і ён пайшоў у кірунку вёскі Жыцерава.

Толькі праз два тыдні наша група вярнулася ў свой атрад.

### ПРАРЫЎ

Сакавіцкае сонца цешыла партызан, але і пужала. Яно растапляла і без таго цяжкапраходныя балоты, а гэта значыць, канчаткова прыкоўвала нас да астраўка. Можа, таму ўсё часцей задавалі камандаванню пытанні: "Колькі ж будзем стаяць тут?" "Чаму не сыходзім?"

Камбрыг Шастапалаў разумеў партызан. Прыпынак на працяглы час, адноснае зацішша ў асяроддзі ворага дзейнічалі заспакаяльна. Але правіянт меншаў, а прытоку не было. І ўсе чакалі, што хутка пашлюць на заданні. Толькі ў ворага можна здабыць і зброю, і боепрыпасы, і правіянт.

Як раз тым часам, 21 сакавіка 1943 года, па лагеры пранеслася вестка: да нас прыбыў першы сакратар ЦК ЛКСМБ М. В. Зімянін. Якім чынам у такі крытычны момант з групай выведнікаў ён прабраўся з любанскіх лясоў, цяжка сабе ўявіць. Міхась Васільевіч пабываў у атрадах, пазнаёміўся з асабовым і камандным складам.

У белым паўкажушку, перахопленым афіцэрскай папругай, у шапцы-вушанцы, ботах, стройны, энергічны, прайшоўся ён перад шарэнгай партызан нашага атрада. Выраз твару ў яго быў заклапочаны. Спачатку казаў пра становішча на франтах, пра тое, як Чырвоная Армія атрымлівае адну перамогу за другой, а затым сказаў, што нашы людзі, выгадаваныя ленінскай партыяй у духу савецкага патрыятызму і пралетарскага інтэрнацыяналізму, не шкадуючы сіл, грудзьмі ўсталі на абарону вялікіх заваёў Кастрычніка.

Напрыканцы М. В. Зімянін заклікаў нас мацней біць ворага ў яго тыле і гэтым самым аказваць пасільную дапамогу Чырвонай Арміі.

Яго праніклівая прамова яшчэ больш натхніла нас. Неўзабаве М. В. Зімянін у суправаджэнні выведнікаў адбыў з лагера.

Брыгада пачала рыхтавацца да выхаду з пінскіх балот і вяртання ў свой раён. Наш звяз знаходзіўся ў засадзе на ўзлеску лесу каля вёскі Вялікія Чучавічы. Усю ноч ішоў снег з дажджом. Да раніцы змоклі грунтоўна.

- Збірайцеся, змена ідзе, - ціха сказаў камандзір звяза Радзецкі, пачуўшы шоргат у кустах.

Але тут жа раздаўся стрэл.

- Рус партызан! - гарлапаніў немец, уцякаючы.

Валодзя Даўгаполы паклаў яго з аўтамата. Але тыя, што ішлі следам за ім, адкрылі агонь і пачалі абыходзіць групу. Кулямёт Лагерманава прыціснуў фашыстаў да зямлі, і мы, скарыстаўшыся момантам, праскочылі небяспечны ўчастак.

Гэта кароткая сутычка з'явілася пачаткам вялікага бою. Варожая артылерыя адкрыла агонь па астраўку. Усё захадзіла ходырам. Тонкія сасёнкі ламаліся і валіліся ад выбухаў, быццам зрэзаныя. Скончыўся артабстрэл, і гітлераўцы рушылі на астравок. Атрады спешна занялі кругавую абарону і

ўступілі ў бой. Наша група насілу дабралася да атрада. Пасля некалькіх спроб праравацца на выспу карнікі спынілі напады.

Шастапалаў паслаў Яна Рачкоўскага (па мянушцы "Арлоў") і Яна Гладоўскага на пошукі мясцовых жыхароў, якія ведаюць праходы праз балота, і чакаў іх вяртання з нецярпеннем.

Нарэшце прыбылі выведнікі, а з імі мясцовы жыхар гадоў трыццаці па імені Іван. Партызаны адразу чамусьці ахрысцілі Івана "Балотным".

- Дарогу ведаеш? - спытаў у яго Шастапалаў.

- Каму ж ведаць балота лепш? Але цяпер над тонкім лёдам вада паднялася, цяжка арыентавацца, таварыш камандзір, - адказаў селянін.

- Трэба, разумееш? - угаворваў яго камбрыг.

Снарад разарваўся зусім побач. Іван толькі прыхіліўся, але не зваліўся на зямлю.

- А ты, я бачу, адважны, - заўважыў Шастапалаў.

- Мяне двойчы расстрэльвалі, - спакойна адказаў Іван.

- Далёка сцежка?

- Каля кіламетра.

- Шукайце яе хутчэй.

Камандзіры разумелі, што выратаванне - выхад праз балота, інакш - пагібель. Іван тычкай абмацваў дно. Вады дадалося, і купіны схаваліся ў ёй.

- Здаецца, тут,- пераконваў сам сябе праваднік і ў які ўжо раз правальваўся пад лёд, які ламаўся. Толькі па адных яму вядомых прыкметах намацваў праход.

- Гарматы, абоз і грувасткую маёмасць давядзецца кінуць, - сказаў ён камбрыгу. - Інакш не пройдзем.

Атрады пакінулі схованкі і падрыхтаваліся да пераходу праз балота. Камандаванне распарадзілася гарматы, снарады і станіны ад станковых кулямётаў затапіць. Тады ж у засмоленых бутэльках закапалі архіў брыгады, ды так і не змаглі яго потам знайсці.

Немагчыма перадаць словамі цяжкасці гэтага неверагоднага пераходу. Вада паднялася, пад ёй - тонкі лёд, які ломіцца. Кожны ведаў, што наступны крок можа аказацца апошнім.

Вораг, выявіўшы наш адход, пачаў абстрэл балота з артылерыі. Вылі снарады, фантанамі ўзлятала гразь. Часам выбухі былі настолькі блізкімі, што абдавала гарачым паветрам. Але мы зацята прасоўваліся наперад.

Цяжка было з параненымі. Партызаны ледзь перабіраліся з купіны на купіну, імкнучыся не выпусціць насілкі. А абстрэл узмацняўся. Цяжкі снарад побач увайшоў у балотнае нутро і разарваўся. Нас накрыла чорнай жыжкай.

- Не асколкі, адмыецца, - пачуў я голас Валодзі Бірука.

Ён не маркоціўся нават у такім цяжкім становішчы. Балота хісталася, у паветра разам з тарфяной калатушай узляталі і тонкія дрэвы. Пахла багуном. Ці то ад паху, ці то ад стомленасці моцна кружылася галава. А балоту - ні канца ні краю. Толькі пад канец дня пасля дваццацікіламятровай дарогі выйшлі на сушу. Шастапалаў абняў праваднікa:

- Дзякуй, дарагі!

З тых часоў Іван "Балотны" застаўся ў нашым атрадзе.

Па іроніі лёсу мы выйшлі да Колак, дзе прарываліся ў студзені. Гітлераўцы, якія размясціліся ў вёсцы не чакалі партызан. Са страху яны разбегліся. Траіх передавыя групы захапілі ў палон і адправілі ў штаб.

Цяжар апошніх тыдняў змяніўся прыпаднятым настроем. Цешыла, што зноў накіроўваемся ў свой раён, ды і па радыё ўсё часцей прымалі прыемныя весткі. Яны пачыналіся словамі: "Нашы войскі вядуць наступальныя баі...", "Пасля зацятых баёў вызвалены горад..."

Так скончыліся блакадныя дні, з цяжкасцямі і нэндзай яны засталіся ззаду. А наперадзе - новыя паходы, новыя сутычкі з ворагам.

**ІДЗІЦЕ, СЫНЫ!**

Пасля цяжкіх блакадных баёў наша брыгада вярталася з пінскіх лясоў у Капыльскі раён. Цяжкі гэта быў час не толькі для партызан, але і для мірных жыхароў. У адсутнасць партызанскіх атрадаў у раёне насельніцтва практычна заставалася безабаронным перад лютым і падступным ворагам. А вораг сапраўды лютаваў. Паліў вёскі, расстрэльваў людзей.

Выйшаўшы з Арлікоўскіх лясоў, брыгада рухалася павольна. Было шмат хворых і параненых, вялікую частку якіх неслі на насілках, таму што ўвесь абоз давялося пакінуць у пінскіх балотах. Некаторыя партызаны прасілі дазволу пайсці наперад і наведаць сваіх бацькоў, дазнацца, ці жывыя яны.

Камандзір звяза Іван Радзецкі адпусціў і мяне з Віктарам Мацецкім. Падыйшоўшы да вёскі Навасёлкі, мы гародамі прабраліся да хаты маіх бацькоў. Усе яны былі жывыя і здаровыя. Бацька распавёў, што па начах у акрузе часта віднеліся полымі пажараў.

Перад світанкам, узяўшы неабходны запас прадуктаў, адправіліся ў лес, што каля вёскі Пузава. Там распалілі вогнішча і пераднявалі, а з наступленнем ночы пайшлі ў кірунку вёскі Масявічы, да якой

было кіламетраў трыццаць. Населеныя пункты стараліся абыходзіць.

- Ведаеш, Вася, якімі буракамі накорміць нас мама? - Віктар пляснуў языком. - Выцягне з печы чыгунок, адкрые, а ў нос вытне мясным наварам. Аб'ядзенне!

Так за гутаркай пад выццё завеі і выйшлі да таго месца, дзе павінна быць вёска. Віктар замітусіўся, нервова ўзіраючыся ў цемру: "Ці не збіліся з дарогі?"

- Што за чорт, - здзіўлена прамовіў ён і яшчэ пільней пачаў вывучаць наваколле. - Здаецца, тут...

Раптам ён сарваўся з месца і пабег.

- Віктар! - паклікаў я яго і панёсся ўслед.

Ён прыбег да блізкага пажарышча і спыніўся, зняў шапку. На фоне шэрага гарызонту, які часамі заслоняўся завеяй, выдзяляўся шэраг каміноў, дзе былі хаты.

Віктар стаяў як скамянелы, не зварухнуўшыся, цяжка дыхаў.

- Ых, гады! - нарэшце выдушыў ён са стогнам і націснуў на спуск аўтамата.

Доўгая чарга разарвала цяжкую цішыню.

- Ты што, Віктар?! - схапіў я яго за рукі.

- Адстань! - адапхнуў ён мяне і заплакаў, як дзіця.

Потым Віктар падбег да аднаго з каміноў, які сіратліва глядзеў у неба.

- Мая хата, - амаль шэптам прамовіў ён і паправіўся. - Была... А дзе ж яны? - спахапіўся раптам. - Няўжо?!

Віктар баяўся прамовіць гэта страшнае слова - "загінулі".

Жаданне хутчэй дазнацца пра лёс родных і вяскоўцаў падганяла Мацецкага, і ён амаль бег у суседнюю вёску Руднікі. Я ледзь паспяваў за ім.

Родная цётка Віктара Ганна Нічыпаровіч з сумам распавяла, што сям'я яго загінула. Няма ўжо бацькі, маці, брата, сястры і дзядулі. Іх расстралялі фашысты разам з іншымі жыхарамі. Цётка распавяла, што і з вёскамі Жаволкі, Арэхаўка, Славянка зрабілі фашысты тое ж самае.

Уначы мы з Віктарам праходзілі каля вёскі Жаволкі. Яна таксама сустрэла нас камінамі, якія тырчалі ў неба. Загінуў у блакаду і стары, які прытуліў мяне напачатку вайны.

Як вораг ні здзекаваўся над насельніцтвам, шэрагі партызан усё ж папаўняліся новымі людзьмі. Прыходзілі ў атрады адзіночкамі і групамі, нягледзячы на тое, што іх сем'і дорага плацілі за гэта.

У кастрычніку 1942 года з вёскі Скобін Капыльскага раёна ў нашу брыгаду прыйшлі браты Маліноўскія - Аляксандр Міхайлавіч і Яўген Міхайлавіч і іх аднавясковец Аляксандр Паўлавіч Бохан. Прайшло трохі больш за год, і яго бацькі Павел Трафімавіч з Марыяй Пракопаўнай выпраўлялі яшчэ дваіх сваіх сыноў у партызаны. Высокія, плячыстыя, стаялі яны і глядзелі на бацькоў. Марыі Пракопаўне здавалася, што без яе клопатаў яны не змогуць жыць. Хто ж памые, зацыруе, накорміць? Маці прыціснула да грудзей малодшага, Івана, і не ўтрымалася, заплакала. Яе худыя плечы ўздрыгвалі.

- Хоць бы ты, Іванка, застаўся, куды табе, 16-гадоваму, дзіцё яшчэ...

- Не хвалюйся, маці, і іх не хвалюй,- умяшаўся бацька. - У дзяцей яшчэ шмат цяжкага наперадзе.

Ён асцярожна ўзяў яе за локаць. А ў самога быццам камяк засеў у горле.

- Гледзіце, дзеткі, - сказаў бацька, звяртаючыся да сыноў, - калі ўзяліся за зброю, дык будзьце годнымі байцамі. Вайна ёсць вайна. Сам ваяваў, ведаю. Нам лягчэй будзе перанесці вестку пра смерць, чым пра здраду і баязлівасць... - Ён змахнуў няпрошаную слязу. - Ты старэйшы, Мікалай, трымайцеся разам, дапамагайце адзін аднаму. - І абняў сыноў па чарзе.

А маці зусім ужо расплакалася. Яна кідалася ад аднаго сына да другога, цалавала іх, не ведала, што даць на дарогу. То сала пакладзе ў торбу каму-небудзь, то анучы дастане новыя...

Убаку стаялі яшчэ двое іх дзяцей - самы маленькі, улюбёнец усёй сям'і, пяцігадовы Мішутка і адзіная дачка - дзесяцігадовая Марыйка. Мішутка разгублена кусаў кулачок, яшчэ не зусім разумеючы, чаму плача маці. А Марыйка ціха ўсхліпвала, пазіраючы то на аднаго, то на другога брата. Яны самі па чарзе абнялі сястру. А Іван шапнуў па сакрэце:

- Можаш карыстацца цяпер Сашкінымі прыборамі і кнігамі - усё тваё, Марыйка.

Перад вайной іх брат Аляксандр, які пайшоў раней у партызаны, вучыўся ў Менскам тэхнікуме сувязі, і ў яго было шмат цікавых прыбораў, разнастайных прыстасаванняў, якія заўсёды вабілі цікаўную сястрычку. Калі ён адходзіў з хаты, то пакінуў усё гэта на захаванасць Івану.

Маці ўжо не плакала. Яна толькі ласкава пагладзіла па галаве напрыканцы Івана і зноў спытала:

- Можа, ты, Іванка, усё ж застаўся б? Старэйшыя за цябе яшчэ дома сядзяць.

Спытала так, без усякай на тое надзеі. Ведала: пра іх адыход даўно ўжо ўсё вырашана.

Тады ж з імі пайшоў у партызаны і трэці брат Маліноўскіх - Станіслаў.

Пра гэта дазналіся ў нямецкай камендатуры.

Наляцеўшы на вёску, фашысты арыштавалі бацькоў тых, якія пайшлі. Цяжка передаць словамі, як здзекаваліся яны над арыштаванымі, каб дазнацца, дзе знаходзяцца партызаны. На вачах Марыі Пракопаўны эсэсаўцы катавалі малодшага яе сына Мішутку. Калолі яго багнетам, білі шомпалам. Калі малы моцна крычаў, маці не вытрымлівала, кідалася на дапамогу. Але яе хапалі за рукі і пыталі:

- Дзе сыны? Скажаш, усіх адпусцім.

- Не ведаю! Не ведаю! - білася жанчына ў іх руках, як птушка. - Пакіньце дзіця, ён ні ў чым не вінаваты!

- Глядзі, ведзьма, як я яму буду выкручваць ногі! - загарлапаніў раззлаваны фашыст.

Да слыху маці даносіўся дзікі крык. Яна некалькі разоў траціла прытомнасць. А ачуньвала - і ўсё паўтаралася зноў. Потым ужо не рэагавала ні на што - усё стала ёй абыякавым. Яна дзіка смяялася, спявала, выкрыквала штосьці няскладнае.

Страшным катаванням падвергглі астатніх арыштаваных. Калі эсэсавец падышоў да Рыгора Маліноўскаму і спытаў, дзе яго сыны, той спакойна адказаў:

- У партызанах, дзе ж яшчэ ім быць!

- О, значыць, ты, стары, ведаеш, дзе знаходзяцца партызаны? - узрадаваўся фашыст. - Можа, скажаш нам? За гэта мы цябе адпусцім дахаты.

Маліноўскі выпрастаўся і, гледзячы ў вочы гітлераўцу, гучна прамовіў:

- Не для таго вы нас сюды прывялі, каб адпускаць дахаты! Ведаю, дзе партызаны, учора яшчэ дзвюх дочак туды адправіў, са зброяй, каб вас, гадаў паўзучых, знішчалі.

Эсэсавец стукнуў старога наводмаш, і ён не ўтрымаўся на нагах. Паднімаючыся, праенчыў:

- Без мяне дазнаешся, дзе партызаны, калі...

Ён так і не змог падняцца перад ворагам на ўвесь рост, не паспеў дамовіць свой праклён. Эсэсавец стрэліў ва ўпор, і стары апусціўся на зямлю, па якой хадзіў усё доўгае сваё жыццё, якую песціў рукамі, якую пайшлі абараняць яго дзеці.

Нічога не дамогшыся, фашысты расстралялі Паўла Трафімавіча і Марыю Пракопаўну Боханаў, іх дзяцей, Марыйку і Мішутку, усю сям'ю Маліноўскіх.

Гэта былі сапраўдныя савецкія людзі. Як і сотні іншых, яны не скарыліся ворагу, уступілі ў барацьбу з ненавіснымі захопнікамі.

Хочацца распавесці яшчэ пра аднаго чалавека, з маёй вёскі Навасёлкі, які аддаў сваё жыццё за Радзіму.

Міхась Борыс вярнуўся з Клецка. Мы з Васілёнкам сядзелі ў яго ў хаце. Прынеслі свежыя ўлёткі, спадзяваліся, што і ў яго будуць для нас навіны. Раптам ляснула брамка, і нечыя паспешлівыя крокі пачуліся каля вокнаў, а затым у сенцах. Я і Васілёнак хутка схаваліся за драўляную перагародку і стаіліся, узяўшы напагатова зброю.

- Праходзіце, калі ласка,- запрасіў Міхась незнаёмых.

- Адзін? - прагучаў бас.

- Адзін, з кім жа мне быць, - пачуўся адказ.

- Часу ў нас мала, - гучаў усё той жа бас. - Мы, партызанскія выведнікі, хочам з табой дамовіцца, каб ты дапамагаў нам біць фашыстаў.

- Я ж сляпы, які з мяне ваяка, - адказаў Міхась.

- Вось і добра, сябрук. На цябе ніхто не зверне ўвагі. Усюды зможаш прайсці і сустрэцца з патрэбнымі людзьмі. Дапамажы нам атрымаць звесткі пра клецкі гарнізон.

Міхась напружыў сваю памяць. Дзесьці ён чуў гэты прапіты голас. Ды і цяпер улавіў пах самагонкі. А незнаёмы ўсё наракаў, што вельмі цяжка прабрацца ў Клецк, што партызаны вельмі ўжо разлічваюць на яго дапамогу.

Міхась ужо не сумняваўся, што ў хаце правакатары, але нічым не выдаў сябе.

- У выведку, кажаце, ісці трэба?

- Так, у Клецк,- ажывіўся прышэлец.

- Я ж нікога не ведаю там. Як жа буду выконваць заданне?

- Мы дамо табе яўкі, пакажам людзей.

Міхась зло пастукаў бярозавай палкай, што служыла яму павадыром.

- Ідзіце па-добраму!

"Госці" паспяшаліся выйсці. Мацней, чым раней, стукнула брамка.

"Што ж прывяло правакатараў? - думаў Міхась. - У Клецку на кірмашы неўзаметку перадаў улёткі Уладзіславу Харытонавічу. Можа, Уладзіслаў папаўся?"

Часта па заданні партызан прабіраўся Міхась у Капыль, Клецк і іншыя гарнізоны. Заўсёды яму спадарожнічаў поспех. Бывала, з улёткамі і праз мост праходзіў, дзе стаяла ахова. І нічога, ніхто на яго не зважаў. "Няўжо дзесьці дапусціў неасцярожнасць?" - хваляваўся Міхась.

Адно за другім перабіраў у памяці ўсе мінулыя падзеі. Распавёў нам, як у Клецку ўвайшоў на кірмашовы пляц і гучна пракрычаў:

- Самасад! Каму моцны самасад! Хто запаліць, будзе рад.

У гэты момант яго хтосьці тузануў за плячо.

- А ну, што ў цябе за такі тавар? - раздаўся хрыплы голас.

- Пан паліцыянт, там б’юцца, - пачуўся жаночы голас.



*Борыс М. С.*

- Ну, і хай б'юцца, - сказаў яго "пакупнік".

"Паліцыянт!" - схамянулася думка. У торбе пад тытунём былі ўлёткі, а зверху кавалкі нямецкіх газет.

- Паперы больш, чым самасаду! - незадаволена прабурчаў ён, мацаючы на дне торбы. Затым пхнуў: - Тупай!

Міхась меркаваў, што той мог выцягнуць улётку, і таму па яго следзе пусцілі правакатараў.

Мы ўгаворвалі Міхася не хвалявацца, хоць і ў саміх на душы было неспакойна. Я ведаў звычку гэтага чалавека. У хвіліны трывогі і журбы ён чамусьці заўсёды ўспамінаў дзяцінства. Можа, таму, што бачыў яго. Бачыў вачамі. Гэта былі тыя нямногія гады яго жыцця, калі ён бачыў. Памятаецца, у адзін з першых дзён вайны ён зайшоў да нас.

- Здаровыя ідуць на фронт, а я застаюся без спраў, - жаліўся майму бацьку.

А потым і ён знайшоў сваё месца ў барацьбе з ворагам. Пачаў дапамагаць партызанам. Ніхто з вяскоўцаў не здагадваўся, чаму не сядзіцца ў хаце гэтаму сляпому чалавеку. А ў яго адна дарога за другой. Колькі разоў дастаўляў ён у райцэнтр улёткі, прыносіў часам адтуль патрэбныя звесткі для партызан.

Ён не бачыў слёз, але чуў плач дзяцей і маці. Ён не бачыў пажарышчаў, але чуў пах гару і дыму. Ён не сціскаў у руках зброю, але ваяваў.

- Заўтра пайду ў Клецк, аднясу некалькі ўлётак і, можа, дазнаюся, што з Харытонавічам, - сказаў Міхась.

Мы развіталіся з ім і, як аказалася, назаўжды. Па аповядах відавочцаў, лёс яго склаўся так.

Кірмашовы пляц, як заўсёды, кішэў людзьмі. Пастукваючы палкай-павадыром па брукаванай каменем плошчы, Міхась прасоўваўся сярод натоўпу. Неўзабаве раздаўся яго звонкі голас:

- Самасад! Каму моцны самасад!..

Раптам нейкі хуліган нажом шаснуў па яго палатнянай торбе, і пад ногі пасыпаўся тытунь, зашасталі лісты паперы. Міхась сагнуўся, пачаў рукамі абшнырваць вакол, намацваючы на зямлі ўлёткі. Некалькі штук падняў, скамячыў у руцэ. Але нарад карнікаў, які надышоў у гэты момант затрымаў яго з палічным.

Так Міхась патрапіў у рукі гітлераўцаў. Можна толькі ўявіць, якія пакуты вынес гэты чалавек. Каля двух тыдняў яго катавалі, але ён трымаўся стойка і нікога не выдаў.

Старажылы Клецка дагэтуль памятаюць той восеньскі дзень 1943 года, калі каралі смерцю патрыёта. У цэнтры горада фашысты паставілі шыбеніцу і да яе сагналі гараджан. Затым у крытай машыне прывезлі Міхася. Ён вылез і спыніўся, не ведаючы, куды ісці. Выгляд яго быў страшаны - на твары і галаве суцэльныя раны ад пабояў. Немец падпіхнуў яго, і ён зрабіў некалькі крокаў, спатыкнуўся, паваліўся. Раз'юшаны фашыст падскочыў і стукнуў ботам.

Але вось Міхась падняўся і, ледзь павярнуўшыся, падняў галаву ўгару, прама да сонца. Гітлераўцы, схапіўшы яго пад рукі, падвялі да шыбеніцы і паставілі на зэдлік. Афіцэр накінуў пятлю. Адчуўшы, што вяроўка кранула шыю, Міхась ледзь здрыгануўся і стукнуў нагой у жывот свайго ката. Затым размахнуўся, але гэтым разам наперадзе нікога не аказалася. Ад моцнага ўзмаху нагі не ўтрымаўся, пахіснуўся і павіс на вяроўцы.

Афіцэр-эсэсавец прымацаваў на грудзі Міхася квадрат фанернага ліста, на якім было напісана: "Партызан".

Вестка пра гібель Міхася Сцяпанавіча Борыса да глыбіні душы патрэсла нас. Многія партызаны, якія ведалі яго, перажывалі за гэтага бясстрашнага патрыёта, добрага чалавека. Мае аднавяскоўцы дагэтуль распавядаюць пра свайго земляка, сляпога патрыёта.

*(Працяг у наступным нумары.)*

*Вікторыя Жукевіч-Дзівота*

# ДАНІНА ПАМЯЦІ

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

**Прыяцель маёй душы**



1 студзеня 2007 года ў пасляпаўдзённы час зазваніў тэлефон. Яшчэ да абеду прыняла некалькі тэлефанаванняў ад знаёмых і прыяцеляў, якія перадавалі нам навагоднія пажаданні. Я забабонная (у меру), люблю забабоны, і заўсёды ў Новы год раненька звоніць да нас Марыюш, зяць маёй прыяцелькі Марыі Крапідлоўскай, каб, барані Божа, не патэлефанавала першай кабета, гэта прыносіць няўдачу…?

Прымаю той пасляабедзенны званок і чую незнаёмы жаночы голас, зацікавіла мяне гэтае тэлефанаванне. Пані гаворыць мне, што атрымала мой нумар з Кола, ад знаёмай, мусіла задаць сабе работы, думаючы… выказвае пажаданні і прадстаўляецца: Ева Гадыцкая-Цвірка з Пірэўса.

Прозвішча мне не чужое, гэта наша красовая сям'я … ведаю з роднага дому, не раз паўтаралі ў размовах дома… Ну і што ж аказваецца, пані Ева ва ўспамінах Ежы Зянковіча прачытала пра маю маму і пра мяне.

Жыла яна з бацькамі і сваякамі ў Пасецы Кольскага павета… Нашы бацькі былі знаёмыя, а паколькі яна цікавая да людскіх лёсаў, гэта маёназіранне, вырашыла завязаць са мной кантакт.

Ева - скарбніца ўсялякіх асабістых звестак - калі так можна сказаць - сваяцтвы, жыццяпісы, лёсы сяброўскіх сямей, і перш за ўсё красовых сямей, уласна з нашай Нясвіжскай зямлі - не маюць для яе таямніц. І што цікава - мае з п. Анатолем супольнага дзеда. Ева ўсебакова таленавітая, адукаваная, скончыла ВНУ ў Познані - сяльгасакадэмію, начытаная, гэта дзякуючы ёй я пазнаёмілася з адной з найпрыгажэйшых красовых аповесцяў "Ніколі не нараджаецца абы-хто", аўтаркі, якая жыве ў Швецыі, з роду Гадыцкіх-Цвіркаў Маліны Стар-Гадыцкай - лічу сваёй вялікай заслугай кантакт з аўтаркай. Пра Еву магла б пісаць і гаварыць вельмі шмат, але калі б тыя запіскі трапілі б ёй у рукі, то можа быць у гэтай сціплай асобе абудзілася б невядома што…

А лёсы сям'і Евы - гэта вялікая красовая сага. Ведаю яе дасканала. Найбольш уразіла мяне постаць с.п. Даната Гадыцкага-Цвіркі… маю такі здымак, пан Гадыцкі ў санях, запрэжка называецца "конь перад канём" - расшыфравала гэта с.п. Галіна Асмольская, якой я задала пытанне - куды гэта пан Гадыцкі можа ехаць… можа ў Асмолава? Падаю гэты здымак, бо вельмі яго люблю.



Падаю ў тым месцы верш ужо нябожчыка брата Евы - Андрэя Багдана, паэта, які прайшоў з бацькамі сібірскі шлях.

**Любімае Палессе**

Стаяў стары дворык шляхецкі,
Схаваны між палескіх траў,
Бегаў там, будучы дзіцем,
Праз луг, на ручай, на стаў.
На старой страсе саламянай
Бусел клекатаў ад рана
Не хапае зямлі мне каханай,
А зямлі не хапае пана.
На Сібір пана пагнала
Бандыцкая ўлада саветаў,
Недзе далёка саслала
Дзіця ад зямелькі гэтай.
Пан на Сібіры гараваў,
Пілой, сякерай сек лясы,
Сярод снягоў мёрз і бедаваў,
І чакаў на лепшыя часы.
Ды тыя землі па вайне,
Дзе бацька працаваў,
І пакінуць збіраўся мне,
Захад саветам падараваў.
Бывай любімае Палессе,
Больш не вярнуся да цябе
Вецер словы ў паднябессі
Ў хмаркі смутныя зграбе.
Можа калісьці па смерці
Бог зробіць ласку хоць на хвіліну
Дзірачку ў небе прадзерці
Каб мог глянуць я на радзіму,
Як адсюль душа мая рушыць
Па смерці, каб неба дастаць
Для чаго ты, Пане, мусіў
Нас у вечную ссылку гнаць.
Што яны для цябе пражылі,
Сібір, катаргу і выгнанне
Хоць малую дзірачку падары,
Зрабі для іх, прашу цябе, Пане.
Няхай жа са светлых высяў
Глянуць на родны свой край
Не даў пры жыцці надзівіцца,
Хоць пасля смерці дай.

Гэта ўласна Ева зрушыла мяне да сібірскіх і кольскіх успамінаў, пасля прыезду ў Польшчу. У лістах да яе, некаторыя падала ў гэтых успамінах, я першы раз звярнулася да сваіх перажыванняў з дзяцінства, пра якія ніколі нікому не апавядала. Невядомыя былі нават мужу.

Нягледзячы на тое, што далёка, у Пірэўсе,



***Маліна Стар-Гадыцкая, з Познані. Сям'я з беларускімі каранямі. Па адукацыі юрыст і эканаміст. Шмат гадоў жыве за мяжой (Англія, Іспанія, Швецыя)***




***Кніга "Ніколі не нараджаецца абы-хто..." - аўтэнтычная, пасіянарная гісторыя сям'і, якая прайшла ўсе драмы ХХ стагоддзя (Сусветную вайну, рэвалюцыю 1917 года, камунізм). Аўтарка праехала звыш 150 000 км, каб сабраць матэрыял для кнігі.***

сустракаемся, прынялі мяне нават на сямейным спатканні да фаміліі Гадыцкіх-Цвіркаў, з'езд адбыўся ў Падгорыцах у сястры Евы - Марылькі Гладыш, якую я называю Зоркай Поўдня.

Дзелімся паміж сабой штодзённымі радасцямі і журботамі (поштай электроннай).

Нехта са знаёмых спытаў мяне некалі: а хто гэта тая Ева з Пірэўса?

Адказала: гэта прыяцелька маёй душы.

Часта здаралася мне нешта да яе напісаць, нейкі жартаўлівы вершык, нейкія чанстахоўскія рымы, мы трактуем гэта, як забаву, пачала нават заглядваць у польска-грэцкі слоўнік і, о дзіва, ад часу да часу ўстаўляць нейкае грэцкае слоўца.

З мужам Евы, Міхалісам, мы маем супольнае хобі - футбол, а для яе дачок Магды і Марысі стала "прышытай" цёткай.

А гэта вершык для Евы мушу трохі патлумачыць. Ева мае любімую грэцкую мелодыю - Танга, якую спявае вельмі папулярная салістка. Мелодыя ўзрушвальная, выкананне таксама… І я да той мелодыі, стараючыся вытрымаць рытм, напісала для Евы словы. Калі, дарагі чытач, будзеш чытаць, націск у "танга" прашу рабіць на "о" - "танго". Калі хто захоча даведацца мелодыю, то калі ласка - YouTube - Haris Aleksiju - Ena tango.

**Танго**

*Тэкст да грэцкай мелодыі*
*Для Евы Гадыцкай-Цвірка*

Гэй, затанчымы сёння наша танго
І вернемся ў наша шалёнае ранне,
Я цябе прытулю і скажу: "Sahapo",
А ты будзеш шаптаць пра каханне.

Недзе ноч уся ў зорках іскрыстых,
Я ў абдымках сваіх вас моцна трымаю
І словы вашы дасюль памятаю:
"Я кахаю цябе - prima vista".

І так мару я ў тых ночах і днях,
Каб зноў патануць у зелені вашых воч,
Вы заўсёды са мной у маіх марах-снах,
Мы імчымся праз зорную ноч.

"Sahapo", - сёння ціха пачуецца зноў,
Альбо не патрэбна ніякіх тут слоў,
Няхай успаміны агорнуць нас,
І хай хоць на хвілю прыстане час.

І затанчым сёння наша танго,
Бо вы ёсць той дзяўчынай са сноў,
Хачу прытуліць і сказаць вам ізноў:
"Кахаю, sahapo, efharisto…"

Бо далей мару па начах і днях,
Каб зноў патануць у зялёных вачах.

**Восень 2009 г. у Нясвіжы**

Сонцам асветлены, бабіным летам атулены,
у колерах восені пышны,
клумбамі кветак, ржавай лістотай пакрыты,
фіялетам марцінак спавіты,
дух у грудзях запірае
над Дзявочым возерам воблака праплывае,
гусі бялейшыя за бярозы,
а па траве ходзяць козы.

Слуцкая брама, як белы матылёк…,
рады шалфею, жанішкоў і астраў,
арабіна чырвоная пры плоце,
лісце не шалясціць, іду…,
яшчэ
маю перад сабой замак, фару
і пару
домікаў для адведкаў,
ах, тыя мінулага сведкі…

Направа зялёны стаў з жабамі…,
а тут - за гэтай старой студняй і брамай
быў сад і дом цёці Альжбеты…,
мы прыязджалі да яе з мамай…,
сёння ў садзе фіялетавыя слівы
і залацістыя грушы,
яшчэ прыпомніць сабе мушу
назву вуліцы:
Выган… Выган… Выган!!!
Вяртаюся і гляджу на тую вуліцу…,
паціхеньку гусі лічу,
а ў сэрцы гучна крычу,
клічу ўсіх маіх блізкіх,
але яны мяне не чуюць,
у вечнай цішы начуюць,
грэюцца пры запаленых znічах.

Нясвіжу, горад мой любы самы,
барвамі восені маляваны,
вярнуся да цябе зноў…
радаснай вясной.

Гэты мой побыт у Нясвіжы быў звязаны з адкрыццём надмагілля-помніка Невядомага польскага жаўнера, забітага 17 верасня 1939 года ў Пляшэвічах.

### Нясвіжцы

*"Застанься са мной,*
*Хоць ты - толькі жыццё,*
*Не хачу нічога болей".*
*Нясвіжцы.*

Кожны выезд чальцоў Таварыства нясвіжцаў мае ў сваёй жалезнай праграме побыт на могілках у Пляшэвічах. Для нас, людзей, якія ведаюць гэтую зямлю хоць бы з апавяданняў, так, як я, Пляшэвічы - гэта засценак, слынны выдатнымі, патрыятычнымі людзьмі, постацямі, як з XIX стагоддзя, бо сёння ўжо такіх людзей няма - нябожчыкі браты Зубовічы, ну і наша Галіна Асмольская - сэрца і душа Таварыства. З Пляшэвічаў нейкі Зубовіч прысылаў сватоў да маёй мамы, але хацеў зашмат зямлі ў пасаг, і нічога з таго не выйшла. Але мы дайшлі з Галінай у нашым следстве, што гэта мог быць Альгерд, бо найлепш танцаваў мазурку з маёй мамай. Гэта такое адступленне… без іх не абыдзешся…

Падчас аднаго з побытаў наш "генерал" Андрэй кінуў заклік, каб паставіць помнік у Пляшэвічах невядомаму жаўнеру КОР (КПА - корпус памежнай аховы), якога даганала здрадніцкая бальшавіцкая куля 17 верасня 1939 года. Усе прынялі з энтузіязмам гэтую ініцыятыву, а я зняла з галавы Галіны яе несмяротны вэстарнавы капялюш і пачала хадзіць па аўтакары… была можа трохі і навязчывая… але капялюш, "поўны сонца", аддала Марысі Слізень і Еве "Русалцы" для падліку.

Старшыня Ежы Буткевіч і старшыня польскага дома "Рэдута" Янак Івашкевіч дапільнавалі выкананне. Таму мы невялікай групай - Ежы, Дануся, Галіна, Станіслава з кузінай Евай і двое настаўнікаў з Транова (маю школьныя кантакты) паехалі, каб помнік асвяціць. Адбылося гэта з удзелам ксендза-дэкана Пятра Шарко. Не абышлося пры тым без тыпова польскіх штучак - людзі, якія мелі кантакт з саюзам, не прызнаным беларускімі ўладамі, запрасілі прадстаўніка польскай амбасады, журналістаў з уроцлаўскага тэлебачання, ну і канешне ксендза-дэкана, пахваляючыся тым, да чаго не прылажылі нават пальца, не гаворачы ўжо пра тое, што не паведамілі нікому ў Варшаве. Але… два разы пасвечаны будзе даўжэй стаяць, і "брамы пякельныя не перамогуць яго", як гаворыць надпіс над дзвярыма капліцы ў Пляшэвічах. Апошняе, калі былі ў Пляшэвічах, свечку запаліў наймалодшы са Слізеняў - Славік.

Мушу тут, калі ёсць ужо ў Пляшэвічах, нешта распавесці.

У аўтакары я сядзела заўсёды за Галінай



Асмольскай. Кожны год паварочвалася да мяне і так казала:

- Вікторыя, памятай, паабяцай мне, што "як бы што", то дапільнуеш, каб мяне пахавалі ў Пляшэвічах, каля дзядулі. Кожны раз я адказвала:

- Абяцаю.

Дадзенае слова датрымала, урна з прахам с.п. Галіны паехала з намі, чальцамі Таварыства, у сваё апошняе падарожжа ў Пляшэвічы, а Станіслава напісала ў эпітафіі: *"Зямля мая святая, у сэрцы цябе насіла, Бог даў - назаўсёды вярнулася"*. Не хапае нам с.п. Галіны, Таварыства асірацела.

### Зноў Нясвіж - лета ў Нясвіжы

Зноўку сёння я з вамі ў Нясвіжы,
Месцы азёраў, каштанаў, бяроз,
Нельга нічога знайсці ў свеце бліжай,
Горад з маіх цяжкіх сноў, горкіх слёз

Тонь азёраў спакойная раннем,
Цішу парушыць спалоханы птах
А вечарам сцішыць дыханне,
Мякка ляжа на воду месячны шлях.

Сёння зноўку прайдуся па грэблі,
Глянуць здалёку на замак і фару,
Выцерці слёз няпрошаных перлы
З ліпы сарву я лісцікаў пару.

Пане Божа, супакой маё сэрца,
Дай магчымасць пабыць тут яшчэ раз,
Блакітнага льну патрымаць у жменьцы
І прыпомніць даўні, мінулы час.

У азерца трэба нешта мне ўкінуць,
Грошык нейкі, з клубочкам ніць,
Каб навечна той край не пакінуць,
Каб тут не ў снах, а напраўду пабыць.

*Вікторыя, чэрвень 2009 г., Нясвіж.*

**Так, зноў Нясвіж**

У Таварыстве нясвіжцаў і сяброў 27 палка ўланаў імя Стэфана Баторыя я апынулася якраз дзякуючы с.п. Галіне Асмольскай, адрас якой дала мне Марыя Гайда з дому Ратомская. Там людзі, блізкія майму сэрцу, з некаторымі былі нават звязаны лёсамі, напрыклад, з Юзафам Скрыцкім, брат якога Рышард быў маім настаўнікам у ліцэі.



У Нясвіж пацягнула з сабой маю кузінку Галінку і Мілуню, якая нарадзілася ў нашым горадзе, але ніколі пасля вайны ў ім не была, а я магла паказаць ёй нават дом, у якім жылі яе бацькі - ведала гэта ад мае мамы.

Вялікае ўражанне на мяне зрабіў выезд у Кукавічы, некалішні маёнтак дзядоў Басі Пераззалін-Скаўронскай. У заліўны дождж, які не раз нас "лавіў" мы хадзілі з Басяй па яе садзе, а на могілках, якія пасля Рыжскай дамовы засталіся на савецкім баку, мы абдымалі велічныя жалезныя вялізныя крыжы, якія бяссільна выцягвалі плечы ў неба - запомніла "Anna Petrozolin"... было іх, мабыць, сем.

Скажу тут, што Бася - адзіны чалавек, які заўсёды вандруе вакол Свіцязі - ходзіць добра, шпацыр трывае 1,5 гадзіны.

Кожны побыт мяне нечым уражвае, здзіўляе.

Мала хто ведае ў нас у Польшчы пра цудоўны абраз Маці Божай Жыровіцкай, альбо пра гісторыю касцёла ў Ляхавічах ці пра найстарэйшы касцёл у вёсцы Ішкальдзь.

Вёска Ішкальдзь у Баранавіцкім раёне размешчана на трасе Менск-Берасце. Гэта ў ёй знаходзіцца найстарэйшы на Беларусі касцёл, унікальны помнік мураванай архітэктуры, захаваны ў нязменнай форме ад 1472 года. Касцёл пад назвай Найсвяцейшай Тройцы. Сцены касцёла памятаюць трашічную гісторыю ксендза Вінцэнта Латарэвіча, пробашча каталіцкай парафіі ў Ішкалдзі. У 1919 годзе бальшавікі зажадалі ад 38-гадовага каплана, каб ён адрокся ад веры. Калі адмовіўся, 19 сакавіка 1919 года жорстка яго замардавалі: вывезлі яго ў Мір адсеклі галаву, а цела ўкінулі ў замкавую студню. Вернікі патаемна выцягнулі замардавананага ксендза і пахавалі яго ў мурах ішкалдскага касцёла. Сімвалічную магілу парафіяне зрабілі на пачатку 10-х гадоў XXI стагоддзя. Надмагілле мае форму чорнага гранітнага каменя, увянчанага лацінскім крыжам. На ім напісана: ***"Ксёндз Вінцэнт Латарэвіч, жыў 38 гадоў. Замардаваны ворагамі касцёла 19 сакавіка 1919 года ў Мірскім замку".***

Адкуль на вітражы найстарэйшага касцёла Беларусі аўтамабіль НКВД? Аказваецца, што ў 50-тыя гады дакладна на такім аўтамабілі функцыянеры службы бяспекі прыехалі, каб зачыніць святыню. Планавалі зраўняць яе з зямлёй. Прыгналі ўжо нават экскаватары і бульдозеры. Вернікі літаральна кідаліся пад бульдозеры. Камісар, які наглядаў за ліквідацыяй касцёла, быў такі рашучы, каб загад зверху выканаць, што загадаў плюшчыць





у Нясвіжы над ратушай зноў павіс польскі штандар - а штандар быў падараваны музею ў гарадской ратушы. Чарак Цімошка, унук святога пакутніка Цыпрыяна Клімуця, замардаванага НКВД, вычытаў на дрэўку прозвішчы ахвярадаўцаў, лазерам выразаў іх на драўлянай дошцы, якую таксама ахвяраваў музею ў ратушы.

На працягу недзе 10 гадоў а. Эрвін Вячорак, да якога мы адносімся з вялікай павагай і любоўю, будаваў у Клецку касцёл. Ініцыятыву будоўлі праявіў пан Вацлаў Вярбіцкі,



тракамі жывых людзей, якія баранілі святыню.Аднак кіроўца адмовіўся выконваць загад. Тыя сумныя і трагічныя для жыхароў Ішкалдзі падзеі назаўсёды засталіся ў памяці і знайшлі адлюстраванне ў каляровых вітражах святыні.

У Нясвіжы, калі мы выходзілі пасля сумы з касцёла, муж сказаў мне, што тут, у гэтым горадзе, ведаеш больш людзей, чым у Свінавусці, бо тут засталіся старыя традыцыі, каб пасля святой імшы прывітацца з прыяцелямі, пажадаць здароўя знаёмым, запрасіць на святочны абед, а што ж ужо мовіць пра такое свята, як Божае Цела, калі працэсія абходзіць амаль увесь горад, а пасля працэсіі ксёндз-дэкан запрашае на спатканне за сталом, якая адбываецца і пры ўдзеле чальцоў Таварыства ў Польскім доме "Рэдута". Бываў на тых спатканнях біскуп Антоні Дзямянка, які сябраваў з Таварыствам, і арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч. А вечарам сустракаліся ў дамах жыхароў і сваякоў. Мы, г.зн., чальцы Таварыства, не ездзім туды, як гэта робяць некаторыя арганізацыі, у Палонію, мы ездзім у наш горад, да ўсіх людзей, якія там жывуць.

Наша Таварыства прыступіла да вяртання і аднаўлення пры дапамозе гарадскіх уладаў Слуцкай брамы, якая перад вайной служыла капліцай, а саветы зрабілі ў ёй краму. Ініцыятыву адкрытым лістом да адміністрацыйных і касцельных уладаў Беларусі праявіў радавіты нясвіжац, прафесар, доктар медыцыны Тадэвуш Грыгель, а мы сабралі на тое адпаведныя сродкі.

Для знойдзенага на адным з падстрэшкаў дрэўка штандара, які стварыў горад у 30-я гады, зрабілі копію, і, як напісала адна з беларускіх газет, сібірак, андарсавец, які жыве ў Чыкага - галоўны фундатар касцёла. Але і мы, чальцы Таварыства, таксама ўнеслі свой уклад у гэтую справу. Асвячэнне касцёла было вялікай падзеяй, Клецк гэта толькі 16 км ад Нясвіжа, а акрамя гэтага гэта парафія маёй мамы.

Касцёл пабудавалі нанава, бо стары пад назвай Святой Тройцы разбурылі саветы.

*(Працяг у наступным нумары.)*

*Васіль Драгавец*

# Запозненае прызнанне

## *Біяграфічны сповед*

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

**"Механізацыя".
Альбо ліхтарык з Масквы**

З хадатаўскай ільнотрапалкі пачаўся, лічы, што пажыццёвы, бацькаў звязак з калгаснай тэхнікай, ці, як казалі вясковыя людзі, з "механізацыяй".

- Дзе ты зараз, Коля, робіш?

- Як і рабіў - у механізацыі. То на ферме з апаратамі, то на камбайне...

Але тое было пасля, а спачатку гадоў пяць запар бацька кіраваў ільнотрапалкай ці, па-тутэйшаму, "цёр лён". Хаця сам ён нічога не цёр: цёрлі лён машыны, іх абслугоўвалі нястомныя вясковыя працаўніцы, а бацька адказваў і за машыны, і за жанчын. Праца небяспечная, цяжкая. Толькі не дагледзі - наматаецца палойка на вал ці шківў, у імгненне задыміць, успыхне імклівым бягуткім агнём. Барані Божа, бо лён і агонь - смяротная сумесь, нездарма з ільну робяць порах.

Другая бяда, што стаяла зусім побач, гэта шківы, шэсцярні, транспарцёры і адкрытыя прывадныя рамяні ад матораў. Спецадзення не было. Адзін неахайны ці непрадбачлівы рух мог стаць смяротным і апошнім у жыцці. Цапане транспарцёр за адзежу, пацягне чалавека ў валы, шасцерні, паломіць косці і рукі; падвернешся пад рамяні -пашкамутаюць цела, пакуль хто дабяжыць, каб спыніць гэтую пузатую равучую пачвару.

Усялякі дзень бацька прыходзіў "са льну" сам не свой. То ледзь пажар не надарыўся, то жанчыну




***Два медалі - дзве палавіны жыцця***

якую з-пад рамяня ледзьве ўхапілі. Ужо на такія дробязі, як пранізлівы пыл, што стаяў з раніцы да вечара, на бесперапынны грукат і стукат ільнотрапалак, на атрутлівы смярдзючы дым з-пад трактара, дык і не глядзелі. Адхіналася гэта недзе назад, бо першае і галоўнае месца ў думках займала разуменне, што ёсць работа, ёсць цвёрды штомесячны заробак. Убарані адно, Божа, ад агню ды шыбеніцы пад рамянямі...

Гады праз два ільнотрапальныя машыны перавезлі з вёскі на цэнтральную сядзібу, у збіты з гліны новы хлевушок. У новым "доме" стала цішэй і лепей. Машыны круціліся ад электраматора, грукатлівы і курны "чалябінец" адправілі на іншыя патрэбы. Я часцяком бегаў з вёскі туды, на цэнтральную сядзібу, да бацькі, у прасторны і вялікі, як дзедава гумно, так мне здавалася, будынак. Альбо заходзіў "на трапалку", вяртаючыся з хлопцамі-сябрукамі са школы. Нам карцела пакоўзацца з ільняных сціртаў, кульнуцца ў ласкавыя кудзелі, нагуляцца ў хованкі між узгоркаў з кастрыцы ці зложаных для адпраўкі на ільнозавод светла-шэрых, нібы дзявочыя косы, перацёртых палоек.



***Некалі тут гудзела ільнотрапалка, а мы куляліся са сціртаў з кастрыцы***

Ільнотрапальны агрэгат адносіўся да раённай МТС і абслугоўваў вызначаную яму начальствам тэрыто-



ТЕЛЕГРАММА

УВАЖАЕМЫЙ

Николай Васильевич Друговец!

Минское областное управление сельского хозяйства поздравляет Вас, одного из лучших механизаторов МТС области с праздником 40-й годовщины Великой Октябрьской социалистической революции.

Желаем Вам здоровья и дальнейших успехов в работе.

Уверены, что в 1958 году Вы будете также в передовых рядах лучших механизаторов области.

Минское областное управление сельского хозяйства.

6 ноября 1957 года.

Министерство связи СССР

***Урадавая тэлеграма-віншаванне лепшаму механізатару Мінскай вобласці М.В. Драгаўцу***

рыю. Праз некаторы час эмтээсы ліквідавалі, тэхніку передалі калгасам і саўгасам; прыйшлося і бацьку ўсталёўваць стасункі з калгасным начальствам. А пакуль тое надарылася, ён з натхненнем, самааддана рабіў сваю справу. Ён і не мог іначай па натуры, па характару. Адзе ж не адкінуць і другое. Па сэрцу прыйшдося, што рупнасць яго бачаць і дюдзі, і начальнікі. Не абмінаюць добрым словам ды адзнакамі. За шчырую працу і высокія вынікі бацьку хвалілі, прылюдна ўзнагароджвалі граматамі абласнога выканкама і сельгасупраўлення, давалі прэміі. Спрыяла гэта яго настрою, лашчыла розум, бо калі яшчэ ў беларускага селяніна было такое, каб улада дзякавала яму за здатную працу, а ў 1957 годзе выйшаў сапраўдны "зорны час": бацьку прызналі пераможцам Усесаюзнага спаборніцтва і ўдастоілі звання "Удзельнік Усесаюзнай выстаўкі дасягненняў народнай гаспадаркі СССР". Была пры савецкай уладзе такая адзнака для працавітых людзей. Хто яе ўдастойваўся, то атрымліваў запрашэнне ў Маскву на Усесаюзную выставу. Пад такое запрашэнне рабілася спецыяльная праграма з падарункамі, экскурсіямі, сустрэчамі.

Маці ажно знямела ад такога бацькавага гонару. Збірала яго ў Маскву ды перажывала, як



***1957 годзе бацьку ўдастоілі звання "Удзельнік Усесаюзнай выстаўкі дасягненняў народнай гаспадаркі СССР"***

там яму будзе ў далёкім і чужым горадзе, да якога доўга ехаць па чыгунцы. Разам з маці неспакойна было за бацьку і мне. Ды толькі сам ён бадзёрыўся, падміргваў мне, пасмейваўся:

- Як-небудзь спраўлюся... Язык да Кіева давядзе, вучыў на фронце палітрук. Я ж праз Маскву дадому з арміі ехаў. Праўда, адно вакзал і бачыў...

Стаялі пахмурныя восеньскія дні на пачатку лістапада. Дождж перамяжаўся са снегам, туманам, з першымі замаразкамі. Бацька з вечара начысціў боты, маці дастала свежую бялізну, нядаўна пашытыя порткі-галіфэ і новую пацяжку. Зрання ўвесь дом быў на нагах; бацька ўвабраўся ва ўсё новае і пайшоў да канторы на машыну, на якой яго спецыяльна павезлі на чыгуначную станцыю ў Гарадзею на маскоўскі цягнік.

Мы нібыта асірацелі без яго ў хаце ды замерлі ў трывожным чаканні. Не ведаю нават, як дацярпеліся яго звароту з Масквы. Бо аніякай звестачкі: ці даехаў, ці сустрэлі, ці жывы хоць? Ужо не да ўзнагароды, хоць бы вярнуўся. Ды праз тыдзень дачакаліся. Бацька прыехаў узрушаны, задаволены, з падарункамі: цукеркамі, маскоўскімі баранкамі, а яшчэ прывёз мне ліхтарык кітайскага вырабу пад круглыя батарэйкі.

Майму гонару перад вясковай дзетварой не было граніц. Такога ліхтарыка ніхто не бачыў на вёсцы. Кожны дзень я з нецярпеннем чакаў ночы. На радасць яны ў лістападзе прыходзілі рана і былі вельмі цёмнымі. Як толькі чарнела простора, я хапаў ліхтарык і з чарадою дзяцей мы гойсалі па вуліцы да немачы. Я дэманстраваў сябрукам святло слупам, у кропку, пад ногі. Асабліва цікава свяціць у неба, калі ідзе снег, ці нечаканым святлом палохаць катоў і сабак. Жартавалі і з людзьмі: свя-



СВИДЕТЕЛЬСТВО

Тов. Друговец Николай Васильевич-машинист ТЛ-40 и КЛ-25 Несвижской МТС, Несвижского района, Минской области, Белорусской ССР

ЯВЛЯЕТСЯ УЧАСТНИКОМ ВСЕСОЮЗНОЙ СЕЛЬСКОХОЗЯЙСТВЕННОЙ ВЫСТАВКИ 1957 года И НАГРАЖДЕН МЕДАЛЬЮ УЧАСТНИКА ВСХВ

Главный комитет ВСХВ

Г № 158509

Москва Октябрь 1957 г.

***З Масквы з залатым медалём ВДНГ***

цілі ў патушаныя вокны, у дзверы, калі іх адкрывалі, выходзячы поначы на двор. Я быў героем, бо меў ліхтарык, і яшчэ таму, што мой бацька пабываў ажно ў Маскве. Ні ў кога з дзяцей не было такога ганаровага бацькі.

Яно так мелася на самай справе. Бацька прыехаў з Масквы з залатым медалём ВДНГ. Добрая чутка аб ім неслася па акрузе. Яго запрашалі ў розныя месцы павучыць іншых, расказаць пра тэхнічныя ўдасканаленні, што прыдумаў на сваім агрэгаце. А ён быў спраўны да тэхнікі, як любіла пахваліцца маці, кемлівы. Яшчэ за нейкі час да Масквы бацька ўдасканаліў на сваім агрэгаце заводскую прыспасобу для перахопу палоек на выхадзе з ільнотрапалкі. Палойкі захрасалі часта на выхадных барабанах, закручваліся ў клубок, ад трэння задымляліся і ўсхопліваліся агнём. Пажар штодня вісеў у паветры. Бацька разабраўся ў канструкцыі, перарабіў барабаны на свой розум - палойкі перасталі захрасаць. З гэтым удасканаленнем выйшла цікавая "маскоўская штучка". Ён часцяком распавядаў пра яе за сталом. Помнілася яна яму да канца дзён.

...На момант хачу адступіцца ад свайго аповеду. Сёння 16 чэрвеня 2009 года, аўторак. Цэлы дзень несупынна льецца дождж. Смуткуе неба. Разам з небам і я ў смутку, у роздуме. Сёння роўна тры гады, як памёр бацька. Я, бывае, падумаю, нешта даўно не бачыліся мы з ім, не гаварылі. Даўно ён не пытаўся ў мяне: "Ну што там у вас, у Мінску, чуваць?" Здрыгануся, расплюшчу вочы, пагляджу навокал і вяртаюся ў рэчаіснасць. Бацька сышоў назаўсёды...

Каб можна было вярнуць хоць дзянёчак, хоць хвіліначку з тых нашых сустрэч, хоць на імгненне ўбачыць яго ласкавыя вочы, расказаць яму пра дзяцей, пра свае думкі і справы. Як бы іначай я даражыў тымі часінамі сёння...

Мо, і пішу гэтыя радкі, бо вінавачуся, шкадую аб тым, чаго не вернеш. Мо паспакайнее душа, мо асмягне прысак у сэрцы, калі выкажуся, павінюся. Мо, дзеці прачытаюць ды лепей зразумеюць свае гады, абачлівей будуць жыць...

Дык вось адносна "маскоўскай штучкі". Падчас размовы на ВДНГ са сваімі калегамі-"ільнотрапальшчыкамі" з іншых мясцін Савецкага Саюза, калі яны ўсе скардзіліся прысутным начальнікам сельскай гаспадаркі на канструктыўныя недаробкі агрэгатаў, бацька падняўся і расказаў, як яму ўдалося выправіць заторы палоек. Выступ адзначылі, выпісалі там жа на выставе прэмію. На другі дзень яго знайшоў маскоўскі інжынер, сказаў, што чуў пра яго ўдасканаленне і хоча больш падрабязна з гэтым удасканаленнем азнаёміцца. Бацька шчыра, гадзіны са дзве, расказваў, як і што ён перарабіў у заводскай канструкцыі. Масквіч падрабязна запісваў, замалёўваў нешта ў блакнот па бацькавым расказе.

Прайшоў час. Мо праз паўгода машыніст ільнотрапалкі з Якшычаў, недалёкая ад нас вёска, сустрэў бацьку:

- Заедзь, Коля, паглядзі. Палучылі новую машыну, дык ужэ па-другому зрабілі выпускны транспарцёр...

- Паехаў я - і праўда, на самам дзеле па-другому, - расказваў пасля бацька. - Але ж точна, як мая, што я таму маскоўскаму інжынеру паказаў. Ну, падумаў, маладзец, хваткі хлопец. Бачыш, адразу на завод пусціў ізабраценіе...

Бацька не здагадваўся, што хітраман-масквіч выдаў яго канструкцыю за сваю распрацоўку, атрымаў патэнтнае пасведчанне і вельмі добрыя грошы. Аб удалым удасканаленні нават пісалі ў сельгасчасопісе, здаецца, "Лён і каноплі", выходзіў такі. Калі я даказваў, што яго "абвёў вакол пальца" гэты прайдоха-вынаходнік, бацька нават не гневаўся, а даволі спакойна зазначаў:

- Можа быць, але ж у праізводства запусціў... Нічога, хваткі хлопец...

- Так вы, папа, маглі палучыць шмат грошай за прапанову. Гэта ж вынаходніцтва...

- Не, якія ж грошы... Я на выстаўцы пабыў, то й добра...

Пазней я зразумеў, што ў бацькі думкі не магло быць, каб селянін, забіты чалавек з вёскі, атрымаў вялікія грошы, ды яшчэ ў самой Маскве за нейкую дробязь. Пераварыў ці пераставіў пару жалязяк на ільнотрапальным аграгаце - і за гэта грошы?! Такіх пераробак кожны дзень ён і яго паплечнікі, сялянскія механізатары-самавучкі, дзясяткамі робяць...

Сапраўды, вясковыя "тэхнічныя людзі" былі

кемлівымі ў сваёй справе. Усе яны выйшлі з аратых, ад спрадвечнай "сахі і касы" і з вялікай ахвотай узяліся за тэхніку-трактары, камбайны, станкі, сеялкі, веялкі, матацыклы, машыны. Да чаго ж заўзятыя да працы людзі! То забуяла ды расцвіла на новым улонні спажытая вякамі сялянская самаахвярнасць ды здатнасць. Першыя калгасныя механізатары, трактарысты, камбайнеры, токары, слесары трохі вучыліся, месяц-другі, на механізатарскіх курсах пры МТС у Нясвіжы, а то і ўвогуле былі самавучкамі. Пасля ў Клецку адкрылася сельскае прафесійна-тэхнічнае вучылішча. Там пачалі вучыць па году-два сельскіх хлопцаў на розныя тэхнічныя спецыяльнасці. Але тое было пазней. Пазней і тэхніка лепшала, удасканальвалася, станавілася больш прыхільнай да чалавека. Першынцы ж айчыннай індустрыялізацыі, асабліва трактары, камбайны, плугі, былі груваcткімі, цяжкімі, можна сказаць, нечалавечымі для працы на іх. Асабліва напачатку, у пяцідзясятых-шасцідзясятых гадах, калі толькі пачыналася вялікая механізацыя на сяле. Ды адолелі, упраглі іх у работу тыя першыя хлопцы-трактарысты, што падлеткамі вучыліся хадзіць з плугам за канём і трымаць у руках ляйчыну, а потым з радасцю ўзяліся за рычагі і колы.

...Перад вачыма Росцік Домчын, наш сусед. Калгас даверыў яму адзін з першых калёсных "Беларусоў", якія пачаў выпускаць Мінскі трактарны завод. Гэта ўжо была больш дасканалая тэхніка, безумоўна, лепшая ў параўнанні з грымучым і траскучым, на стальных калёсах "чалябінцам". Росцік самавіта пaглядаў на вясковых людзей з высокага трактарнага сядзення, а мы, малыя, круціліся каля яго "Беларуса", калі ён прыязджаў на абед ці на начны спачынак.

Трактар без кабіны, таму і ў дождж, і ў снег, і ў вецер трактарыст цярпеў, мокнуў і мёрз да костачак. Росцік пад восень і ўзімку меў сіплы прастуджаны голас. Адзяваўся пухната: галава і шыя заматаны доўгім шарсцяным шалікам, шапка-вушанка завязана назад, за вушы, ватоўка блішчыць на сонцы, бо праелася наскрозь алівай, салідолам, саляркай. Яе ніхто ніколі не мыў і не чысціў, тканіна ўкарэла, стала падобнай на першы лядок у сцюжу.

Запусціць рухавік тагачаснага трактара, асабліва зімой, цэлая бяда. Спачатку трактарыст распальваў бензінавую паяльную лямпу, грэў картэр, каб растапіць застыўшую ў маторы аліву, бо інакш не правернуцца поршні і каленвал; потым уключаў пускач. Пускач - гэта спецыяльны бензінавы мінірухавічок для таго, каб завесці асноўны рухавік. Ён жудасна лапатаў. На ўсю ваколіцу разлятаўся рэзкі, пранізлівы, страляючы гук, нібыта які вар'ят ухапіў гармату і пачаў бесперапынна лупіць снарадамі; з трубы ў неба шугаў трапяткі чорны дым.

Мы гуртам, не адрываючы вачэй ад гэткага дзіва, назіралі за працэсам. Калі пускач пачынаў трашчаць драбней, без усхліпаў і задыхаў, Росцік, упёршыся, рэзкім штуршком рукі пераводзіў справа налева чорны рычаг. Адразу завіваўся новы, больш ціхі, падобны на гудзенне чмяля гук. Пачынаў круціцца асноўны рухавік. Пускач глушылі і давалі "пад хвост" рухавіку, газуючы "да кнопкі", каб ён "добра прасмаркаўся". Так гаварылі бывалыя трактарысты.

Я не ўпамянуў яшчэ аб тым, што вечарам пасля работы з трактара трэба зліць ваду, бо ў мароз яна замерзне і парве рухавік. Гэта зараз у маторы заліваюць незамярзаючыя вадкасці, накшталт антыфрызу. Тады пра такія вынаходкі нічога не ведалі. Толькі армейскія хлопцы, якім давялося паслужыць у танкавых войсках, расказвалі, што там вада не замярзае ў маторах. Ды тое было падобна на казку, бо ў калгасе трактарысты і шафёры кожную зімовую раніцу распальвалі касцяркі і грэлі ваду ў вёдрах. Добра, калі дазвалялі паставіць трактар ці машыну дома, на надворку. Тады грэлі чыгуны з вадою ў печы і абыходзіліся без вогнішча. Мучыліся так кожны зімовы дзень. А зімы былі такія, што нос з хаты не высунеш, бо мароз трашчыць; дзверы не адчыніш на вуліцу - снегам занясло пад самую страху. Зіма сурова выпрабоўвала людзей.

Цяжэй за іншых даводзілася тым, хто працаваў на тракавых трактарах. Рухавікі там былі здаравенныя, разагрэць і "даць яму жыццё" ў марозную раніцу - ой колькі трэба папацець! Затое на "траках"



***Тыя першынцы "Беларусы" зараз на пастаментах. Мінскі раён, вёска Крупіца, 2016 г.***



***На гэтым калгасным мехдвары "гартавалася сталь"...***

тварамі, патрэсканымі рукамі, але бадзёрымі і не самотнымі засталіся ў маёй малечай памяці нашы хадатаўскія механізатары. Хачу назваць іх паімённа, па вясковых, неафіцыйных прозвішчах: блізкі бацькаў прыяцель, заўзяты майстар да любой справы Толя Максімаў, а таксама Васіль Грышкаў, Аляксандр Грыб, Коля і Анцік Чарнабаевы, Коля Яўгенеў, Росцік Домчын, Іван Ёганаў, Віцік Ёзічкаў, Васіль Міхасеў, Толік Костусеў, Мішка Семачкаў, Пашка Уладкаў, Толік Багданаў, Васька Ёзічкаў, Васька Костусеў, Колік Ладымяраў, Вася Твароўскі, Коля Сяргейкаў...

была кабіна, хоць і на дзірках, шчылінах, але ж кіроўца быў закрыты ад непагадзі ды сцюжы.

Кіраваць тымі "першынцамі" таксама няпроста. Каб павярнуць рулявое кола на "Беларусе", трэба добра напяцца, бо ніякай гідраўлікі не існавала. Тракавыя ўпраўляліся рычагамі, як танкі, таксама трэба паўпірацца. Малым я падсаджваўся да нашага хадатаўскага, знакамітага ў наступныя гады трактарыста Васі Твароўскага, ардэнаносца, а тады яшчэ маладзенькага юнака, якога пасадзілі на "тракавы", і дзівіўся таму, як ён абедзвюма рукамі, з усяе сілы цягне на сябе то адну, то другую палку рычагоў, каб павярнуць трактар направа ці налева.

Машыны, трактары, камбайны часта ламаліся, рамантавалі іх на мехдвары, у халодных дзіравых боксах. Ніякага асфальту, непралазная гразь; абедалі лустай чорнага хлеба з кавалкам сала ды цыбулінай тут жа, ля трактара, разлажыўшы на траку загорнутую ў газету небагатую ссабойку.

У мяне перад вачыма, як сказаў бы мой сябра, выдатны мастак Віктар Альшэўскі, стопрацэнтнае "ўражанне раўнавагі". Чорнымі, нібы абгарэлы смаляк, рукамі, трохі выпертымі аб такую ж прамасленую анучу, трактарыст Коля Сяргейкаў, седзячы на траку, бярэ з газеты кавалак белага, як рэпа, сала, густа абсыпанага шэрымі крупінкамі буйной солі, кладзе яго на чорны хлеб... Тут не да ветрыку з бярозкамі, тут іншы пейзаж: спраўнае палатно суровай і адначасова ў нечым радаснай барацьбы за жыццё. І ніхто не ківаў на крызісы, не скардзіўся, не зацінаўся ў суме ці роспачы. Бо ведалі - будзе лепей, к гэтаму ўсё ідзе.

У прамасленых ватоўках, кажухах, у кірзавых ботах і валёнках, з абветранымі чырвонымі



***Першыя камбайнеры. Бацька з будучым сватам Анатолем Максімавічам Гадуном (злева). Здымак пачатку 1960-х***

Са светлым сэрцам я прыпамінаю кожнага і дагэтуль дзіўлюся іх заўзятасці ў рабоце, вытрымцы, чалавечай сціпласці. Толькі золак займаецца, а ўжо затрашчаў на бураках на сваім "уладзімірцы" (невялічкі калёсны трактарок з расійскага горада Уладзіміра) Колік Ладымяраў (Гадун). Будзе ён трашчаць на ім да позняй ночы, пакуль месячык не ўзыйдзе і зоркі не загарацца. І так штодня, зімой і летам.

А якім здатным майстрам на ўсе рукі быў




*Пасведчанне Драгаўцу М. В. аб прысваенні звання "Ударник коммунистического труда". Падпісаў старшыня калгаса С. В. Санько*

Толя Максімаў! Яны з бацькам асвойвалі першыя савецкія камбайны. Толя - камбайнерам, бацька-памочнікам. Гэта не тое, што зараз у кабіне з кандыцыянерам ды камп'ютарам, а тады - толькі казырок з парусіны над галавою ад сонца, ды рукі, абабітыя да крыві, бо то заб'ецца саломай матавіла, то парвуцца рамяні з ланцугамі.

...Бачу, як зараз, скамянелага ад холаду на плузе за трактарам у познюю восень Пашку Уладкавага. Былі ў той час на вялікіх плугах жалезныя сядзенні і рулявыя колы, каб апускапь і падымаць лемяхі падчас ворыва. Тых, хто гэта рабіў, называлі прыцэпшчыкамі. Гэта як памочнік трактарыста, але трактарыст у кабіне, а прыцэпшчык на плузе пад дажджом, снегам, пранізлівым ветрам трасецца на жалезным брусе ды круціць цяжкае жалезнае кола. Пашка, сам па сабе мажны і моцны хлопец, нібыта застыў, скукожыўся ад холаду, твар яго чырвона-сіні...

Ці яшчэ прыпамінак той пары. Ваколіцу ахоплівае цёмная, сырая лістападаўская ноч. На полі за балотам то сцішаецца, то мацнее бясконцы трактарны рокат. Я ведаю, там Вася, сын Зіны Твароўскай, арэ іржышча. Цьмяна паблісквае ў цемры адзінокая фара, трактар нетаропка, нібыта стары натруджаны конь, звыклы за жыццё да ўсялякіх нязручнасцей, адмервае свае палосы. Я засынаю пад гэты далёкі мурлыкасты рокат і прачынаюся таксама з ім. Цэлую ноч за жалезнымі рычагамі, без перапынкаў і перакусаў Вася араў ніву...

Дзіўлюся зараз, прыпамінаючы тыя калгасныя дні: работа была катаржная, рабілі ад цямна да цямна - не тое, што цяпер. Начамі аралі, валіліся ад спякоты і стомы на калгасных дзялках жанчыны, але ж не было смутку і журботы. Наадварот, было ўсеагульнае пачуццё прыўзнятасці і бадзёрасці. Людзі радаваліся самым простым рэчам: таму, што зранку бягуць на работу, што пасля работы паспелі падаіць карову і напаіць дзяцей малаком, што купілі бохан ці два хлеба, што атрымалі некалькі рублёў заробку... Хай сабе стомленыя, але з настроем, з добрым гумарам. У нядзелю збяруцца каля матацыкла на нашым двары, то бруяцца жарты, рогат, смешныя споведы.

Жыццё кіпела, поўнілася аптымізмам. Бо хоць і катаржная, хоць і бязлітасная была праца ў калгасе, але ж яна давала магчымасць выжыць, зарабіць грошы, хай не такія вялікія, ды ўсё ж за іх можна адзець і пракарміць дзяцей, прыдбаць і зладзіць гаспадарку, патроху ўстаць на ногі, выпраміцца. Гэта, безумоўна, натхняла людзей.

Аглядаючыся на той час, бачу яшчэ адзін, мо самы першы, самы значны выток людскога аптымізму. Улада змагла даць людзям адчуванне надзейнасці, веру ў будучыню, упэўненасць у незваротным лепшанні іхняй долі. Калгасы атрымлівалі новую тэхніку, сялянам дазволілі трымаць асабісты падворак.

Помніцца, толькі падсохлі пасля веснавой паводкі дарогі, як на вёску завітала рухавая брыгада хлопцаў і маладых дзяўчат на трактарах і аўтамашынах. За колькі дзён яны спора паставілі чорныя прасмаленыя слупы; дзяўчаты прабеглі па хатах, развялі праводку, падвесілі лямпачкі. Ад цэнтральнай сядзібы калгаса да вёскі шпарка працягнулі правады, веерам раскінулі іх па фацыятах. Наступіў незабыўны вечар - зырка засвяціліся пасля цьмяных газнічак вясковыя вокны. "Во, эта так свет, фасолю можна сабраць на зямлі ўпоначы..." - узрушана гаварылі людзі. Якая то была радасць у хатах ад гэтага святла!

Амаль аднachасова з электрычнасцю ў вёску пачаў ездзіць, як казалі "хадзіць", аўтобус з Нясвіжа: спачатку два разы на дзень, а потым і тры.



*Цэнтр калгаса стаў будоўляй. Новаяшкола*

дапамога паміж людзьмі. Моладзь выхоўвалася на пачуццях прыязнасці да роднага краю, да сваёй Айчыны. Школьнікамі мы назубок ведалі ўсе дванаццаць прынцыпаў Маральнага кодэксу будаўніка камунізму, якія, па сутнасці, паўтаралі рэлігійныя хрысціянскія запаветы. Калі ты піянер ці камсамолец, то павінен строга кіравацца імі ў жыццёвых абставінах. У нас было трапяткое і высакароднае каханне, мы бралі за прыклад у жыцці высокія вобразы літаратуры і лепшых людзей сваёй эпохі. Іншым, узнёсла-здаровым, быў сам дух часу. У ім адметна чуўся водар патрыятызму, жаданне зрабіць нешта карыснае для сваёй краіны. Тая, мякка кажучы, неэтычнасць і неэстэтычнасць, што поўняць сёння тэлебачанне, кіно, радыё і газеты, былі проста немагчымымі і недапушчальнымі.

Аб тым, добра гэта было ці кепска, хай спрачаюцца іншыя. Я толькі апісваю тое, што бачыў, чуў і добра спазнаў. Тым больш, што не маю намеру маляваць ідыліі. Кожны час мае свае хібы. Я не стараюся абысці іх бокам ці не прыкмеціць поглядам. Ды не магу адступіць ад высновы: у тыя пасляваенныя, асабліва 60-70-я, гады дзяржава сапраўды хацела лепшай долі людзям, змагалася за гарманічнага чалавека, патрыёта і калектывіста. У паветры струменіў водар здаровых надзей і добрых спадзяванняў на заможную будучыню. Трэба сказаць, што далёка не апошняй была ў гэтым роля кіраўнікоў Савецкай Беларусі Панцеляймона Кандратавіча Панамарэнкі, Кірыла Трафімавіча Мазурава, Пятра Міронавіча Машэрава, Ціхана Якаўлевіча Кісялёва. Гэта былі разумныя і самаадданыя людзі. Край наш за невялікі прамежак часу непараўнальна змяніўся, ад сахі і лапцяў апынуўся ў шэрагу прамыслова і культурна развітых рэспублік. Пашчасціла нам, беларусам, на кіраўнікоў. Ды, думаецца, не выказалі мы ім за тое яшчэ пэўнай павагі і падзякі.

Не лішнім будзе ўспомніць і кіраўнікоў Нясвіжскага раёна, бо ва ўсе гады раён передавы ў вобласці і рэспубліцы. На маёй памяці гучала прозвішча Кіма Фёдаравіча Сінічкіна. Потым Анатоля Мікалаевіча Бычака. Памятаюць людзі клапатлівую і адданую справе Марыю Мікалаеўну Худую.

Прыкметны след пакінуў пасля сябе Уладзімір Несцеравіч Дражын. Гэта быў перыяд індустрыялізацыі ў калгасах. Вёскі разбудаваліся, гаспадаркі сталі эканамічна моцнымі сельгасцэнтрамі.

Праз колькі гадоў адкрылі нават маршрут "Мінск - Хадатавічы", і моладзь з навакольных вёсак была задаволена, што не трэба тлуміцца ў чэргах у Нясвіжы, каб здабыць білет на сталічны рэйс, звычайна заўжды перапоўнены.

Цэнтр калгаса стаў будоўляй. Замест драўлянай школы ў Казлах вырасла двухпавярховая, са сталовай і спартыўнай залай, стадыёнам, сваім садам і доследнай дзялянкай зямлі, з майстэрняй. Цагляная сучасная школа! У ёй мы спазналі лепшыя хвілінкі. Бацькі нашыя гэта бачылі. Таму і настрой іх поўніўся светлымі згадкамі, спадзяванкамі на добрую долю дзяцей, на спакойную будучыню.

Жыццё імкліва мянялася. Можна сказаць, на вачах. Хоць бы такі яшчэ прыкметны момант. Калі бацька і маці жаніліся, то паехалі распісвацца ў Казлоўскі сельскі савет на роварах. Так было ганаровей, чым ісці пехам. Бо ровар мелі толькі заможныя сем'і, некалькі на сяло, на сотню двароў. Пры Л.І. Брэжневе ровар стаў звычайным ці не на кожным надворку. Нават на работу (а калі такое было?!) беглі не пехатою, а хто на ровары, на матацыкле, у хуткім часе і на ўласнай машыне. Спяшаліся, ой як спяшаліся на гэты, стаўшы іх лёсам, калгасны мехдвор, на ферму ці ў поле.

Не абысці і такую вельмі істотную, на мой погляд, асаблівасць. Тыя пасляваенныя гады і пазнейшыя, недзе да канца 70-х, былі намнога больш справядлівымі і чыстымі ў сваім маральна-духоўным строі. Мясцовае начальства на кожным кроку адчувала патрабавальны, а часам і суровы партыйны позірк, спаўна аддавалася рабоце. Падман, крадзёж, хлусня строга караліся, мелі гучнае грамадскае абурэнне.

Падтрымліваліся ўзаемавыручка і ўзаема-



*У. Н. Дражын*

Уладзімір Несцеравіч прыязна ставіўся да людзей, падтрымліваў здольных кіраўнікоў і спецыялістаў.

Прадоўжыліся добрыя традыцыі і ў апошнія гады, калі раёнам кіраваў Іван Іванавіч Крупко.

Над такім "савецкім пазітывам" іранічна пасміхаліся "змагары за дэмакратыю" напачатку гарбачоўскага перапрусу. Але гэта праўда, я быў таму сведкам і на вуліцы, і ў сям'і. Так званы калгасны прыгон, рабская праца на дзяржаву, што перамыты тысячамі крытычных артыкулаў ды здзеклівымі прамоўцамі, тым не менш дазволілі нашым бацькам жыць лепей і багацей, чым жылі іх продкі, праліваючы пот на ўласніцкіх стужках-дзялянках. Механізатары ж лічыліся элітай вёскі, яны зараблялі большыя грошы, мелі не толькі сезонную, а пастаянную работу. Праўда была і ў тым, што і самі яны, пацёршыся каля тэхнікі, станавіліся больш кемлівымі, больш шырокага погляду людзьмі. Вякамі сялянская праца не ведала нічога акрамя сахі, рыдлёўкі, сякеры, сярпа, касы і сахара. А тут зусім іншы расклад, новы парадак, другое жыццё. Селяніна дапусцілі да навукі, далі яму ў рукі тэхніку, далі і свабоду: бяры трактар, працуй, зарабляй грошы...

Гэтага - свабоды, даверу, дзяржаўнага клопату аб простых людзях - было, мо, і не так многа, але пасля сталінскага прыгону, голаду і страху і тое здавалася раем. Як імгненна перамянілася вёска! Заблішчэлі бляхаю дамы, павытыркаліся антэны над стрэхамі, на дварах з'явілася тэхніка. У працавітых ды заўзятых у хлявах па дзве-тры каровы, цялушкі, авечкі, свінні; на сотках бульба, буракі, сады і агароды. Вечарамі звінела сяло песнямі, буяла align розгалоссем дзіцячых гульняў і забаў.

Быў такі час у нашай гісторыі. Вялікая дзяржава, СССР, узяла першы спачынак ад рэвалюцыйных пераутрусаў і войнаў. Суцішылася ваенная істэрыя, палепшыліся адносіны з Захадам, запрацавалі эканамічныя рэформы. Упершыню кіраўніцтва краіны рашылася не абдзіраць да ніткі, а паклапаціцца пра сялянства, пра самых прыгнечаных і абрынутых людзей, на чыіх плячах дзяржава вяршыла свае перамогі. Гэтыя шчаслівыя дзянёчкі пасля галадух і "чорных воранаў" добра адбіліся ў маёй памяці. Як той прамень святла, што рабілі мы кітайскім ліхтарыкам у цьмяную ноч, любуючыся ціхім кружэннем першых бялюткіх сняжынак над саламянымі стрэхамі.



***Толя Максімаў і Зіна ці не першымі на сяле купілі сабе новенькі "Масквіч"***

*(Працяг у наступным нумары.)*

*Станіслаў Суднік*

# Сейлавічы: *пад скрып стагоддзяў*

***1000-годдзю Сейлавіч прысвячаецца***

*Стагоддзі каціліся па гэтай зямлі - зрэдку мякка і плаўна, але па большасці з цяжкім скрыпам, падкідваючы на калдобінах лёсу асобных людзей і ўвесь народ, якому вельмі няпроста было ўтрымацца на возе жыцця, не вываліцца на ўзбочыну, не скаціцца ў нябыць.*

*21 год назад, у 2001 годзе, я зрабіў першую спробу запісаць хоць нешта з гісторыі Сейлавіч, зафіксаваць хоць некаторыя этнаграфічныя рысы, згадаць хоць некаторых людзей, якія пакінулі след на сейлавіцкай зямлі. Тады ў 22 нумарах газеты "Наша слова" было надрукавана эсэ "Сейлавічы: крэскі на белай пляме". Гэта была першая такая вялікая праца пра Сейлавічы. Але яна засталася на паперы. Газета "Наша слова" сышла ў гісторыю. А на дварэ 21-е стагоддзе, век электроннай літаратуры, век электронных газет і часопісаў, і хацелася б, каб зробленая праца перайшла ў электронны фармат. А тут за 21 год з'явілася шмат новай інфармацыі. Яна раскідана па розных крыніцах. Многае ўдалося сабраць, і цяпер трэба ўсё сумясціць і выдаць цэльным масівам. Трэба паправіць розныя дробныя недакладнасці.*

*Калі я пісаў "Крэскі...", былі жывыя і з добрай памяццю многія сейлаўцы, якіх цяпер ужо няма. Добра, што тады ўдалося хоць нешта запісаць.*

*Праца прысвечана 1000-годдзю Сейлавіч. Ці ёсць тая тысяча сапраўды, пра гэта мы пагаворым па ходу аповеду, але калі і няма, то, пэўна, ж некалі будзе. І праца прысвячаецца менавіта той тысячы, якая непазбежна. Бо Сейлавічы мусяць быць, мусяць дастояць да той тысячы. Без іх, без Сейлавіч будзе Нясвіжскі раён, але нейкі няпоўны, будзе няпоўная Менская вобласць, будзе няпоўная і сама Беларусь. А з Сейлавічамі - о-го-го! які гэта раён, якая вобласць, якая краіна. І мы сёння паспрабуем заглянуць у мінулае і сучаснае Сейлавіч, пабыць унутры тысячагоддзя.*

## Сейлавічы пачынаюцца ад Дружбы

Недзе там у вялікім еўрапейскім свеце ўсе дарогі вядуць у Рым. У нашым, трохі меншым свеце, які называўся Вялікім Княствам Літоўскім, усе дарогі вялі ў Вільню, сёння ў Беларусі ўсе дарогі вядуць у Менск, а на Нясвіжчыне ўсе дарогі вядуць у Нясвіж. Але як тыя дарогі вядуць у Нясвіж, так мусяць весці і з Нясвіжа. Некалі з Нясвіжа цераз Сейлавічы ішоў гасцінец **Нясвіж - Магільна**. У Магільным нават вуліца з нашага прыезду называлася **Нясвіжскай**, як сведчыў доктар гістарычных навук Леанід Лыч.

У даўнія часы Нясвіж быў значна меншы, сённяшнія прыгарады былі незаселеныя, вуліцы і дарогі ішлі трошкі інакш. І наш гасцінец ішоў правей ад сучаснай дарогі на Сейлавічы - цераз **Фальваркоўцы**, **Мікулічы**, там ёсць стары мост цераз ручай (адзін з прытокаў Ушы), пакідаў Ганусаўшчыну злева, Бажантарня заставалася справа, і ўваходзіў у Сейлавічы ў раёне пасёлка. Пазней дарога прыняла крыху ўлева і пайшла міма Фальваркоўцаў цераз засценкі Дольная і Бярозбалота, правей Ганусаўшчыны і далей на сейлавіцкі пасёлак. Але на карце 1865 года гэта ўжо не асноўная дарога. Асноўную дарогу адвярнулі крыху ўлева і пусцілі каля лесу, так што Ганусаўшчына цяпер стала справа. Утварыўся крук, але дарога абходзіла ручай і ўсе вясенне-асеннія праблемы, звязаныя з ім. А праблем хапала. Каля Сейлавіч пачынаецца Капыльская града, высокія пагоркі, і ў снежныя зімы пойма ручая затаплівалася канкрэтна.

Новая дарога адгаліноўвалася ад дарогі на Навасёлкі і, пакідаючы справа Заазер'е, якое на картах таго часу імянуецца Забалоццем, і накіроўвалася на ўсход. Нясвіж разбудоўваўся і дабраўся да гэтага самага разгалінавання. Недзе

ў 60-я гады 20-га стагоддзя на краі Нясвіжа па сейлавіцкай дарозе і пабудавалі магазін і сталоўку з чыста савецкай назвай “Дружба”. Назву выбралі някепскую, народу зразумелую, людзі яе прынялі, і Дружбай пачаў называцца ўвесь невялічкі мікрараёнчык, а калі забудовы перасягнулі гандлёвы цэнтр і рушылі ў бок Сейлавіч, то ўзнікла новая вуліца, якой лагічна далі назву: **вуліца Дружбы**.

Са з’яўленнем Дружбы папраўлілася жыццё сейлавіцкіх, і не толькі, сялян. Прыродны селянін у горадзе пачуваецца ніякавата, нават, у Нясвіжы. На кані па гарадскіх вуліцах, паміж машын - нязручна. Хоць і трэба. На базар. Сейлаўцы ўжывалі слова “базар”, бо “кірмаш” - гэта нешта крышку іншае, нешта большае, больш сур’ёзнае. Рынак - гэта сама плошча. А базар - звыклы штотыднёвы нясвіжскі базар у нядзелю. Спачатку каля ратушы, а пасля занеслі, лічы, на ўскраіну.

Сейлавец ехаў на базар прадаць парасят, зрэдку цялушку ці авечку. Да калгасаў прадавалі шмат што, бо трэба былі грошы на падаткі і іншыя патрэбы. А калі пры калгасах на сям’ю засталася адна кароўка, то ўжо якое масла ці малако са смятанай да базара з Сейлавіч амаль не дабіраліся.

Нешта прадаўшы, нешта купіўшы (якое



*Магазін “Дружба”, здымак 2020 г.*




вядро, новую сякеру, дзецям якія сандалікі) сейлавец выбіраўся з тлумнага горада. Апошнім пунктам гэтага горада была Дружба. Наперадзе ўжо былі відны прывычныя шырокія палі, а тут гарадскі магазін. Тут можна было дакупіць, чаго не купіў у горадзе (дзецям які




***Вуліца Дружбы, 10,*** *здымак 2020 г*

кулёк падушачак, як пашанцуе, то лівернай каўбасы, бо тая ліверная каўбаса - гэта вам не цяперашняя).

Фурманкі спыняліся каля Дружбы. Мужчыны таксама злазілі з вазоў і заходзілі ў магазін: купіць папяросаў у дарогу ну і бутэлечку віна, якога-небудзь “Волжскага”, ці “Яблычнага”, ці яшчэ якога пад агульнай назвай “Пладова-выгаднае”. Потым, даручыўшы коней жонкам ці дзецям, збіраліся на адзін воз прыемнай кампаніяй, каб выпіць і пагаманіць. І так невялікі абозік з трох-чатырох фурманак не спяшаючыся рухаўся ў бок Сейлавіч.

**Дарога на Сейлавічы**

Адразу за Дружбай ад дарогі на Сейлавічы ці лепш ад вуліцы Дружбы справа адходзіць вулачка на Заазер’е. Цяпер гэта вуліца Азёрная.

Па Азёрнай адразу злева будынак Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства “Доследная






***Доследная станцыя па цукровых бураках***

станцыя па цукровых бураках” з адрасам: г. Нясвіж, вул. Азёрная, 1. Гэта сур’ёзнае прадпрыемства, якое бярэ свой пачатак ад доследнай станцыі ў Ганусаўшчыне, заснаванай у 1928 годзе.

Пра Ганусаўскую станцыю пазней, а зараз толькі прывядзём яе назву і адрас, каб стала зразумела, чаму мы на ёй спыняемся.

Перад вайной з верасня 1939 г. па чэрвень 1941 г. гэта *“Ганусаўская паляводчая доследная станцыя Народнага камісарыята земляробства БССР, в. Ганусаўшчына Сейлавіцкага сельсавета Нясвіжскага раёна Баранавіцкай вобласці”.*

З ліпеня 1944 г. па 1947 г. гэта *“Ганусаўская паляводчая доследная станцыя Народнага камісарыята (з 03.1946 - Міністэрства) земляробства БССР, в. Ганусаўшчына Сейлавіцкага сельсавета Нясвіжскага раёна Баранавіцкай вобласці.”*

Такім чынам Сейлавіцкі сельсавет да 1947 года сапраўды пачынаўся ад Дружбы, якой, праўда, тады яшчэ не было.

Ганусаўская станцыя праіснавала да 1963 года, а далей працу працягнула “Доследная станцыя па цукровых бураках”. Але яшчэ многія гады на ганусаўскіх землях стаялі шыльды “Доследная станцыя “Ганусава”і вёску Заазер’е афіцыйна называлі: “Пасёлак Ганусава”.

Пэўны час дырэктарам станцыі быў мой траюрадны брат Татур Іосіф Станіслававіч са Слаўкава родам, а маці яго была з Пасякоў, якія належалі да Сейлавіцкай парафіі і трапляюць у сферу нашага аповеду.



***Татур Іосіф Станіслававіч***

*Татур Іосіф Станіслававіч нарадзіўся 24 лютага 1963 гады ў вёсцы Слаўкава Нясвіжскага раёна.*

*1970 па 1978 гг. - Слаўкаўская васьмігадовая школа.*

*1978 - 1980 гг. - Сярэдняя школа №3 г. Нясвіжа.*

*1980- 1985 гг. - вучоба на агранамічным факультэце Беларускай дзяржаўнай сельскагаспадарчай акадэміі.*

*1985- 1993 гг. - праца на Беларускай занальнай доследнай станцыі па цукровых бураках.*

*1993- 2012 гг. - дырэктар РУП "Доследная навуковая станцыя па цукровых бураках".*

*У 1995 г. абараніў дысертацыю па вырошчванні цукровых буракоў, кандыдат навук.*

***Факты з жыцця, успаміны.***

*Татур Іосіф Станіслававіч вучыўся ў Слаўкаўскай васьмігадовай школе. Яго першай настаўніцай была яго маці, настаўніца пачатковых класаў - Татур Юзэфа Іванаўна (з дому Нарэйка). Вучобу ў 9-10 класах Іосіф Станіслававіч працягнуў у СШ № 3 г. Нясвіжа і скончыў яе з залатым медалём. Класным кіраўніком яго 10 "В" класа быў тады настаўнік гісторыі Капытка Вячаслаў Кірылавіч, пра якога ён успамінае з велізарнай павагай і цеплынёй. Дзеці актыўна ўдзельнічалі ў рамонце і рэканструкцыі кабінета гісторыі. У памяці таксама засталіся цікавыя ўрокі Кашко Г.І., Сцефановіч Я.В., Кандыбовіч С.П., Чурака І.А.*

*Іосіф Станіслававіч у школе захапляўся таксама замежнай (нямецкай) мовай і з падзякай успамінае настаўнікаў нямецкай мовы Майсейчык В.П. і Чурака І.А., якія прышчапілі любоў да свайго прадмета.*

*Пасля заканчэння школы Іосіф Станіслававіч хацеў нават паступіць у інстытут замежных моў, але яго бацька Татур Станіслаў Іосіфавіч, які ўсё сваё жыццё прапрацаваў аграномам, пераканаў яго. Ён сказаў, што Іосіф вырас у вёсцы, добра разбіраецца ў сельскай гаспадарцы, заўсёды дапамагаў яму ў полі і любіць родную зямлю і прыроду. І Іосіф Станіслававіч не мог і не хацеў падвесці свайго бацьку, працаўніка і чалавека з залатымі рукамі.*

У “Навуцы”, як сейлаўцы называлі доследную станцыю пэўны час працаваў і мой аднакласнік з Сейлавіч аграном **Анатоль Вікенцевіч Ярашэвіч.** Толя Ярашэвіч рана памёр. Іосіф Станіслававіч быў на яго пахаванні.

А да Ганусаўшчыны мы яшчэ вернемся.

Сейлавічы размешчаны прыблізна на паўночны ўсход ад Нясвіжа. З Нясвіжа сюды вядзе адна добрая дарога. Некалі ў Сейлавічах падказвалі, як даехаць да Нясвіжа і не заблудзіць: “Едзь проста, нікуды не зварочвай, то і прыедзеш”.

І хоць тое проста было вельмі крыва, але зблізку не відно, не блудзілі. Некалі за Дружбай стаяў дарожны знак, які ўказваў, што да Сейлавіч - 10 км. Цяпер знак кажа пра меншую колькасць тых км, хаця дарога тая самая.

Першая адмецiна на гэтай дарозе **“Бычнік”** - “Нясвіжская асямяняльная станцыя быкоў”. Хто гэтую “навуковую” назву прыдумаў - не вядома, хто паправіць, каб сэнс быў - не вядома тым больш.

За “Бычнікам” дарога на Сейлавічы перасякаецца з Нясвіжскай абвадной дарогай. Гэтая дарога будавалася доўга, доўга стаяла без асфальту. Заасфальтавалі яе недзе ў нулявыя гады 21-га стагоддзя. І пачаліся на гэты скрыжаванні ДТЗ, і некалькі са смяртэльным вынікам.

Сейлаўцы за гэтыя ДТЗ перажывалі, бо траплялі ў іх і нашы людзі. Дзядзька Казік (Казімір Адамавіч Некраш з Сейлавіч) сказаў, што калі будавалі абвадную дарогу, то раскапалі косці. Тады я паехаў у Нясвіж, знайшоў уцямнага чыноўніка, з якім можна было гаварыць на адной мове. Пасада яго была старшыня райсавета, прозвішча забыў. Парэкамедаваў зрабіць на скрыжаванні з усіх бакоў па тры “ляжачыя паліцыянты”, а скрыжаванне, каб асвяцілі святары ўсіх канфесій. Як яно там было, не ведаю, але “паліцыянтаў” парабілі, і гучныя ДТЗ скончыліся.

Ад скрыжавання дарога дабягае да **Пагулянкі**. Пагулянак на Беларусі не адна. Гэта і населеныя пункты, і вуліцы, і мікрараёны. Назва кажа сама за сябе, але, па ўсім відаць, не надта старажытная. На расейскай карце 1865 года тут пазначаны **цагельны завод Глезера**. У 1988 годзе Пагулянка - урочышча ў Гавязнянскай воласці Слуцкага павета, 5 дзесяцін зямлі. Уладальнік **Гавязнянскі Мордух Мешалеў.** Купіць проста зямлю Мордух Гавязнянскі не мог паводле законаў Расійскай Імперыі. Па ўсім відаць - купіў ён менавіта цагельны завод Глезера. У 1909 годзе Пагулянка падзелена на два ўрочышчы: Пагулянка Голеўская - 8 жыхароў і Пагулянка - 7 жыхароў. У гэты час завод, калі і працаваў, то вытворчасць была нязначная.

На расейскай карце 1914 года, дзе ёсць і Прасмыкаўшчына, і Ганусаўшчына, мы не бачым ні завода і ніводнай Пагулянкі. А вось на польскай карце 1935 года ёсць і Пагулянка, 3 хаты. Пазначана цагельня і паказаны кар’ер, дзе бралі гліну. Вось жа на цагельні такая праца, што не пагуляеш, але назва Пагулянка.

З 31.12.1940 г. па 31.07.1954 г. Пагулянка адносілася да Сейлавіцкана сельсавета.

Цагельня, была тут да сярэдзіны 60-х гадоў XX стагоддзя. Стаяў самы вялізны на ўсё наваколле комін. Калі прайшла чутка, што цагельню зачыняюць і комін будуць узрываць, нам, малым, вельмі хацелася ўбачыць, як тое будзе рабіцца, але не дапялі, не ўбачылі.

Пасля закрыцця цагельні ў Пагулянцы пачалі рабіць шыфер. Шыфер атрымоўваўся тут нізкай якасці, цяжкі, тоўсты, нейкі сыры. Ніхто яго вельмі купляць не хацеў, імкнуліся купіць крычаўскі, хоць той і быў даражэйшы. Ну, але ад безвыходнасці куплялі, крылі хаты, а праз нейкі час перакрывалі, а той шыфер, які ўдавалася зняць ішоў на дробныя гаспадарчыя пабудовы.

Цагельню зачынілі, але ў памяць пра яе засталася шыльда з назвай аўтобуснага прыпынка, а разам і населенага пункта **“Кирпичный”**, хаця народ не забываў Пагулянку. Здавалася, што так будзе вечна, але ў 2005 годзе справа вырашылася. Вось як пра гэта пісала газета “Наша слова”:

***“Вяртанне Пагулянкі***

*На мінулым тыдні на Нясвіжчыне здарылася падзея выключнай важнасці - тром населеным пунктам вернуты іх адвечныя назвы. Яшчэ за даўнім савецкім часам самадзейнай воляй мясцовых чыноўнікаў населены пункт Пагулянка з-за таго, што тут размяшчаўся цагельны завод, быў перайменаваны ў пас. Цагельны. Цэглу там не робяць з сярэдзіны 60-х, а назва трывала на шыльдах і ў паперах, хаця навакольны люд так і працягваў гаварыць: "Пагулянка".*

*Таксама вёску Заазер'е, дзе будаваліся дамы для рабочых эксперыментальнай станцыі "Ганусава", пачалі іменаваць пас. Ганусава, а Альбу, дзе жывуць рабочыя Біяміцынавага завода, - пас. Біязавода.*

*І вось, як паведамілі карэспандэнту "Нашага слова" ў Нясвіжскім райвыканкаме, у ДЭУ-168 (дырэктар Дуброўскі І. Л.), якое адказвае за шыльды на дарогах, задаліся пытаннем, чаму людзі гавораць так, а на шыльдах - па-іншаму. Высветлілася, што ніякіх рашэнняў райвыканкама аб перайменаванні гэтых населеных пунтаў няма і ніколі не было, а, значыць, юрыдычна правамерныя старадаўнія назвы. У выніку па ўзгадненні з галоўным архітэктарам раёна былі ўстаноўлены шыльды з адвечнымі назвамі. Ізноў радуе вока вясёлая **Пагулянка**, мілагучнае **Заазер'е**, славутая на ўвесь свет **Альба**.*

*Вось так, недзе гавораць, а недзе робяць.*
*Яраслаў Грынкевіч.*
*№ 32 (718) 24 ЖНІЎНЯ 2005 г.”*

З 1992 года ў Пагулянцы размяшчаецца "Нясвіжскае раённае міжгаспадарчае вытворчае прадпрыемства па энергетычным забеспячэнні сельскай гаспадаркі "Райаграпрамэнерга" ("Райсельэнерга").

На 1.01 2001 г. у Пагулянцы было 9 двароў, 19 жыхароў. Мае статус вёскі.

Дарога ад Пагулянкі ў бок Сейлавіч некаторы час бяжыць проста, і калі б так і бегла, то прайшла б правей Ганусаўшчыны і выйшла б роўненька на Сейлавічы. Але, як ужо згадвалася, па гэтым маршруце дарогу чакала глыбокая лагчына з ручаём. Чым сыпаць грэблю, прасцей аказалася прыняць улева і лагчыну абысці. Таму недзе праз кіламетр пасля Пагулянкі дарога паварочвае ўлева. Паварот даволі круты, трэба скідваць хуткасць, тут не адна машына кульнулася.

Павярнуўшы ўлева дарога ідзе ў бок лесу. Перад лесам пабудавалі свінарнікі "Нясвіжскай асямяняльнай станцыі кноразаў", як казалі, больш камфартабельныя, чым піянерскія лагеры савецкага часу.

Далей пачынаецца лес пад назвай **Госцібна**. Гаворка пра лес доўгая, мы яе адкладзём, каб спачатку разабрацца з аб'ектамі справа ад дарогі.

Справа ўздоўж дарогі яшчэ ў 60-я гады стаялі вельмі старыя трухлявыя бярозы. Іх чамусьці называлі **Кацярынінскімі**. Хаця ніякая Кацярына сюды ніколі не прыязджала. Назва можа толькі абазначаць час пасадкі гэтых бярозаў. Пры Кацярыне мы жылі не доўга - гадоў пяць. Таму бярозы былі пасаджаны недзе паміж 1795 і 1800 гадамі. Зараз іх ужо ніводнай няма.

Бярозамі, але маладзейшымі абсаджана дарога ў колішні двор **Ганусаўшчына**. Пішам смела "двор", бо так называлі яго сейлаўцы.

Кранёмся паходжання назвы. Фіналь - ***шчына*** сведчыць пра тое, што назва ўтворана ад прозвішча ці імя. Часцей за ўсё гэта прозвішча ці імя былога ўладальніка. Згадаем Мікалаеўшчыну, Сямёнкаўшчыну, Любкаўшчыну і іншыя. Хто ж той **Ганус**, пасля якога засталася Ганусаўшчына Пашукаўшы па гістарычных закавулках, нідзе блізка ніякага Гануса не знайходзім, але ў кніжцы "Гарадзея" *(Гарадзея / Укладальнікі А.С. Бруй, Л.П. Качаноўскі, С.П. Самуэль, маст У.М. Жук. - Мн.: БелЭН, 2005. - 192 с.: Іл.)* на старонках 6 і 11 знайходзім, што ў 1551 годзе Гарадзеяй валодаў **П.А. Ганусовіч.** А гэта даволі блізка, і нішто не замінала Ганусовічу мець і яшчэ адзін двор. А **Ганусовічы** - гэта ўжо даволі вядомы род ВКЛ. Так у артыкуле Леаніда Лаўрэша "Прыходы ў Голдаве і Бабрах" сказана "*Адзін з маёнткаў Голдава пры вялікім князі Казіміры Ягайлавічы (памёр у 1492 г.) уваходзіў у склад вялікакняскага Беліцкага павета, які па прывілеях караля трымалі беліцкія баяры Шымка і Барташ* ***Ганусавічы***". *(Лідскі летапісец, № 4 (84), 2018 г. ст. 22.).* У "Перапісе войска Вялікага княства Літоўскага 1528 года" пазначана больш за 20 Ганусовічаў з розных зямель і паветаў.

Такім чынам, можам зрабіць выснову, што тапонім **Ганусаўшчына** паходзіць ад прозвішча **Ганусовіч (Ганусавіч)**. Паходжанне самога прозвішча даследаваць не будзем.

У 2018 годзе Рэспубліканскае ўнітарнага прадпрыемства "Доследная станцыя па цукровых бураках" у Нясвіжы адзначала 90-годдзе, сыходзячы з даты заснавання ў 1928 годзе, што адпавядае сапраўднасці, бо на польскай карце 1935 года ўжо пазначана ў гэтым месцы **"Сельскагаспадарчая доследная станцыя"**.

Да гэтага часу захаваўся офісны будынак той станцыі.





***Ганусаўская Сельскагаспадарчая доследная станцыя***. *Здымак 2020 г.*

Начальнікам на станцыі па словах старажылаў быў пан **Лыганоўскі** (хутчэй за ўсё правільна будзе па-польску **Lyganowski**). Ён жыў у Заазер'і, а ў Ганусаўшчыну прыязджаў на працу.

Пра Лыганоўскага пакуль дазнацца нічога асабліва не ўдалося. Але ў Ганусаўшчыне ішла

сур'ёзная доследная праца, у якой бралі ўдзел вядомыя навукоўцы, у тым ліку Вацлаў Ластоўскі. Абшарнік з Лідскага павета (Вялікае Мажэйкава) Андрэй Раствароўскі ў сваіх успамінах піша наступнае.

*"Вацлаў Ластоўскі паходзіў з Менска, дзе з 1917-18 гг. лічыў сябе беларусам. Пасля бальшавіцкай рэвалюцыі асеў на Віленшчыне. Прафесар, спецыяліст па ўгнаеннях і вырошчванні збожжа і бульбы, публікаваў працы аб феналагічным аспекце пры назіранні за ростам раслін. Ад 1921 г. меў дачыненне да Віленскай станцыі ў Беняконях, потым, да часоў II Сусветнай вайны быў дырэктарам станцыі. Таксама займаўся даследаваннямі ў* ***Сельскагаспадарчай доследчай станцыі ў Ганусаўшчыне.*** *У 1945-1951 гг. працаваў на кафедры агульнай біялогіі раслін універсітэта ў Познані. Сябар Познанскага таварыства аматараў навук. Перад II Сусветнай вайной друкаваўся ў "Сельскагаспадарчым тыгодніку", пасля вайны - у "Сельскагаспадарчым аглядзе". Апошняя публікацыя - у 1951 г. Верагодна, памёр у 1950-х гадах".*

Лідскі краязнавец Леанід Лаўрэш напісаў кароткую біяграфію вучонага Вацлава Ластоўскага.

*"Вацлаў Ластоўскі (1880, у Леляканцах - у 1954 годзе ў Познані) - батанік, фенолаг і спецыяліст ў галіне сельскагаспадарчых навук. Нарадзіўся ў Леляканцах Віленскага павета. Ягоны бацька працаваў лекарам у ваколіцах Вільні. Вацлаў Ластоўскі скончыў Віленскую гімназію і ўжо з гадоў навучання ў ёй цікавіўся флорай і фаўнай Віленшчыны. У шостым класе гімназіі стаў феналагічным карэспандэнтам прафесара Кайгародава з Санкт-Пецярбурга. Гімназію скончыў у 1901 г., у 1905 г. скончыў сельскагаспадарчы факультэт Пулаўскага інстытута і атрымаў званне агранома 1-й ступені. Пасля гэтага працаваў у старэйшага брата ў сяле Казакоўшчына, паглыбляў веды пра сельскую гаспадарку і селекцыю раслін. Займаўся даследаваннямі ў галіне феналогіі і экалогіі, паглыбляў свае веды з аграметэаралогіі. Уступіў у Віленскае сельскагаспадарчае таварыства, дзе плённа працаваў - у 1906-1909 гг. арганізаваў метэастанцыю, праводзіў палявыя эксперыменты, займаўся селекцыяй. У 1910 г. па яго ініцыятыве было створана Віленскае таварыства сельскагаспадарчых даследаванняў, якое адкрыла эксперыментальную станцыю ў Беняконях. Ластоўскі кіраваў станцыяй на працягу 35 гадоў. Сярод іншых прац, вывеў адаптаванае да прыродных умоў Віленшчыны беняконскае жыта, тыбецкі авёс, авёс Лонгінус, бульбу Альмарыя і раннія гатункі лубіну. У 1924 г. ён быў абраны членам Фізіяграфічнай камісіі Польскай акадэміі навук. У 1929 г. ён быў прызначаны на кафедру глебы і раслін універсітэта Стэфана Баторыя. Ён быў першым дэканам факультэта сельскай гаспадаркі ўніверсітэта (1939 г.). Падчас другой нямецкай акупацыі, арганізаваў падпольныя курсы па аграноміі. У 1945 г. ён пакінуў Беняконі і пераехаў у Познань, працаваў на кафедры глебазнаўства факультэта сельскай і лясной гаспадаркі ўніверсітэта горада Познань. Напісаў каля 60 навуковых прац і некалькі сотняў артыкулаў у прафесійных часопісах - Гл: Witold Staniewicz, Waclaw Lastowski, w: Sprawozdania Poznanskiego Towarzystwa Przyjaciol Nauk, nr 44/ 45/1955, s.135-137". ("Ад лідскіх муроў", № 8, г. Ліда, 2015 г., 440 ст.).*

Вялікія артыкулы пра Вацлава Ластоўскага можна знайсці":

*Леанід Лаўрэш. Другі Вацлаў Ластоўскі. Наша слова, № 45 (1248), 11 лістапада 2015 г.*

*Леанід Лаўрэш. Другі Вацлаў Ластоўскі / / Лідскі Летапісец. 2020. № 4 (92). С. 20-21.*

Станцыя адпрацавала да верасня 1939 года, потым, як ужо згадвалася, стала **"Ганусаўскай паляводчай доследнай станцыяй Народнага камісарыята земляробства БССР"**, 615,81 га зямлі, участкі Ганусаўшчына, Заазер'е, Каралін. У 1960 г. на базе калгасаў імя Маякоўскага, Кутузава, Жданава і эксперыментальнай базы пры Гансаўскай доследнай станцыі створана эксперыментальная база "Ганусава" (цэнтр в. Заазер'е), якой прабыла да 1963 года, каб потым стаць нясвіжскім "Рэспубліканскім унітарным прадпрыемства "Доследная станцыя па цукровых бураках" з адрасам: г. Нясвіж, вул. Азёрная, 1.

І зігзаг гісторыі.

Амаль праз 90 гадоў пасля таго як Вацлаў Ластоўскі з Беняконяў праводзіў доследы ў Ганусаўшчыне, у 2017 годзе, Воранаўскі раён, у тым ліку «Эліт-Агра Больцінікі» (ваколіцы тых самых Беняконяў) наведаў ужо дырэктар нясвіжскай "Доследнай станцыі па цукровых бураках" Іосіф Станіслававіч Татур. Ці ведаў ён пра Ластоўскага?

І яшчэ адзін цікавы момант, які тычыцца Ганусаўскай доследнай станцыі. Станцыя акрамя ўсяго іншага вяла і метэаназіранні. 10 лютага 1929 года ў Ганусаўшчыне была зафіксавана тэмпература -43°С. Але сёння гэтая тэмпература не прызнаецца за адзін з кліматычных рэкордаў




***Іосіф Станіслававіч Татур на Воранаўшчыне***

Польшчы, магчыма таму, што Ганусаўшчына - больш не Польшча. Аднак рэкордам Нясвіжскага раёна можа лічыцца па праву.

А цяпер вернемся назад на дарогу, зробім крук каля лесу і ўедзем у цяперашнюю вёску Ганусаўшчыну. Пра паходжанне назвы ўжо гаворана. На польскай карце 1935 г. на гэтым месцы пазначаны **"Fw. Hanusowszczyzna"**, адпаведна пабеларуску **"Фальварак Ганусаўшчына"**. Такім чынам народ меў рацыю, калі называў Ганусаўшчыну словам "двор". І некалькі словаў пра ўладальнікаў двара. Ганусаўшчына размешчана вельмі блізка ад Нясвіжа, каб належаць некаму іншаму акрамя Радзівілаў. І калі яна пабыла ва ўладанні Ганусовічаў, то пасля Ганусовічаў магла перайсці толькі да Радзівілаў. І сапраўды.

У 1764 г. Ганусаўшчына - фальварак Нясвіжскай ардынацыі Радзівілаў. У 1784 г. фальварак Ганусаўшчына і вёска Гануса, 12 гаспадарак, 4 валокі 54 маргоў зямлі. З 1796 г. ў Слуцкім павеце.

У гэты час Ганусаўшчына праславілася. На ганусаўскіх землях жыў нейкі **Ігнацы Цэйзік**, які меў тут маёнтак. Ад 1811 года ён займаўся падробкай расейскіх грошай. Фальшываманетчыка схапілі ў 1814 годзе, але да таго часу ён здолеў пусціць у аварот каля 65 000 рублёў.

З 1829 г. фальварак ва ўладанні Л. П. Вітгенштэйна. У 1852 г. уключаў 3 вёскі (111 дымоў, 681 жыхар), 14 засценкаў. У Ганусаўшчыне знаходзіліся гаспадарскі дом, дом эканамічны, бровар піўны (мураваны, пабудаваны ў 1802), стайня, конны млын, кузня, пральня (пабудавана ў 1835), вінакурня (з 1848), птушнік і іншыя гаспадарчыя будынкі. На тэрыторыі фальварка дзейнічалі 3 карчмы, магазін.

Пацверджанне гэта знайходзім у **"Справе аб пазямельнай спрэчцы казённых маёнткаў Гавязны і Навасёлак з м. Ганусаўшчына Слуцкага пав. кн Вітгенштэйна. 1854-1865"**. *(Дмитрий Дрозд. Землевладельцы Минской губернии, 1861-1900 : справочник; 2-е издание, исправленное и дополненое. Минск. Медисонт, 2012 - 710 ст., ст. 441.)*

Пасля пераходу часткі ўладанняў князя Вітгенштэйна да прускай лініі Радзівілаў Ганусаўшчына зноў стала радзівілаўскай.

У 1876 г. гэта маёнтак, 473 дзесяціны зямлі, уладанне Радзівілаў, працавала піваварня.

У 1897 г. у маёнтку 1 двор, 69 жыхароў, належыць да Гавязнянскай воласці.

Пацверджанне гэтага знаходзім у **"Звестках пра колькасць і якасць зямлі, паступіўшай на выкуп чыншавікоў засц. Пурышкі Талядавіцкай воласці з маёнткаў Дыямполь і Ганусаўшчыны кн. Радзівіла. 2.09-20.12.1902"** і **"Справе пра передачу на імя чыншавікоў паселішча Сейлавічы і Пуршыкі зямлі, набытай у маёнтках Ганусаўшчына і Дыямполь Слуцкага павета у кн. Радзівіла. 25.6.1903-1.3.1905"**. *(Дмитрий Дрозд. Землевладельцы Минской губернии, 1861-1900 : справочник; 2-е издание, исправленное и дополненое. Минск. Медисонт, 2012 - 710 ст., ст. 441.)*

У 1906 годзе фальварак Ганусаўшчына меў 729,19 дзесяцін зямлі I класа, агульны даход з якіх складаў 28454,2 рублёў.

У 1907 г. ў маёнтку А. Радзівіла згодна з інвентаром меліся ветраны млын, жылы дом, піваварня, дом для парабкаў, 2 сады, парнік, сажалка, гаспадарчыя будынкі.

У 1909 г. - 12 жы-хароў.

Ганусаўшчына заставалася ў Радзівілаў і ў міжваеннай Польшчы. У 1921 - 39 гг. знаходзілася ў гміне Гавязна Нясвіжскага павета. У 1921 г. гэта фальварак, 2 двары, 57 жыхароў.

Мая цётка Юзя хадзіла ў двор на работу і брала там білеты на права назбіраць ягад у радзівілаўскім лесе. Па адным білеце ў лес ішла цэлая кампанія.

З 1939 г. Ганусаўшчына - у БССР, з 4.12.1939 г. у Нясвіжскім павеце, з 15.1.1940 г. у Нясвіжскім раёне Баранавіцкай вобласці, з 12.10.1940 г. у Сейлавіцкім сельсавеце таго ж раёна і вобласці, з 8.1.1954 г. ў Мінскай вобласці, з 16.7.1954 г. ў Нясвіжскім сельсавеце.

У 1940 г. былы фальварак, 12 двароў, 139 жыхароў, потым вёска. З 1996 г. вёска ў складзе эксперыментальнай базы "Ганусава". На 1.1.2001 г. 47 двароў, 110 жыхароў, лясніцтва, жывёлагадоўчая ферма, збожжасховішча. *(Паводле кнігі "Памяць. Нясвіжскі раён", Мінск, "Беларуская энцыклапедыя", 2001 г.)*

Цяпер вернемся назад да пачатку лесу і пройдземся па левым баку дарогі. Тут аж да сейлавіцкіх зямель стаіць лес, які называюць **Госцібна** (прынамсі так ён называецца ў Сейлавічах). На польскай карце 1929 года гэты лес мае назву **Hoscimne.** На польскай карце 1935 года назва **Hoscimne** аднесена толькі да ўсходняй часткі лесу, але гэтага вымаўлення тутэйшыя людзі не ведаюць. Ведаюць **Госцібна**.

**Госцібна**

Што такое Госцібна?
Гэта лес такі,
Дзе казулі водзяцца
І жывуць дзікі.

Дзе ліса хаваецца
Ў цень густых кустоў,
Можа дачакаецца
Ток цецярукоў.

Зайчык спрытна кінецца
Ў схованку галін,
Лось, бывае, сунецца
Між цяжкіх ялін.

Скача тут вавёрачка,
Каб сарваць арэх,
Назбіраць ёй хочацца
Тых арэхаў мех.

Вожык тут пратупае
Ціха па лістах,
Мышак ён вышуквае,
Ён для мышак - страх.

Здарыцца - пачуецца,
Як мурлыкне рысь,
Тут не залянуешся,
Прэч хутчэй бяжыш.

А бывала некалі:
Быў з’яўляўся воўк,
Птушачкі не ценькалі,
Лес ад страху моўк...

Ды, канешне ж, Госцібна -
Дрэвы перш за ўсё,
Іх не пералічыш
Тут за ўсё жыццё.

Іх не распазнаеш
З лёту проста так,
Назваў не ўгадаеш
Без навук ніяк.

Слаўны лес наш Госцібна,
Сховань таямніц,
Эх, як моцна хочацца
Ў Госцібне пабыць!

Лес гэты невялікі, цягнецца ўсяго кіламетраў на 15-18 у даўжыню, а ў шырыню каля **Вінклераўшчыны** не больш аднаго кіламетра, у іншых месцах 3-5 км. Агульны масіў лесу ў старыя часы адміністрацыйна быў падзелены на дзве няроўныя часткі. Невялікая частка каля Прасмыкаўшчыны (можа, з 5%), злева ад дарогі на Навасёлкі належала гораду Нясвіжу. Увесь астатні масіў належаў Нясвіжскай ардынацыі, г.зн. Радзівілу. Адпаведна пільнавалі і даглядалі лес радзівілаўскія леснікі.

Пасля прыходу Савецкай улады і ўз'яднання з Усходняй Беларуссю, некаторы час лясы заставаліся безгаспадарнымі. Радзівіла тады арыштавалі, але людзі былі выгадаваны ў духу строгасці, і лясы засталіся цэлымі.

Пра невялікую даваенную гісторыю Нясвіжскага лясгаса (так ён раней зваўся, і яго цэнтральная сядзіба знаходзілася ў Нясвіжы, пераезд і пераназванне адбыліся ў 1960 гадах) звестак вельмі мала. Захавалася рукапісная кніга загадаў па лясгасе за 1939-1941 гады, аж да пачатку Вялікай Айчыннай вайны. Загад № 1 падпісаны кіраўнікам Савета народных Камісараў БССР па арганізацыі лясной гаспадаркі па Баранавіцкай вобласці Сяргеем Марозам. У склад лясгаса тады ўваходзілі 4 лясніцтвы - **Вінклераўскае**, Нясвіжскае, Навінкаўскае і Хомінкаўскае.

Характэрна, што лясгас функцыянаваў і ў перыяд Вялікай Айчыннай вайны. Кіраваў ляснымі справамі ў той час немец, нехта **Бухбіндар**. Лесааднаўленне, па сведчанні відавочцаў, тады не праводзілася. Затое высечкі былі вельмі вялікімі, а лес вывозіўся ў Германію. Пра лёс першага дырэктара лясгаса **Іосіфа Іванавіча Барташа** нічога не вядома. Застаўся толькі яго апошні загад ад 22 чэрвеня 1941 года пра тое, што ён убывае ў камандзіроўку "па мабсправах у раён".

Вінклераўскае лясніцтва спачатку мела сядзібу ў Вінклераўшчыне, потым - у Ганусаўшчыне, а ў 1987 годзе было пераназвана ў Гарадзейскае. А ўвесь гэты лясны масіў фактычна знаходзіцца на тэрыторыі Сейлавіцкага сельсавета. Пасля аб’яднання трох сельсаветаў Госцібна аказалася паміж землямі сейлавіцкага і навасёлкаўскага аграпрадпрыемстваў. Ну каля Ганусаўшчыны гэта, канешне, Нясвіжскі сельсавет.

Трохі праехаўшы ўздоўж лесу і каля чарговага павароту ў бок Ганусаўшчыны, не даязджаючы да вёскі, злева ў лесе знойдзем вялікую дуброву. У самы разгар пабудовы сацыялізму пры Хрушчове з яго кукурузай, калі душыліся ў чэргах па хлеб, каб атрымаць па дзве булкі на рукі, мы ездзілі ў гэтую дуброву збіраць жалуды. Не, жалудоў не елі. Жалуды падсушвалі, малолі і кармілі свінней. Свінні елі вельмі ахвотна. Гэтая завядзёнка збіраць жалуды цягнулася некалькі гадоў. Потым, мусіць, палягчала з мукой ці наступілі неўраджайныя гады на жалуды, і ездзіць перасталі.

Лес каля Ганусаўшчыны вельмі прыгожы вясной. Па ўскрайку цвіце каліна, трапляюцца і іншыя дрэвы, якія прыгожа цвітуць. Тутэйшыя людзі вельмі любяць свой лес і вельмі шкадуюць, калі раптам надараецца парубка. Ну, калі бура паваліць - гэта адно, а калі выразаюць дзялянкі, нібы змагаючыся з караедам, то гэта лічаць злачынствам. На сёння хапае сродкаў, каб таго караеда патруціць. Не, рэжуць. Яшчэ пры даваеннай Польшчы асвоілі методыку пратручвання лесу ад караеда з самалётаў. Так ратавалі Белавежскую пушчу. Але цяпер рэжуць, і ўсё, і хоць кол на галаве чашы. Паскардзішся - апраўдаюцца. І з'яўляюцца свежыя парубкі, адна зусім свежая - каля Ганусаўшчыны, другая ў **Вінклераўшчыне**, але пра Вінклераўшчыну - потым.

За маёй памяццю, недзе ў 1967 годзе, была праведзена пасадка вялікага ўчастку лесу за ўсходнім краем Госцібна. На пасадцы была задзейнічана ўся Сейлавіцкая сярэдняя школа. Чаму ў памяці 1967 год? Таму што пры пасадцы была высаджана бярозкамі лічба **50** у гонар 50-годдзя Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Лічба **50** мусіла быць вялікай, "каб было відно з самалёта". Недзе ў 40-годдзе пасадкі мне давялося праехаць каля гэтага лесу. Добры, прыгожы лясок. Харошыя ўжо сасёнкі былі. Цяпер яшчэ большыя. Пэўна, растуць і мной пасаджаныя. Гадоў праз 25 будзе ўжо таварны лес. Вось жа ўспаміна-ецца тая пасадка лесу як нешта прыемнае і добрае.

Цывілізацыя дрэнна паўплывала на лясы па ўсёй Беларусі. Не стала выключэннем і Госцібна. У старыя і не зусім часы лясы прыбіраліся, чысціліся. Рабілі так званыя падчысткі. **Падчыстка** - гэта такая форма адначасовай прыборкі лесу і нарыхтоўкі дроў. Чалавек замаўляў у лясніцтве ўчастак, з якога ён прыбіраў і забіраў сабе на дровы паваленыя дрэвы, сухастоіны, лам'ё, часам лішні бярэзнік. Дровы чалавек забіраў, галлё паліў, і лес заставаўся чыстым гадоў на 20. Чалавек плаціў нейкі мізер за дровы, яму плацілі за якую-небудзь нарыхтоўку жэрдак і расходзіліся па-нулях.Але, што праўда, работа на падчыстцы была нялёгкая. Гавару амаль як спецыяліст, давялося адпрацаваць падчысткі недзе так з чатыры.

Калі на вёсках з'явіўся газ, масавая патрэба ў дрывах адпала, і лясы пачалі захламляцца. Пад гэтае захламленне нават тэорыю падвялі, што лес павінен расці ў натуральных умовах, як у пушчы. Нібыта, такі лес хочуць купляць за мяжой. Магчыма, нешта паправіцца. Бо пушча - гэта не лес, які захламляецца, а лес які ахоўваецца і даглядаецца.

Неўзабаве за Ганусаўшчынай пачынаюцца ўжо сейлавіцкія землі, славутыя сейлавіцкія валокі. Недзе за кіламетар ад Сейлавіч узлесак Госцібна адварочвае ўлева, а дарога ўправа. У гэтым месцы яшчэ не так даўно, мо гадоў з 40 таму назад быў глыбокі **кар'ер**, з якога бралі пясок. Потым гэты кар'ер зараўнялі, і стала поле. Месца гэтае мае назву **Кар'ер**. Тут у лес ідзе дарога. Недалёка ад краю можна знайсці імшарнік, бо не ўсюды ў Госцібне надзярэш імху, а бывае, што трэба, калі рамантуеш стары будынак. Кудзелі ж цяпер не знойдзеш, ды мох заўсёды клалі больш ахвотна, чым кудзелю. Традыцыйна дарога ішла і па ўскайку лесу. Цяпер яе раз за разам псуюць трактарамі, заворваюць, а потым прабіваюць зноў.

Сейлавічы прымаюць нясвіжскую дарогу ў шырокія абдымкі. Ад скрыжавання на пачатку вёскі дарога разбягаецца адразу ажно ў чатыры бакі: цэнтральная вуліца, два пасёлкі, пад амбар і далей на Вінклераўшчыну, на пасёлак пад могілкі і на канцавы пасёлак, які ганарова называецца вуліцай 17 верасня.

На ўездзе стаіць шыльда **"СЕЙЛАВІЧЫ"**, строга на беларускай мове. Адзін раз нехта ўмудрыўся павесіць на расейскай, то вісела колькі месяцаў, пакуль людзі не папрасілі калгаснае кіраўніцтва



***Уезд у Сейлавічы з нясвіжскага боку. Лета 2001 г.***

паспрыяць яе замене на беларускую. Шыльда павінна абазначаць, што населены пункт, за ёю называецца вёска Сейлавічы. Як вёска, Сейлавічы залічаны і ўва ўсе адміністрацыйныя дакументы, хаця на самай справе Сейлавічы - не зусім вёска і далёка не вёска.

### Тапаніміка сейлавіцкіх зямель

#### *Сейлавічы на тапаграфічных картах*

Перш, чым разглядаць сейлавіцкія мікратапонімы, трэба разгледзець тапонімы, размешчаныя на тапаграфічных картах, агульнапрызнаныя. Разгляд іх патрэбны і на той момант, калі мы збя-ромся перайсці да гісторыі Сейлавіч.

У 2001 годзе эсэ "Крэскі на белай пляме" пачыналася так:

*"На карце 1770 года на паўночны ўсход ад Нясвіжа суцэльная белая пляма. Няма ні адной вёскі, ні адной вартай увагі пабудовы аж да Кунасы.*

*На турыстычнай карце Наваградскага ваяводства 1931 года ў гэты бок не вядзе нават дарога.*

*На карце Нясвіжскага раёна ў кнізе пад назвай "Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Мінская вобласць. Кніга 2" у гэтым месцы пазначана вёска Сейлавічы. Але вакол ізноў белая пляма. Ні аднаго помніка гісторыі, культуры, прыроды, ні адной важнай падзеі тут не адбылося і ні адзін вядомы чалавек не нарадзіўся…".*

Але за 20 гадоў знайшліся іншыя карты.

Першай да разгляду возьмем **"Генеральную карту беларускіх зямель у 16-м стагоддзі"**.

Гэта зборная карта, населеныя пункты нанесены на яе з самых розных крыніц. У выніку мы атрымоўваем даволі шырокую карціну размяшчэння населеных пунктаў і іншых тапонімаў вакол Сейлавіч.

Перш за ўсё - колеры карты. Жоўтым колерам пазначаны магнацкія землі, зялёным - дробнаўласніцкія. Такім чынам усе сейлаўцы - шляхта і сяляне - сядзяць на радзівілаўскіх землях, як і ўсе бліжнія навакольныя вёскі і засценкі.




*Фрагмент Генеральнай карты беларускіх зямель у 16-м стагоддзі*

Паказаны: Г**авязна, Андрушы, Кунаса, Бузуны, Белікі**, яшчэ адна **Кунаса, Затур'е (Затур'я), Юшавічы, Ракавічы, Слаўкава,** ну і **Нясвіж**. Адкуль узялася другая Кунаса паміж Затур'ёй і Бузунамі на беразе Тур'і, сказаць цяжка. З тапонімаў цікавасць выклікае **Кунаская пушча** каля сённяшняй Кунасы. Вялікі Кунаска-Бузуноўскі лес - нашчадак гэтай пушчы. На гэтай карце найбольш правільна паказаны вытокі Тур'і, Ушы і Гавязнянкі. У тым ліку паказаны ручай каля Ганусаўшчыны, як асноўны прыток Ушы, паказаны пачатак Тур'і з раёна Вомшара, а не з-пад Рымашоў, паказана Кунаская рэчка, як асноўны прыток Гавязнянкі, але не сама Гавязнянка. На карце мы не бачым гасцінца Нясвіж-Магільна цераз Сейлавічы, наогул не бачым ніякай дарогі на Сейлавічы.

Генеральная карта беларускіх зямель змеш-чана ў *"Вялікім гістарычным Атласе Беларусі" ў 3-х тамах, том 1, Мінск, "Белкартаграфія" 2009.*




***Фрагмент карты Вялікага Княства Літоўскага, 1770 г.***

Наступная карта - Карта Вялікага Княства Літоўскага 1770 года. На гэтай карце ёсць **Нясвіж, Ліпа, Мір, Свержань, Мікалаеўшчына, Магільна, Пясочнае, 2-я Кунаса, Капыль, Клецк.** На паўночны-ўсход ад Нясвіжа паказаны суцэльны лес. Цікава, што на гэтай карце Уша пачынаецца ад Ганусаўшчыны, прыток ад Качановічаў не паказаны зусім.

Наступная карта "Мапа Літвы і Белай Русі"


MAPA
SZEŚCIU GUBERNJI
Litwy i Białej Rusi.
Opracował
BENEDYKT HERTZ.
Wydawnictwo „Kurjera Litewskiego"
Nakład Edmunda Nowickiego.




***Фрагмент карты XIX стагоддзя***

19-га стагоддзя, год выдання не пададзены. На гэтай карце ёсць ужо **Гародзей**, ёсць тыя ж Свержань, Мікалаеўшчына, Магільна, Пясочнае. З'яўляюцца **Бабоўня і Жыгалкі.**

І дайшла чарга да сур'ёзнай карты - расейскай 3-вёрсткі 1865-1866 гг. *(Ваенна-тапаграфічная карта Расійскай Імперыі. Ф.Ф. Шуберт. Масштаб: 3 вярсты ў 1 дзюйме. Здымка*




***Фрагмент карты 3-вёрсткі, 1865-1866 гг.***

*1846-1863 гг.)*

Карта дае найбольш поўнае ўяўленне пра тапаніміку сейлавіцкага абшару ў сярэдзіне XIX стагоддзя.

Ізноў рушым па дарозе з Нясвіжа на Сейлавічы. Фальваркоўцы маюць тут яшчэ адну назву **Набалоцце**.

Далей па старой дарозе на Сейлавічы пазначаны засценкі **Дольная** і **Бярозбалота**, у якім 3 хаты.

Далей на кварце падаюцца панскі двор Ганусаўшчына (на карце Гандсаўшчызна) і паселішчаа Ганусаўшчына без указання колькасці хат.

Адразу за Ганусаўшчынай цераз лес ідзе дарога на **Амлынцы** (на карце **Амлінцы),** а недзе ад раёна колішняга кар'ера ад асноўнай сейлавіцкай дарогі адгаліноўваецца дарога цераз лес і ідзе ўскрай лесу да сённяшняй Вінклераўшчыны, але мы не знайходзім там гэтага тапоніма. На месцы Вінклераўшчыны мы бачым засценк **Госцібна** (на карце **Гасцібені**) - 1 хата і засценак **Гаценная гара** з адной хатай тут жа паказаны нейкі сігнал, магчыма, тапаграфічны маяк. Дарога ідзе далей на **Андрушы** -33 хаты, а адтуль на **Кунасу**, дзе мы бачым панскі двор **Канішча**, а пад назвай **Кунасы** мы маем вёску - 14 хат і панскі двор. Далей **Суднікі** - 20 хат, збоку **Жыгалкі, Грэцкаўшчына,** дзве **Кучынаўшчыны.** Ад Андрушоў пачынаецца **Кунаская** рэчка. На карце яна так і напісана. Таму назву гэтую на поўным праве можна лічыць гістарычнай і правільнай.

Вернемся на асноўную дарогу. Удалечыні, справа паказана Бажантарня і засценак **Ліпніцкія** (на карце **Липнинский)** - 9 хат. Пазначаны Ліпнічанскія могілкі, якія існуюць і сёння, хоць Ліпніцкіх даўно няма.

Нарэшце самі **Сейлавічы** (на карце надпіс без "й" - "**Селовичи"**) - 119 хат. Паказаны праваслаўныя могілкі і царква. Вёска і засценак Сейлавічы пададзены як адзін населены пункт.

Далей на ўсход справа застаецца **Затур'я** - 53 хаты і засценак **Затур'е** - 6 хат. Паказаны затурэнскія могілкі.

Прама па дарозе **Бузуны** - 15 хат. Справа ад іх панскі двор **Дыямполь.**

За Бузунамі ваколіца **Бучныя** (На карце **Бучное**) - 14 хат.

За Бучнымі засценак **Куль** (другая назва **Самершчына**) і вёска **Белікі** - 10 хат.

Ніжэй Затур'і - засценкі **Пасякі** - 9 хат і **Журавы** - 6 хат.

Далей на ўсход панскі двор **Рымашы** і вёска




***Фрагмент расейскай карты 1914 г.***

**Рымашы** - 35 ці 55 хат.

На захад стаяць вёска **Юшавічы** - 50 хат, вёска **Ракавічы** - 28 хат і засценак **Ракавічы** - 11 хат.

І далей у бок Нясвіжа - **Слаўкава** - 76 хат і фальварак **Кудчына**.

Мы бачым, што на 1865 год Сейлавічы - найбуйнейшы населены пункт на ўсход ад Нясвіжа, і калі яны раптам прападаюць з якой карты, то гэта ўжо недахоп самой карты.

Наступная карта - расейская карта 1914 года. Карта больш буйнога маштабу. Многія тапонімы адсутнічаюць. З новых з'яўляецца толькі **Караліна**.

Наступная карта - польская карта 1935 года. На карце з'яўляюцца ўжо прывычныя тапонімы: **Пагулянка, Вінклераўшчына і Вомшар**.

На гэтай карце добра паказана сетка дарог у раёне Сейлавіч. Найбольшую цікавасць уяўляе **Вялікая дарога**, якая пачынаецца ад Вінклераўшчыны і, прарэзаўшы ўсё Госцібна, выходзіць на Жыгалкі. З гэтай дарогай звязваецца шмат містычных з'яваў, быццам па ёй да гэтага часу ездзіць каралеўскае паляванне князя Радзівіла.

Другая дарога цераз Віклераўшчыну, а потым Кучынаўшчыну вядзе ў гміну (сельсавет па-цяперашняму) **Гавязна**. Гміна была не ў самой Гавязне (цяпер гэта Вішнявец), а трохі збоку.

На гэтай карце Сейлавічы напісаны ўжо з "й" - **Siejlowicze** Асобна пададзены засценак Сейлавічы - 121 хата і вёска Сейлавічы - 114 хат. Карта адлюстроўвае момант рассялення Сейлавічаў на хутары. Хутароў ужо вельмі шмат. **Касцянева** ўжо заселена, а вось **Кулік** пусты, што ў прынцыпе адпавядае рэчаіснасці. Мой дзед Суднік пераехаў на Касцянева ў 1930 годзе, і яго хата, а разам і мая, бо я там нарадзіўся, відна на карце. А вось другі мой дзед Некраш пераехаў у Кулік у 1937 годзе, і адпаведна яго хаты на хутары яшчэ няма. Карта дае і такую інфармацыю: за 70 год ад




*Фрагмент польскай карты 1935 г.*




***Фрагмент савецкай карты 1936-1939 гг.***

1865 г. да 1935 г. Сейлавічы выраслі са 119 хат да 235. Ліпніцкія выраслі з 9 хат да 17. Андрушы выраслі з 33 хат да 88, Кунаса зрабіла скачок з 14 хат да 66. А Суднікі падраслі нязначна з 20 да 33 хат. Зямлі ў Судніках было мала, і хлопцы расходзіліся ў прымы ў больш багатыя засценкі.

І нарэшце апошняя карта - савецкая карта 1936-1939 гг. Гэтая карта ёсць банальная копія польскай карты 1935 года, але накрывае паўднёва ўсходні абшар ад Сейлавіч. Гэтую і папярэднюю карты можна проста сумясціць. Савецкія картографы замянілі ўсе надпісы на карце на кірылічныя, але не будучы моцнымі ў лінгвістыцы пакінулі ўсе польскія канчаткі населеных пунктаў. Так з'явіліся: **Сейловиче, Юшевиче, Раковиче, Андруше** і г.д. Тым не менш і гэтая карта нясе пэўную інфармацыю. Так Канішча з панскага двара стала ваколіцай і налічвала 10 хатаў. Дзіамполь стаў таксама ваколіцай ці хутарным комплексам з 10 хатамі. З'явілася засценак **Цагельня** - 15 хат, Пасякі падраслі з 9 да 14 хат, з'явіліся хутары **Халява, Касякоўшчына** і **Залавы** па 2 хаты, **Сучыха, Новыя Рымашы, Шумоўшчына**, за Бузунамі - **Сушкі**. Уздоўж савецкай мяжы паўстаў шэраг новых фальваркаў: **Пералясанка, Аструезк, Кулеўкін, Навінкі, Тарновая гара, Кабыліна галава**, калектыўнае **Таварыства Затур'я**.

У ходзе 2-й Сусветнай вайны і пасля яе на ўсім гэтым абшары адбудуцца грандыёзныя змены.

Але пра ўсё гэта па магчымасці і пазней, а зараз - бліжэй да Сейлавіч.

*(Працяг у наступным нумары.)*

*Сяргей Чыгрын*

# "Сярэбраны месяц схаваўся за горы..."

Часта дастаю з паліц свайго хатняга архіву тэчку з прозвішчам паэта Сяргея Новіка-Пеюна (1906-1994). У ёй захоўваюцца пісьмы, здымкі, кніжкі, паштоўкі, вершы паэта. Нядаўна яшчэ раз усё перачытаў, пераглядзеў, успомніў гэтага мужнага, цярплівага, таленавітага, цікавага і сціплага чалавека. Лісты Сяргей Міхайлавіч пісаў розныя: і вялікія, і невялікія, але шчырыя і сур'ёзныя. У пісьмах заўсёды мяне называў па-бацьку і на "Вы", а пры сустрэчах - на "Ты", ці проста па імені. На лістах абавязкова ставіў тры пячаткі: адна была з адваротным адрасам, на другой было напісана "Сяргей Міхайлавіч Новік-Пяюн, г. Мінск", а на трэцяй - прозвішча "Сяргей Новік-Пяюн".

Прапаную некалькі лістоў Сяргея Новіка-Пеюна, адрасаваныя мне ў канцы 1980-х гадоў і напачатку 1990-х. А таксама фотаздымкі, некаторыя з іх публікуюцца ўпершыню.

**Лісты Сяргея Новіка-Пеюна**

Мінск, 18 жніўня 1988 г.

Дарагі Сяргей Мікалаевіч!

25 лістапада 1943 года, па даносе правакатара, мяне арыштавалі гестапаўцы і асудзілі на смерць за антыфашысцкую дзейнасць. Са Слонімскага музея, дзе я пррацаваў і жыў, рабаўнікі пазабіралі ўсе мае рэчы і ў тым ліку маю мандаліну.

Чакаючы смерці ў адзіночцы слонімскага астрогу, я стварыў песню "Мандаліначка" і "запісаў" яе ў памяці. Дасылаю Вам.

27 жніўня 1988 года мне ўжо спаўняецца 82 гады.

*Сяргей Новік-Пяюн, паэт,*
*член Саюза пісьменнікаў СССР і БССР,*
*былы дырэктар Слонімскага*
*гістарычна-краязнаўчага музея.*

**Мандаліначка**

Ў Вільні на рыначку
На самай "Маслянай"
Дарма я працы колькі дзён шукаў,-
Адну карціначку
Я фарбай маслянай
На палатне тады намаляваў.
Не меў я грошыкаў.
Сваю карціначку
За грошы пану можнаму прадаў
І сорак злоцікаў,
О, мандаліначка,
У Вільні за цябе тады аддаў.
Ішоў я горкаю,
Ішоў далінаю,
Усцяж па свеце шчасця я шукаў,
І долю горкую
Я з мандалінаю
Ў супольнай песні часта забываў.
Амаль не згінуў я
З смяротнай ранаю,
Што "сябра" ў сэрца ўпотай мне задаў,-
А з мандалінаю,
Маёй каханаю,
Яшчэ сардэчней я пасябраваў.
Ў маю хаціначку,
Нават без словачка,
Ўвайшоў ціхутка хтось, нібы ліса,
І мандаліначку,
Маю сяброўку,
Забраў, - а хто, не ведаю я сам.
Знайду мо згубу я.
Ў маёй хаціначцы
З сяброўкай зноў шчасліва зажывем.
З табою, любая,
О, мандаліначка,
Мы разам волі песню запяем.

* * *

Мінск, 8 верасня 1988 г.

Дарагі Сяргей Мікалаевіч!

З майго асабістага архіву дасылаю вам наступныя 44 матэрыялы, звязаныя са Слонімшчынай.

Гэта толькі частка майго слонімскага архіва. А калі я падрыхтую яшчэ, то паведамлю Вам, дарагі Сяргей Мікалаевіч, каб прыехалі на машыне, бо пасылаць праз пошту нельга, бо шмат.

Успамін Яўгена Леашэні[1] пра Якуба Коласа варта было б надрукаваць ў раённай газеце, бо невядома, ці хто чытаў гэтыя ўспаміны.

Вельмі Вас прашу, калі ласка. Прысылайце мне па некалькі экземпляраў тых нумароў, калі будуць надрукаваныя Вашыя і мае, а таксама цікавыя матэрыялы. Напішыце, ці спадабаліся Вам матэрыялы, якія я Вам дасылаю.

*З сардэчным прывітаннем і пашанай -*
*Сяргей Новік-Пяюн.*

* * *

Мінск, 20 лістапада 1988 г.

Добры дзень, дарагі Сяргей Мікалаевіч!

18 лістапада 1988 года тэлефонная сувязь перарывалася некалькі разоў і пагутарыць з Вамі не ўдалося. Добра, што я пачуў аб тэрміновай патрэбе маіх успамінаў пра мастака Антона Карніцкага[2]. Праз усю ноч я перапісваў гэтыя ўспаміны, раніцай адаслаў іх да Вас з 6 фотакопіямі карцін мастака і газетай "Звязда" з артыкулам Алеся Шлега[3]. Забыўся я напісаць, што раніцай 19 лістапада 1988 года я атрымаў Ваш ліст, за які шчыры дзякуй.

Калі будзеце друкаваць мае ўспаміны, калі ласка, нічога не выкрэслівайце, няхай усё будзе, як я напісаў. Шкада, што ў газетах друкуюць слова расійскае ***"историко-краеведческий"*** *"гісторыка-..."*, лянуюцца глянуць у руска-беларускі слоўнік: *историко - гістарычна-краязнаўчы*.

У Рышчыцах, былой слонімскай вёсцы, а зараз у Слоніме, ёсць мураваны дом аднапавярховы з чырвонай цэглы. А ў суседнім з ім доме жывуць грамадзяне з прозвішчам Залажук, якія былі суседзямі Антона Карніцкага. І яны маглі б расказаць пра яго і паказаць ягоную магілу на Ружанскіх могілках. Калі б Вам удалося б адшукаць каго-небудзь з Залажукоў і даведацца, дзе ягоная магіла, калі ласка, паведамце мне, буду Вам шчыра ўдзячны. Калі надрукуеце матэрыял пра Антона Карніцкага, вельмі прашу прыслаць мне 10 экземпляраў газеты. У рэдакцыі столькі не будзе, дык. Калі ласка, купіце ў кіёску, я грошы Вам прышлю.

Я некалькі разоў тэлефанаваў у рэдакцыю тыднёвіка "Беларускае тэлебачанне і радыё", каб звярталіся да чытачоў па-беларуску: добры дзень. А не па-польску: дзень добры. Па-беларуску спярша стаіць прыметнік, а пасля імя, а па-польску наадварот: спярша - імя, а пасля - прыметнік. А рэдакцыя, хоць абяцала выправіць памылку, працягвае далей яе друкаваць. Яшчэ пішуць: *раніц**ой***, хаця па-беларуску трэба: *раніц**ай***. Ужываюць польскае слова *"мажліва"* замест беларускага слова *"магчыма"*, *"па крайняй меры"*, замест беларускага *"прынамсі"*. Шмат памылак робяць і тыя, што выкладаюць на філфаку, псуюць беларускую мову.

Дарагі Сяргей Мікалаевіч! Бяда з маімі вачыма - з кожным днём горш, асабліва з правым вокам. Давядзецца, мабыць, трапіць у клініку.

Калі рэдакцыя Слонімскай райгазеты пераедзе ў новае памяшканне? Перадавайце, калі ласка, маё прывітанне паважаным Марыі Уладзіміраўне Данюк - адказнаму сакратару і Сяргею Аляксандравічу Прасняку - рэдактару. Матэрыялы да Вас дасылаю ў двух канвертах, каб не былі лісты надта цяжкія.

*З сардэчным прывітаннем,*
*глыбокай пашанай і ўдзячнасцю -*
*Сяргей Новік-Пяюн.*

* * *

Мінск, 29 лістапада 1988 года

Глыбокапаважаны Сяргей Мікалаевіч!

Дасылаю Вам свой фотаздымак. Гэтак я выглядаў у верасні 1939 года, калі Чырвоная Армія 17 верасня вызваліла мяне з Баранавіцкай турмы. Гэткім я сустрэў у Слоніме 14 лістапада 1939 года народнага паэта Беларусі Янку Купалу, з якім наведаў паэта Гальяша Леўчыка[4]. Ад Гальяша Леўчыка мы паехалі ў "Першы беларускі рэстаран", які знаходзіўся тады ў будынку цяперашняга Слонімскага райвыканкама.

У хуткім часе нам падалі абед. Глянуўшы на мой бледны твар, Янка Купала спачувальна сказаў: "Ой, Сяргей, Сяргей, і благі ж ты! Вось што зрабілі з табою паны!.. Фатаграфію сваю маеш?".



***Такі здымак Сяргей Новік-Пяюн падараваў Янку Купалу ў 1939 годзе***

"Маю!" - адказаў я.

"Падпішы мне", - папрасіў Янка Купала.

Сваю фатаграфію, копію якой Вам дасылаю, я падпісаў так: *"Дарагому, любімаму народнаму паэту Беларусі Янку Купалу на шчыры ўспамін. Удзячны Сяргей Новік (Сяргей Пяюн). Слонім. 14.11.1939 г.".*

У маім блакноце Янка Купала напісаў: *"Міламу Сяргею Пяюну падчас сустрэчы ў Слоніме. Янка Купала. 14.11.1939 г.".*

Расказвала мне Марыя Канстанцінаўна Хайноўская[5], што, калі Янка Купала ўвечары 14 лістапада 1939 года вярнуўся са Слоніма ў Мінск, паклаў на стол Вашу фатаграфію і кніжкі і сказаў: "Цікавага хлопца я сустрэў у Слоніме".

Дарэчы, мае ўспаміны пра Янку Купалу былі апублікаваныя ў кнізе "Народны паэт Беларусі" (Мінск, 1962).

*Усяго Вам найлепшага!*
*З сардэчным прывітаннем і пашанай -*
*Сяргей Новік-Пяюн.*

* * *

Мінск, 1 снежня 1988 г.

Дарагі Сяргей Мікалаевіч!

Пасылаю Вам газету з партрэтам Антона Валынчыка і артыкул пра яго.

Тэлефанаваў 28 і 29 лістапада 1988 года, але Вас не было. Сёння, 1 снежня, еду да прафесара, відаць, будуць рабіць аперацыю вачэй.

Прывітанне ўсім.

*З сардэчным паклонам -*
*Сяргей Новік-Пяюн*

* * *

Нядзеля, 15 студзеня 1989 г.

Добры дзень, глыбокапаважаны, дарагі Сяргей Мікалаевіч!

Як я Вам ужо казаў, сёння а гадзін 23.07. маю паехаць у Маскву па накіраванні Міністэрства аховы здароўя БССР і Саюза пісьменнікаў БССР у Інстытут вочных захворванняў, магчыма будзе аперацыя на маім правым воку.

Вашых лістоў я пакуль не атрымаў. Калі будзеце друкаваць нарыс Яраслава Пархуты[7], калі ласка, прышліце мне некалькі асобнікаў газеты.

Не ведаю, як надоўга я затрымаюся ў Маскве, а калі вярнуся - паведамлю Вам.

*З сардэчным прывітаннем,*
*глыбокай пашанай і ўдзячнасцю -*
*Сяргей Новік-Пяюн.*

* * *

Мінск, 1 снежня 1989 г.

Глыбокапаважаны і дарагі Сяргей Мікалаевіч!

Дасылаю Вам вальс "Краска шчасця" і ноты. Гэты вальс я стварыў і "запісаў" у памяці (не было ані алавіка, ані паперы) 25 чэрвеня 1945 года на станцыі Курган у вагоне НКУС на этапе на катаргу на Калыму.

**Краска шчасця**
***Вальс***

*Музыка і верш Сяргея Новіка-Пеюна*

1.

Кажуць: на Купалле
У глухім бары
Краскаю караляў
Папараць гарыць.
Ды дарма шукаюць
Людзі краску-чар,
Сіл знайсці не маюць -
Сцяражэ вядзьмар.
А я шчасця краску
Ў лесе не шукаў,
Бо яе як ласку,
Добры лёс мне даў.
Стаўся з той часіны
Ў міг шчаслівым я
Праз цябе, дзяўчына,
Любая мая!
Любая - мне неба дар!
Любая - душы нектар!
Любая - кахання жар!
Любая - мой скарб!

2.

Не шукайце краску
Папараць дарма,
Яна толькі ў казках,
Сапраўды ж няма!
Добра разглядайцесь
Ля сябе наўкруг,
Ды згадаць старайцесь,
Хто ваш шчыры друг!
Не дае багацця
Папараці чар -
Шчырае ж каханне
Найвялікшы скарб!
Золата, хоць вабіць,

# ПЕСНЯ АБ НЯСВІЖЫ

МУЗЫКА І ВЕРШЫ СЯРГЕЯ НОВІКА-ПЯЮНА

*Майму роднаму гораду прысвячаю.*

паволі

1 шу - мяць на-да мной за-ла-ці-сты- я
1 кле-ны. па - жоўк-лы-я кру-жаць лі-
1 сты над зям - лей у - спомніў я блі-зкі-я
1 сэ-рцу і - мё-ны і дні, што пра-йшлі на ра-
1 дзі-ме ма - ей

ШУМЯЦЬ НАДА МНОЙ ЗАЛАЦІСТЫЯ КЛЁНЫ.
ПАЖОЎКЛЫЯ КРУЖАЦЬ ЛІСТЫ НАД ЗЯМЛЁЙ.
УСПОМНІЎ Я БЛІЗКІЯ СЭРЦУ ІМЁНЫ
І ДНІ, ШТО ПРАЙШЛІ НА РАДЗІМЕ МАЁЙ.

ІДУ Я ПАВОЛІ АЛЕЯЙ ПРЫГОЖАЙ.
У ПАРКУ СТАРЫМ ПАЛЫМНЕЕ ЎСХОД.
НА ВОЗЕРЫ ВЕТРЫК ВАДУ ЛЕДЗЬ ТРЫВОЖА
ПАЦІХУ ШАПОЧА АБ НЕЧЫМ ЧАРОТ.

БЛУКАЎ Я ПА СВЕЦЕ, БО ЛЁС ТАК ПРЫМУСІЎ,
НЯМАЛА ЧУЖЫХ ПЕРАМЕРАЎ ДАРОГ, —
А ЎСЁ Ж ДА ЦЯБЕ, МОЙ НЯСВІЖ, Я ВЯРНУЎСЯ,
ПРЫЙШОЎ НА ТВОЙ ЦІХІ, ГАСЦІННЫ ПАРОГ.

ЗНІКАЮЦЬ СЛЯДЫ РАН, ЗАДАНЫХ ВАЙНОЮ,
НА ПУСТКАХ ТВАІХ ВЫРАСТАЮЦЬ САДЫ.
О, РОДНЫ НЯСВІЖ, ГАНАРУСЯ ТАБОЮ,
МОЙ ГОРАД СТАРЫ І ТАКІ МАЛАДЫ!

ШУМЯЦЬ НАДА МНОЙ ЗАЛАЦІСТЫЯ КЛЁНЫ.
ШНУРОМ ЖУРАЎЛІ ПАДНЯЛІСЯ ЎЗВЫШ.
МНЕ ХОЧАЦЦА СЛАВІЦЬ РАДЗІМУ НАТХНЁНА
І ПЕСНЮ СПЯВАЦЬ АБ ТАБЕ, МОЙ НЯСВІЖ!

г. Нясвіж, 1-X-1959 г. Сяргей Новік-Пяюн

К шчасцю не вядзе,
Верны ж друг не здрадзіць,
Нават, у бядзе.
Любая - мне неба дар!
Любая - душы нябктар!
Любая - кахання жар!
Любая - мой скарб!

* * *

Мінск, 5 снежня 1989 г.

Глыбокапаважаны і дарагі Сяргей Мікалаевіч!

Дасылаю Вам на шчыры ўспамін мае "Зорачкі" і ноты. Яны былі напісаны ў горадзе Свеце над Віслай у Польшчы ў 1929 годзе падчас польскай ссылкі.

***Сяргей Новік-Пяюн***

**Зорачкі**

Дні прыходзяць, дні адходзяць, дні лятуць,
Быццам рэк бурлівых хвалі ўдаль плывуць.
Трэці год як на выгнанні ў чужыне
Трэба мучыцца душой і сэрцам мне.
Навакол нідзе не ўгледзіш родных хат,
Не працягне рук зычліва родны брат,
Не падзеліш нават думак з нікім тут,
Не прыгорне ў адзіноцтве родны кут.
Ўночы зорачкі прыветліва мігцяць,
Быццам з неба на мяне яны глядзяць…
Што чуваць, скажыце, зорачкі, вы мне
Ў маёй роднай - ды далёкай - старане?
Ці татулька мой і матанька ўжо спяць?
Ці таксама на іх зорачкі глядзяць?..
Мо й яны пытаюць зорак аба мне,
Што раблю цяпер ў далёкай чужыне? -
Калі толькі яны, родныя, не спяць,
Калі йшчэ цяпер на зорачкі глядзяць,
Занясеце ім, пакуль не блісну́ў свет,
Зоркі мілыя, сыноўскі мой прывет!
І скажэце, каб не плакаў ні адзін,
Што ў выгнанні мусіць мучыцца іх сын!
Прыйдзе, прыйдзе да нас хутка ясны май,
Прыляту тады, як птушка, ў родны край.
З новай верай, з новай сілай зажывём,
Беларускі гімн свой родны запяём,
Беларускай песні роднае пад тон
Заарэм мы і засеем свой загон.
Ўночы будзем мы на зоркі паглядаць
Што, як сёння, будуць ў небе зіхатаць… -
Занясеце ж вы, пакуль не блісну́ў свет,
Зоркі мілыя, бацькам маім прывет!

**ЗОРАЧКІ**

МУЗЫКА І ВЕРШЫ СЯРГЕЯ НОВІКА-ПЯЮНА

Дні прыходзяць, дні адходзяць, дні ляцяць,
Быццам рэк бурлівых хвалі ўдаль бягуць.
Трэці год, як на выгнанні ў чужыне
Трэба мучыцца душой і сэрцам мне.

Навакол нідзе не ўгледзіш родных хат,
Не працягне рук зычліва родны брат,
Не падзеліш нават думак з нікім тут,
Не прыгорне ў адзіноцтве родны кут.

Ўночы зорачкі прыветліва мігцяць,
Быццам з неба на мяне яны глядзяць...
Што чуваць, скажэце, зорачкі, вы мне
У маёй роднай — ды далёкай старане?

Ці татулька мой і матанька ўжо спяць?
Ці таксама на іх зорачкі глядзяць?
Мо й яны пытаюцца зорак аба мне,
Што раблю цяпер ў далёкай чужыне? —

Калі толькі яны, родныя, не спяць,
Калі йшчэ цяпер на зорачкі глядзяць,
Занясеце ім, пакуль не бліснуў свет,
Зоркі мілыя, сыноўскі мой прывет!

І скажэце, каб не плакаў ні адзін,
Што ў выгнанні мусіць мучыцца іх сын!
Прыдзе, прыдзе да нас хутка ясны май,
Прыляту тады, як птушка, ў родны край.

Ўночы будзем мы на зоркі паглядаць,
Што, як сёння, ў небе будуць зіхатаць... —
Занясеце ж вы, пакуль не бліснуў свет,
Зоркі мілыя, бацькам маім прывет!

* * *

Мінск, 27 лістапада 1991 г.

Добры дзень, Сяргей Мікалаевіч!

Ад 1989 года дагэтуль я з'яўляюся сталым наведвальнікам лякарняў. Лечаць мне вочы, якія мне сапсавалі гестапаўцы падчас вайны. Вось і сёння я толькі што вярнуўся з лякарні, адкуль мяне адпусцілі на некалькі тыдняў. У лякарню мне прынеслі Ваш ліст, у якім Вы пішаце, што да майго 85-годдзя напішаце нарыс. Дзякуй! Калі ласка, прышліце мне тры экземпляры "Слонімскага весніка" з вашым нарысам пра мяне.

Да 85-годдзя пра мяне надрукалі матэрыялы "ЛіМ", "Чырвоная змена", "Наша слова", "Народная газета", "Пінскі веснік", "Чырвоны сцяг" (Нясвіж). Не ведаю, ці прачытаеце Вы мой ліст, бо пішу наўздагон.

*З прывітаннем -*
*Сяргей Новік-Пяюн.*



***Сяргей Новік-Пяюн у апошнія гады жыцця***

[1] Яўген Леашэня (1900-1981) - генерал-лейтэнант інжынерных войск, краязнавец.

[2] Антон Карніцкі (1912-1944) - слонімскі мастак.

[3] Алесь Шлег (1936-1998) - беларускі пісьменнік, журналіст, публіцыст.

[4] Гальяш Леўчык (1880-1944) - беларускі паэт, калекцыянер, мастак, перакладчык.

[5] Марыя Хайноўская (1903-?) - загадчыца бібліятэкі Саюза пісьменнікаў БССР.

[6] Антон Валынчык (1896-1985) - беларускі кампазітар, харавы дырыжор, педагог, заслужаны работнік культуры Беларусі.

[7] Яраслаў Пархута (1930-1996) - беларускі пісьменнік.

*Уладзіслаў Станіслаў Рэймант*

# 1794 год

## Апошні сойм Рэчы Паспалітай*

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

### III

У пярэднім пакоі падняўся радасны віск, гаўканне сабачак, і дзве белыя дзявоцкія рукі выцягнуліся для прывітання.

- Пан Север! Нарэшце! Ну, ну! - усклікала мілавідная бландынка.

- Слуга пакорны панны палкоўнікаўны[1],- адказаў ён тым жа тонам, імкнучыся трымаць сябе нязмушана, як галантны кавалер. - А панна Тарэня заўсёды такая ранняя?

Але панна Тарэня схапіла сабачак на рукі, адступіла трохі назад і, змераўшы яго яскравым поглядам, прынялася з нібыта строгай мінай дакараць.

- І гэта субардынацыя? Сёння толькі першы раз з’явіцца? Праз дзяншчыкоў пана клікаць трэба? Прыемней пану Бог ведае з кім вадзіцца, чым быць у нас? Ужо пану за гэта Іза заплаціць добрыя ленунгі[2]!

Зарэмба ўсміхнуўся так журботна, што паненка раптам занепакоілася.

- А можа пан хворы? - спытала ціхенька.- Сапраўды, пан такі худы і бледны! Што з вамі? - прыўстала яна на дыбачкі, зазіраючы яму ў вочы.

- Дзякуй, я здаровы. Ці дома пані шамбялянша? - прамовіў ён холадна, насілу хаваючы сваё нецярпенне.

Панна Тарэня, зачэпленая яго тонам, глянула напышліва.

- Прысядзьце, калі ласка. Пані шамбялянша зараз прыйдзе.

Яна паказала яму цырымонным жэстам на крэсла і, прыціскаючы да грудзей бурчаўшых сабачак, адышла, нахмурыўшыся, да акна. Але з гэтым хмурным выразам на ружовым тварыку, з апетытнымі ямкамі і прыхаванымі какетлівымі ўсмешкамі яна выглядала яшчэ прыгажэй.

Галоўка ў залатых кудзерках, перавітых блакітнай стужачкай, вялікія блакітныя вочы, апушаныя залацістымі вейкамі, задзірысты носік з ружовымі ноздрачкамі, зіготкія зубкі, малінавыя губкі, точаная белая шыйка, карункавая хустка на плячах, зашпіленая пад грудзямі каралавай брошкай, кароткая светлая сукенка ў блакітную палоску, белыя панчошкі з гафтаванымі клінкамі і белыя туфлікі, размаляваныя стакроткамі, рабілі яе падобнай на статуэтку з саксонскага парцаляну. Але пры гэтым яна была рухавая, як вавёрка, ветрагон і вядомая рагатуха і нават цяпер, нягледзячы на нібыта крыўду, рабілала такія міны, што Зарэмба мусіў загаварыць:

- За што ж такая жорсткая няласка, мосця панна?

Пырснула смехам і, падбегшы да яго, запальчыва забалбатала:

- Бо вашмосць не дбае ні пра мяне, ні пра Ізу, ні пра палкоўніка, ні пра што на свеце.

- Як раз я толькі што хацеў спытаць, якія навіны ў Казеніцах.

- Якія навіны? У мяне там нарачоны! - выпаліла яна адразу, бурна цалуючы сабачак.

- А якой масці? - дурачыўся Север. - Памятаю, як панна Тарэня шалела за воранымі, потым іх змянілі гнядыя, цяпер, можа быць, прыйшла чарга пярэстых...

- Што мне коні! Я хачу свайго Марціна.

- Кулю мне ў лоб, калі я ведаю скакуна такой масці.

- Вашмосць нават сяброў забывае.

- Сяброў! Няўжо Марцін Закржэўскі? Вось як! Ну, тады вы адной масці пара, - стракатыя з чубком, - смяяўся ён, хоць яму не вельмі спадабалася гэтая навіна. - Значыць, калі вы, панна Тарэня, пераходзіце ў гвардыю, дык камандаванне над кёнігаўскімі ўланамі пераходзіць, дакладна, у рукі панны Кларці! Уяўляю, які лямант стаіць сярод паручнікаў! А дзе цяпер знаходзіцца Марцін?

* Пераклад Станіслава Судніка паводле Wladyslaw St. Reymont. Rok 1794. Ostatni sejm Rzeczypospolitej. Wydawnictwo Literackie. Krakow, 1953 г.

[1] Панна палкоўнікаўна - дачка палкоўніка Кёніга, камандзіра палка каралеўскіх уланаў, які стаяў у Казеніцах.

[2] Ленунг (з ням.) - плата.

- Сёння ён дзяжурыць у замку пры яго вялікасці каралі.

Гэта вестка вельмі ўзрадавала Зарэмбу, і ён дадаў у злёгку жартаўлівым тоне:

- Віншую вас, панна Тарэня, з павышэннем.

Ён устаў, каб выглянуць у сад.

- Вашмосць нада мной смеецца.

Яна заступіла яму дарогу.

- Насупраць, я вельмі рады, - адказаў ён хутка і, каб загладзіць свае паводзіны, пацалаваў ёй руку. - Толькі не забудзьцеся запрасіць мяне на вяселле.

- Чакай кабета лета, калі кабылку ваўкі з'ядуць! - выпаліла яна з засмучэннем. - Егамосць падкаморы напісаў Марціну, што мы можам яшчэ пачакаць.

- Бо і можаце - такія жаўтаротыя. Трэба яшчэ да вас нянечку прыставіць.

- А мне б хацелася хутчэй пераехаць у Варшаву, - прызналася яна адкрыта, усаджваючы сабачак на клавіцымбале[1]. - Наелася тых Казеніц па вушы, з іхнімі выранжыраванымі[2] палкавымі клячамі, з якімі я вымушана гуляць у "мар'яж". Уявіце сабе, за апошнюю зіму я не разу не танчыла! А, вы мосці сабачкі, з аганьком, з аганьком! - рагатала яна, стукаючы сабачымі лапкамі па клавіятуры. - Толькі на Вялікдзень, калі з Радама праходзілі гусары, наша мамзель, у якой сярод іх прыгожанькі кузінчык, угаварыла тату даць у іх гонар баль, але ледзь была справа не скончылася няўдачай, таму што бургграф не хацеў даць залу ў палацы...

- І добра зрабіў, - заявіў рашучым тонам Север, адчыняючы акно.

З саду бухнула цяпло, прасякнутае водарам кветак і радасным чырыканнем птушак.

- А мамзель усё-такі паставіла на сваім. Пан Стакоўскі заняў фабрыку, загадаў упрыгожыць яе ельнікам, а тата даў капэлу, і мы танчылі да раніцы.

- З гусарамі? Годныя кавалеры!

- Былі і ўсе нашы. Тата аддаў загад, і ўсе павінны былі з'явіцца. Увесь вечар прайшоў выдатна. Толькі адзін пан Сяклюцкі ўчыніў гусарам скандал, за што і адседзеў на гаўтпвахце. І добра яму, няхай не псуе іншым забаву. Бібі! Мімі! - кінулася яна са смехам за сабачкамі, якія вырваліся ў яе з рук і з віскам пахаваліся пад канапу.

Выцягнула іх адтуль толькі пры дапамозе Севера.

- Мімі - страшная ветрагонка, а Бібі - жудасны разбойнік! - дакарала яна ўскалмачаных сабачак, пакрываючы іх палымянымі пацалункамі. - Цяпер васпан не пазнаў бы Казеніц! Зброі там ужо больш не робяць, фабрыкі зачынены, а фабрыкантаў разагналі на ўсе чатыры вятры. Нават кафенхаўс[3] Дороткі больш не існуе. Няма больш баляў, маёвак, танцавальных вечароў, таму што моладзь не паказваецца ў нашым доме, хоць бы толькі для ўпрыгожвання!

- Пэўна, занадта часта падавалі ім чорную поліўку.

- Далібог, ніводны яшчэ не адрэкамендаваўся! - запэўнівала яна з жарам. - Справа не ў гэтым, а ўладкавалі яны сабе клуб і там праседжваюць дні і ночы, аганізуюць нейкія таемныя зборы, нейкія прысягі, так што аж звярнулі ўвагу таты, і ён мусіў узяць егамосцяў на мундштук[4].

- Хто гэта? - перарваў яе Зарэмба, паказваючы на сад на нейкага пана ў белым кіцелі і з лысай галавой, які, абапіраючыся на кіёк і што хвілю робячы перадышку, шпацыраваў па цяністай алеі, перасечанай сонечнымі палосамі. Хлопец у ліўрэі, з чырвоным пледам у руках, ішоў за ім крок у крок.

- Гэта шамбялян Рудзкі. Васпан не ведае мужа Ізы?

- Перагрынуе[5], як бы для канкокцыі[6] страўніка.

Север з цікаўнасцю прыгледзеўся.

- Доктар Лафантэн гаворыць, што шамбялян пакутуе на недаверлівасць. А мне так не здаецца, бо ў яго ногі падкошваюцца, як быццам ён страціў капыты. Я раіла Ізе, каб яна загадала яго перакаваць, - бухнула смехам панна Тарэня.

- Нічога не дапаможа. Відаць, у яго капыты здзёртыя да самага мяса, - засмяяўся і Север, але з нейкай горкай злараднасцю. - Даволі пажылы егамосць!..

- Служыў яшчэ ў "Белых раках"[7]. Тата распавядаў, - рагатала яна ўжо, як шалёная.

- Каштоўны сувенір эпохі Сасаў і чалавечак даволі арыгінальны.

- Але я яго люблю. Дабрак, і так да ўсяго паблажлівы. Убачыце самі.

[1] Клавіцымбал (з італ.) - даўнйшы музычны інструмент, падобны на фартэпіяна.

[2] Выранжыраваны (з франц.) - выбракаваны.

[3] Кафенхаўс (з ням.) - кавярня.

[4] На мундштук, тут - у цуглі.

[5] Перагрынаваць (з лац.) - вандраваць.

[6] Канкокцыя (з лац.) - страваванне.

[7] "Белыя ракі" - так называлі пешы полк пад шэфствам Аўгуста III (1735 - 1763), апрануты ў чырвоныя курткі з белымі абшлагамі.

- Я ўпэўнены, што ён падсыпае любоўнае зелле, раз панны да яго так туляцца.

Панна Тарэня, зразумеўшы яго намёк, шапнула сур'ёзным тонам:

- Яе прымусілі! Яна жудасна няшчасная.

Север меў на вуснах нейкія горкія словы, але, паглядзеўшы на яе пасмутнелы тварык, стрымаўся і толькі ўздыхнуў.

- Іза васпана вельмі шкадуе. Я ўсё ведаю, - шаптала Тарэня таямніча.

Сэрца Севера раптам балючаа зашчымела; ён ускочыў і, шукаючы свой капялюш, загаварыў няскладна:

- Мне трэба ісці... Скажыце, што я чакаў... Прыйду заўтра...

Тарэня спынілася ў спалоху, не разумеючы, што з ім здарылася. Але ў тую ж хвіліну ўвайшла ў салон Іза.

Яны прывіталіся моўчкі, упіваючыся адно ў аднаго дапытлівым поглядам.

Панна Тарэня як быццам занялася складаннем раскіданых нот, косячыся пры гэтым па баках і з трапятаннем чакаючы якіх-небудзь гарачых слоў ці жэстаў, але, не вытрымаўшы маўчання, крыкнула сама:

- Вы што, у маўчанку гуляеце? - І зарагатала.

Шамбялянша кінула на яе ўдзячны погляд і нязмушана, з чароўнай усмешкай загаварыла пра малаважныя матэрыі, не заікаючыся ні словам пра баль. У гэты дзень яна была нават прыгажэйшая, чым тады, прыгажэй, чым можа намаляваць фантазія. Ледзь прыкметныя аблачыны чырвані прабягалі часам па яе твары, часам у арэхавых вачах успыхвалі залатыя іскрынкі, і налітыя крывёй губы дыхалі чароўным абаяннем. Яна выдатна валодала сабой, нічым не выдаючы таго, як шмат ёй каштуе гэты няшчыры спакой. Хвілінамі толькі вочы яе затуманьваліся мімалётным ценем і ледзь-ледзь цьмянела ўсмешка. Час ад часу яна несвядома ўставала і падыходзіла да клавесіна, каб узяць некалькі акордаў, ці падыходзіла да акна, але, згледзеўшы ў садзе мужа, вярталася да ранейшай гутаркі.

Зарэмба быў ўвесь час напагатове, нібы ў начным дазоры, і ўважліва сачыў за кожным яе словам і за кожным рухам, з абавязковай ветлівасцю адказваючы на пытанні; часам нават, каб злавіць яе ўсмешку, адпускаў якую-небудзь дасціпнасць і спрабаваў узрушыць яе аповядамі пра ваенныя прыгоды. І дасягаў мэты, упіваючыся нямым трыўмфам. Аднак ні наймалейшы павеў мінулага не замуціў гэтай няшчырай гармоніі, ніводны намёк не сарваўся з палымяных вуснаў. Хоць у душы яго палала пекла, ён заставаўся перад ёй такім, якім вырашыў быць перад ёю: стрыманым і ў меру халодным.

Таму размаўлялі, як людзі з выгляду чужыя і амаль абыякавыя. Аднак мучыла іх гэтая пустая гульня, і ўсё часцей прыходзілі доўгія паўзы раптоўнае маўчанне, падчас якіх вочы яе стралялі маланкамі, вусны дрыжалі чымсьці недамоўленым, а з грудзей вырываліся кароткія, перарывістыя ўздыхі. Север жа ў гэтыя моманты не стрымліваў больш сваіх парываў і, нібы падаючы перад ёй на калені, уяўна абдымаў яе ашалелымі ад нуды рукамі.

Але які-небудзь гук - віск сабачкі ці голас з саду - рассейваў гарачы кашмар, рэчаіснасць з насмешкай глядзела ім у вочы, і зноў цягнулася карэктная гутарка, і французскія словы гучалі складана, вымушана і галантна, пакуль, нарэшце, панна Тарэня, якой канчаткова гэта надакучыла, не выпаліла проста з мосту:

- Сядзяць і дэкламуюць, нібы ў тэатры, - пачала яна вырабляць найсмяшнейшыя міны. - "Oui, madame!", "Non, monsieur!" - пачала яна іх перадражніваць. - Тут усмешачка, там какетлівы пагляд, потым мах-мах веерам, потым губкі банцікам і чулы пагляд... Выдатна іграеце, толькі я вам пляскаць не буду, таму што мне ваша камедыя ўжо надакучыла, горш нельга. Бібі! Мімі! Гайда, паганяем коцікаў па садзе! Ха-ха-ха! - залілася яна смехам, заўважыўшы іх збянтэжанасць.

Шамбялянша гнеўна нахмурыла бровы, Север жа ўстаў, адчуўшы сябе ніякавата.

- Пастой, Тарэня. Сапраўдная enfant terrible[1]!

- Мне пара... Мяне чакаюць... Можа быць, да таго ж я табе замінаю?

- Яшчэ хвілінку, прашу цябе. Да мяне павінна заехаць графіня Камелі. Мы паедзем на абед да амбасадара, які ён дае для дам і біскупаў у гонар імянін Марыі Фёдараўны, жонкі спадчынніка трона. Пацешныя прыходзяць яму ў галаву ідэі!

- Вось як раз заварочвае на мост экіпаж ксендза біскупа Масальскага[2]! - крыкнула Тарэня, высоўваючыся з акна на вуліцу. - Увесь напханы кветкамі.

- Вязе іх Сіверсу. Дзіўная паэтычная і сентыментальная натура, любіць спевы і кветкі, а асаблівую слабасць мае да руж. Вось усе і імкнуцца дагаджаць гэтай слабасці, - у каго толькі ёсць які-

[1] Enfant terrible (франц. даслоўна: страшная дзіця) - чалавек, які бянтэжыць прысутных сваімі паводзінамі.

[2] Масальскі Ігнацы (1729 - 1794) - віленскі біскуп, старшыня Камісіі нацыянальнай адукацыі, адхілены ад гэтай пасады за злоўжыванні, таргавічанін, платны прыхільнік царскага ўраду, як здраднік народа загінуў на шыбеніцы ў Варшаве 28 чэрвеня 1794 года

небудзь новы гатунак, спяшаецца паслаць яму. Княгіня Радзівіл падарыла яму пышную калекцыю. Міла, ці не праўда?

- І заслугоўвае захаплення! - прагаварыў Север, не ў сілах схаваць іранічную ўсмешку.

- Сам кароль выпісвае для яго гваздзікі непасрэдна з Галандыі. Нават мой бацька, - як ты ведаеш, не занадта схільны да выдаткаў, - даслаў яму з Гуры нейкія рэдкія асобнікі.

- Калі прыязджае дзядзька?

- Абяцаў на гэтых днях. Усё ўжо прыгатавана да яго прыезду. Мяне вельмі хвалюе твой лёс, - дадала яна сяброўскім тонам.

- Я выконваю яго жаданне і жадаю выправіць зробленыя дурасці, - прызнаўся ён з уяўнай адкрытасцю і распавёў ёй пра свае намеры вярнуцца на службу.

- А калі не атрымаецца, дык бацька прыдумае табе якую-небудзь ганаровую пасаду, - запэўнівала яна яго, горача прымаючы да сэрца яго лёс.

- А дзе цяпер знаходзіцца пані касталянша? Як яе здароўе?

- Нядобра, - як заўсёды, у плентах[1] па сваім уяўным ідале! Дактары мяркуюць, што гэта звычайная меланхолія. Прыязджае разам з бацькам.

- Зважай! Імчыцца сюды княжы postillon d'amour[2]! - крыкнула панна Тарэня.

Сапраўды дзверы адчыніліся, і ліўрэйны лакей унёс на срэбным падносе цудоўны букет, ліст і скрыначку, усеяную дарагім каменнем.

Шамбялянша ўскочыла гнеўна, уся счырванеўшы.

- Аддай назад таму, хто прынёс! Вон! - крыкнула яна, не разважаючы, і павярнулася да Севера, які тактоўна адышоў да акна.

Тарэня кінулася да яе, горача просячы яе пра нешта. Яна незадаволена адхіліла яе і так строга паглядзела на лакея, што той паспяшаўся выйсці.

- У мяне да цябе просьба, - голас яе загучаў вельмі сардэчна.

Север быў так радасна настроены, што наперад абяцаў ёй усё, што яна папросіць. Просьба складалася ў тым, каб ён паехаў з імі заўтра на пікнік, за горад.

- З задавальненнем. А хто яго аранжуе[3]? Я тут амаль нікога не ведаю.

- Моладзь, а галоўным чынам фон Блюм, Тарэнін паклоннік.

- Іза!.. Пан Север яшчэ падумае, што гэта праўда.

- І распавяду Марціну, - падражніў ён яе, - няхай не спускае з вас вока.

- Марціна з намі не будзе. Ён павінен ехаць з каралём у Панямунь[4].

- Тым горш для цябе, Тарэня, бо я замяшчу яго ў якасці назіральніка.

- А я пана ні кропелькі не баюся,- засмяялася Тарэня, пагнаўшыся па салоне за сабачкамі. - Марцін паверыць толькі мне.

Лакей даклаў пра прыезд гетманшы Ажароўскай з графіняй Камелі.

- Я ўцякла! Мяне няма! Трываць не магу слухаць гэтую італьянскую стракатню! Гайда, сабачкі! - крыкнула Тарэня і ўцякла.

Север таксама хацеў ісці, але шамбялянша ўтрымала яго.

- Застанься на хвілю, пазнаёмішся з дзвюма вельмі прыгожымі дамамі.

Перш, чым ён паспеў што-небудзь вырашыць, увайшлі пані, і ўжо ад парога графіня Камелі гучна загаварыла, задыхана:

- Я прывожу табе, шамбялянша, цудоўныя навіны! - Вочы ў яе гарэлі, твар расчырванеўся і голас дрыжаў ад хвалявання.- Марат[5] забіты! Майнц здаўся прускаму каралю[6]! - прамовіла яна з пафасам і, зрабіўшы хвілінную паўзу, дадала: - Рэвалюцыя атрымала смяротны ўдар!

Шамбялянша зрабіла выгляд, быццам не надае шмат значэння гэтай вестцы.

- Мая дарагая графіня, - супакоіла яе Ажароўская. - Не ўсе прымаюць так блізка да сэрца гэтую вестку.

- Але ж... гэта мусіць быць важна... Я сапраўды мала ў гэтым разумею. Мой стрыечны брат, Север Зарэмба, - прадставіла Іза Севера, трохі разгубіўшыся.

- Але пана гэта мусіць цікавіць! - звярнулася да яго графіня.

Зарэмба паклонам пацвердзіў яе словы і слухаў з вялікай цікавасцю. Яна ж, задаволеная,

[1] Пленты (з франц.) - скаргі, нараканні, ляманты.

[2] Postillon d'amour (франц.) - пасланнік кахання.

[3] Аранжаваць (з франц.) - арганізоўваць.

[4] Панямунь - мястэчка над Неманцом.

[5] Марат Жан Поль (1743 - 1793) - правадыр якабінцаў, знакаміты дзеяч французскай рэвалюцыі, вучоны і публіцыст, загінуў забіты Шарлотай Кардэ 13 ліпеня 1793 г.

[6] Майнц здаўся прускаму каралю... - 4 жніўня 1793 года цвердзь Майнц (над Рэйнам) здалася прусакам. Лета 1793 года было цяжкім перыядам для рэвалюцыйнай Францыі, яе арміі адступалі на ўсіх франтах, у краі ішла контррэвалюцыя.

што знайшла слухача, распавядала ўсё з большым жарам, не шкадуючы жэстаў, мімікі і палымяных поглядаў.

Шамбялянша з паняй Ажароўскай адышлі трохі ў бок і заняліся дэманстрацыяй сваіх убораў і нейкімі сакрэтамі.

- Граф Марэлі, мой кузен, каралеўскі шамбялян, атрымаў раніцай экстранную пошту, - растлумачыла з самага пачатку графіня. - У нас такім чынам весткі з найдакладнейшай крыніцы. Я была ўжо ў касцёле, каб падзякаваць Богу за гэтыя радасныя хвіліны. І ўсё ж, хоць весткі цалкам пэўныя, насілу магла паверыць, што сапраўды гэты подлы забойца каралёў, гэты непрыяцель Бога і чалавечага роду, гэты ўвасоблены д'ябал - памёр. Яго забіла нейкая Шарлота Кардэ! Бог, пэўна, сам абраў яе прыладай свайго правасуддзя. Я павінна напісаць у Парыж, каб мне даслалі каперштых[2] гэтай новай Арлеанскай Панны! - усклікала яна з пафасам, узносячы вочы ўгару. - Адначасова з Майнца выгнаны французскія мяцежнікі. Прускі кароль трыумфуе. Як жа павінны цешыцца цяпер тыя бедныя выгнаныя прынцы! Нарэшце добрая справа бярэ верх. Ужо падобна прускія дубінкі выбіваюць з галоў майнцскіх заўсёднікаў клубаў іх якабінскія ідэі. Не разумею толькі, чаму рэвалюцыйныя войскі выпушчаны з горада? Трэба было наладзіць ім рэспубліканскае хрышчэнне ў Рэйне! - зласліва зарагатала яна, і чорныя вочы яе зазіхацелі, нібы стылеты. - Гэты шчаслівы пачатак астудзіць запал і вашых эксулянтаў[3] у Дрэздане[4] і клубных заўсёднікаў у Варшаве.

- Але пані графіня мае бязмерную эксперыенцыю[5]! - выклікнуў Север з прытворнай атэнцыяй[6].

- Я паўтараю тое, чаму мяне навучыў мой кузен,- адказала яна сціпла, пераходзячы да дробязяў гарадзенскага жыцця і ўзносячы вышэй усякай меры польскую гасціннасць, адукаванасць, прыгажосць жанчын і галантнасць мужчын. Скарыстаўшыся выпадкам, аддала даніну вялікадушнасці караля, яго незвычайнаму розуму і шляхетнасці.

Север ні ў чым не пярэчыў ёй і толькі часам, пры аказіі, даваў зразумець, што ён глыбока паважае кансерватыўныя ідэі і варожы ўсякаму наватарству.

Графіня з нарастаўшым задавальненнем распытвала яго, узнагароджваючы пры гэтым млявымі поглядамі, бо кавалер здаўся ёй вельмі вытанчаным і прыгожым. Цёмны бландын, з шавялюрай, падстрыжанай a la Titus[7], з арліным носам, высокі, у меру шыракаплечы, ён рабіў спрыяльнае ўражанне сваім высакародным выглядам, спрытам рухаў, меладычным голасам і блакітнымі вачамі з доўгімі чорнымі вейкамі і бровамі, якія строгай дугой перасякалі белы лоб.

Ён адказваў з вытанчанай, трохі высакамоднай ветлівасцю, але глядзеў у вочы горда і пранікліва. Апрануты ён быў па апошняй модзе, у фрак вішнёвага колеру з доўгімі фалдамі, кароткай таліяй і плоска адкладзеным каўняром; на шыі ў яго была павязаня белая хустка з сінімі гарошынамі, такая шырокая, што закрывала палову падбародка; камізэлька - светла-блакітная, вышываная залатымі палоскамі кветак, палевыя[8] вузкія порткі да костачак і туфлі без спражак; у руках ён трымаў кіёк з залатой булавешкай; падвойны ланцужок ад гадзінніка пабразгваў пры кожным яго руху цэлым пучком бірулек, падвешаных на тонкіх ланцужках.

Пані Ажаровская, якая прыслухоўвалася ўжо з некаторых пор да яго слоў, звярнулася раптам да яго з паблажлівай усмешкай:

- Ці васпан заўсёды носіць колеры шамбялянншы?

- Сапраўды, гэта дзіўна! - прагаварыла напаўголасу графіня, абводзячы абодвух вачамі.

- Гэта проста дзіўны збег акалічнасцяў!

Ён увесь пачырванеў, як паненка.

Дамы пачалі смяяцца, бо сапраўды, на шамбяляшы была сукня таго ж колеру, што і яго фрак, толькі нібы абсыпаная залатымі пырскамі, і бла-

[1] Граф Марэлі - падпалкоўнік, кур'ер Кацярыны II у Гародні.

[2] Каперштых (з ням.) - гравюра.

[3] Эксулянт (з лац.) - выгнанец, эмігрант.

[4] Гэты шчаслівы пачатак астудзіць запал і вашых эксулянтам у Дрэздане... - Пасля адмены Канстытуцыі 3 траўня большасць прыхільнікаў патрыятычнага крыла Чатырохгадовага сойму на чале з Ігнацыем Патоцкім і Гугам Калантаем эмігравалі ў Саксонію (Дрэздан і Ліпск). Палітыка эміграцыі да сярэдзіны снежня 1792 года ішла ў кірунку паразумення з Расіяй і Таргавіцай. Аднак пасля атрымання вестак пра набліжэнне 2-га падзелу Рэчы Паспалітай уступіла планам, якія абапіраліся на рэвалюцыйную Францыю. На эміграцыі, як і ў краі існавалі два крылы: памяркоўнае і радыкальнае - гуганістаў, якое групавалася вакол Гугі Калантая.

[5] Эксперыенцыя (з лац.) - веданне справы, дасведчанасць.

[6] Атэнцыя (з лац.) - прызнанне.

[7] a la Titus - стрыжка з кароткімі локанамі.

[8] Палевы - колеру саломы.

кітная, у залатую палоску, катанка[1], абкіданая карункамі.

- Дзіўны збег акалічнасцяў! - паўтарыла кпліва Ажароўская.

Север, каб развязаць нялоўкае становішча, спытаў пра панну Тарэню.

- Якраз нянчыцца з шамбялянам. Гляньце - відовішча ні з чым не параўнальнае, - засмяялася Іза, паказваючы праз акно ў сад.

У цяністай алеі, усеянай яркімі блікамі сонца, стаяў шамбялян з шырока адкрытым ротам. Тарэня ж, прыўстаўшы на пальчыкі, улівала яму лыжачкай у рот нейкія лекі.

Дамы рагаталі, не шкадуючы даволі трывіяльных заўваг. Зарэмба, якому была непрыемнай гэтая сцэна, пачаў збірацца.

- Куды вы спяшаецеся? - спытала нягучна графіня, прытрымліваючы яго далонь.

- На сойм. Мне трэба патрапіць своечасова, а то яшчэ не ўпусцяць.

- Нічога там цікавага. Крычаць незадаволеныя, ды прусакі падліваюць свой васэрсуп[2].

- Гетман будзе сёння зноў гаварыць пра забеспячэнне войска. Не ведаю толькі, ці будуць дэбаты адбывацца пры арбітрах.

- Божа, як мне надакучылі ўжо гэтыя соймы, палітыка, трактаты і ўсе гэтыя інтрыгі! - праенчыла са шчырым абурэннем шамбяляншаа. - Нуда смяротная!

- А хіба Гародня мала яшчэ шалее? Бо тут вечнае свята і баляванні, - запярэчыў было з жаром, але, заўважыўшы ў яе вачах незадаволенасць, асекся і ледзь знайшоўся, каб падзякаваць Ажароўскай, якая запрасіла яго на свае асамблеі і ў канцы ласкава перасцерагла:

- Весяліся васпан, а казанні пакінь бурклівым старым.

- І не забудзь пра заўтрашні пікнік, - дадала шамбялянша.

Север выйшаў на вуліцу, поўны супярэчлівых пачуццяў і думак, выкліканых толькі што зробленым візітам і пачутымі навінамі, асабліва падзенне Майнца і трыумф прускага караля засмучалі, хвалявалі і заклапочвалі яго.

"А прыгажуні ўсё сумна!" - успамінаў ён час ад часу з сумам і абурэннем.

Дзень быў гарачы. Гародня плавілася ў сонечнай спёцы, у клубах пылу і несуцішным шуме, бо на вуліцах панаваў вялікі рух, асабліва на Галоўнай вуліцы, якая вядзе з Гарадніцы да Нёмана. На Замкавай, на Кірмашовым пляцы і па шляху да бернардынскага кляштара стаяў гул ад чалавечага натоўпу, вазоў і коней.

Уздоўж прысадзістых дамкоў, на вузкіх кладках і камянях, накіданым там і сям у дажджлівую пару, цягнуліся шматлюдныя, пярэстыя натоўпы, прыціскаючыся палахліва да сцен і платоў, бо штохвілінна па вуліцах кацілі жвавыя чацвёркі, імчаліся наўскач вершнікі, маршыравалі ўзброеныя патрулі, пляліся высоканагружаныя калёсы з фуражом[3] ці спяшаліся подбегам казацкія дазоры.

А па меры набліжэння да чацвёртай гадзіны, на якую было прызначана паседжанне сойму, рух і шум яшчэ больш узмацніліся. Ужо пачалі паказвацца сінія з чырвоным карэты, запрэжаныя англескімі жарабцамі ва ўпрыгожанай срэбрам збруі, з чырвонымі жакеямі на казлах. Часам, выклікаючы ўсеагульнае здзіўленне, калыхалася на рысорах якая-небудзь старадаўняя калымага з шыбамі і пазалотай, нібы фаратрон[4], запрэжаная шасцёркай ізабелаватых[5] цмокаў, з ліўрэйнымі лакеямі ў парыках на запятках і з верхавым фарэйтарам наперадзе. Часам праносіліся віхурай двухколавыя кабрыялеты, запрэжаныя чацвёркай цугам, багата абчэпленай меднымі цацкамі, пёрамі і сеткамі, што кіраваліся афіцэрамі, якія, стоячы, нібы ў калясніцы, шалёна падганялі, так што ў коней гралі вантробы, і ўсё жывое разбягалася перад імі.

Часам хутка праязджаў які-небудзь важны генерал у экскорце драгунаў, якія тапталі ўсё па дарозе. Мільгалі зялёныя пакоўныя экспаштовыя карэты, якія расчышчалі сабе рум[6] хрыплымі гудкамі ражкоў. Цягнуліся даволі тлумныя кавалькады дам і кавалераў, з хмарай зялёных стральцоў па баках і чырвоных масталераў[7]. Часам тарабаніла па выбоістым бруку жоўтая парафіяльная брычка з ксяндзом у белым дарожным балахоне і саламяным капелюшы ці пляскалі капытамі мужыцкія мерыны, запрэжаныя ў драбіны і васагі[8]; іх затрымоўвалі што ні крок, спіхвалі на бок, палохалі і часта-густа частавалі бізунамі, калі яны недастаткова хутка з'язджалі з дарогі.

[1] Катанка - куртка.
[2] Васэрсуп (з ням.) - вадзяны суп, пустая поліўка.
[3] Фураж (з франц.) - корм для коней.
[4] Фаратрон (з грэцк.) - абраз, фігурка, алтарык, які нясуць падчас працэсіі.
[5] Ізабелаваты - бура-жоўты, буланы.
[6] Рум (з англ.) - вольны праход, вольная дарога.
[7] Масталер (з ням.) - старшы стаенны, старшы конюх.
[8] Васаг - воз, брычка.

Не меншы быў і пешы рух. Паабапал вуліц каціліся шумныя, галасістыя плыні самых розных кунтушаў, рагатывак, фракаў, вайсковых куртак, палатняных кіцеляў і модных востраверхіх капелюшоў. Не бракавала і абшарпаных світак, ні голеных галоў манахаў, ні ліўрэйнай чэлядзі, ні замежных гарнітураў, якія прыцягвалі ўвагу, ні зашмальцаваных чорных юпіц[1] і лісіных шапак габрэяў.

Часта ў натоўпе круціліся яркія паненкі ў чулках[2], прысадзістыя мяшчаначкі, нейкія манашкі ў карнетах[3], расфуфыраныя валанцёркі[4], якія страляюць па баках вачамі; прыбраныя па-святочнаму габрэйкі запаўнялі вароты і парогі дамоў. Не відаць было толькі ў гэтым натоўпе важных дам, якія паказваліся на вуліцах толькі ў экіпажах і ў чыім-небудзь суправаджэнні.

Не было недахопу і ў жабраках, - на кожным рагу, каля кожнай статуі святога на пляцы раздаваліся тужлівыя маленні пра міласціну ці пілікалі на якім-небудзь інструменце сляпыя, падмагаючы сабе жаласлівымі песнямі. Нібы велізарны кірмаш заліў увесь горад, - такі стаяў усюды шум, таўханіна і незлічоныя тлумы.

Гародня была невялікім горадам, які налічваў ўсяго якіх-небудзь чатыры тысячы сталых жыхароў, але з прычыны соймавых з'ездаў была папросту забіта біткам. Не засталося ніводнага дома, ніводнага свірана, ніводнага самага заняпалага будынка, дзе б не кватаравалі людзі. Дайшло да таго, што ў садах спехам кляпаліся буданы з галля і дошак, каб размясціць коней, экіпажы і прыслугу, і дзе тулілася, зрэшты, і ўсякая чалавечая драбната і людзі прафесійныя[5]. А на шырэйшых вуліцах і пляцах, як, напрыклад, каля езуіцкага кляштара, на Рынку і на Замкавым пляцы, вырас другі горад, які складаўся з самых разнастайных ятак, будак, пераносных крамак і намётаў, у якіх гандлявалі прадаўцы разнастайных нацый: тоўстыя немцы, маскоўскія барадачы, смуглыя армяне, рудыя ангельцы, персы ў рознакаляровых халатах, касавокія казанскія татары, не лічачы незлічонага мноства габрэяў і палякаў, што панаехалі з Вільні, Любліна і Варшавы. Не былі дапушчаны толькі французы, падазраваныя ў распаўсюдзе якабінскіх улётак і прапаганды, як па падгаворванні Сіверса генеральнасць матывавала сваёю адмову.

Дазволена толькі было прыехаць на час сойму вядомай Ле-Ду з Варшавы са сваімі модамі і слаўным сваёй прыгажосцю французмерам[6] мадыстак. Перад яе кватэрай на вуліцы пад фарай прастойвалі цэлыя дні экіпажы найшляхетнейшых дам, пад вокнамі раіліся натоўпы кавалераў, якія пераміргваліся з прыгожымі француженкамі. А паколькі і ў суседніх дамах амаль у кожным акне бачныя былі бойкія капялюшніцы, гафцяркі, замешніцы[7] і мадысткі, то і перад імі моладзь, і асабліва вайсковая, прастойвала ці шпацыравала цэлыя дні. Не абыходзілася, вядома, і без скандалаў, якія нярэдка даходзілі да Сіверса, бо афіцэрам ладна мялі бакі пры ўсякім зручным выпадку.

Далей велізарныя залатыя вінаградныя гронкі азначалі гандляроў віном; боты ў мядзведжых лапах - шаўцоў; колы - стэльмахаў[8]; пучкі залатой пражы - пасамонікаў[9]; па-майстэрску сплеценыя з конскага воласу косы - цырульнікаў; грозныя шаблі з бляхі - збройнікаў, бліскучыя на сонцы медныя цырульніцкія талеркі і срэбныя нажніцы краўцоў, за шклом ці на спушчаных адкідных сталах былі раскладзены модныя дзівы, аплачваныя на вагу золата. Былі нават кнігарні: Яховіча і Бельскага, а ў варотах радзівілаўскага палаца - старога Боруха. У Бельскага, у доме Любецкіх, акрамя кніг пра дабрадзейнасць, соймавых брашур і прамоў, прадаваліся таксама ангельскія гравюры, партрэты былога французскага караля, саксонскі парцалян, насенне галандскай канюшыны, а таксама мазь для прыгажосці і лекі супраць зубнога болю.

Што ні крок было гэтулькі ўсяго, што Зарэмба забыўшы ў гэтай таўханіне пра свае думы, са здзіўленнем глядзеў на мора людзей, экіпажаў і коней, якія пранасіліся з велізарным шумам па вузкіх, звілістых завулках, сярод бедных гарадскіх хацінак, над якімі толькі дзе-нідзе ўзвышаліся палацы магнатаў, шаты векавечных дрэў і бялелі стромкія сцены і званіцы касцёлаў.

Яго так ашаламляў гэты рух і несуцішны шум, што ён пачаў запавольваць крок, і на рагу Замкавай вуліцы спыніўся, бо каля кавярні дзяжурыла купка франтаў у модных рознакаляровых фраках, у востраверхіх капялюшах, з падбародкамі,

[1] Юпіца (з ням.) - габрэйскі халат.
[2] Чулка - нацыянвальны галаўны ўбор.
[3] Карнет - каптур манашкі.
[4] Валанцёркі (з лац.) - дабраахвотніцы.
[5] Прафесійныя (з лац.) - тут, спецыялісты, рамеснікі.
[6] Французмер (з ням.) - штат, дваровыя дамы.
[7] Замешніца - вырабляе рэчы з замшу.
[8] Стэльмах - вырабляе экіпажы, карэты.
[9] Пасамонік - пазументнік, вырабляе паясы, стужкі, фрэнзлі (бахраму) і да т.п.

нібы схаванымі ў белыя хамуты хустак, з кійкамі ў руках. На чале купкі стаяў Война, кідаючы час ад часу якое-небудзь слоўца, ад чаго франты выбухалі смехам. Моладзь бавілася разглядваннем падарожных у экіпажах, не скупячыся на з'едлівыя заўвагі, злыя досціпы, а часам і на бурныя апладысменты ў адрас кожнага. Гаварылі ўсе наперабой, што каму зойдзе ў галаву.

- На фронт! Пані падкаморша! - камандаваў Война. - Пагледзіце, як абдымае вачамі Корсака! Занадта малы, ды і ножкі ўжо заплятаюцца.

- Старажытная панна Рэшка! Кожны дзень да камуніі і раз на год да лазні!

- Панна Валовіч! У канвоі - чатыры гайдукі і цётка-манашка, хоць ніхто не замахваецца на гэтую рабую нявіннасць.

- Карсачок, хавайся хутчэй у кусток, цябе шукае твой гувернёр.

- Экскупуенся[1], - адгыркнуўся грозна хударлявы юнак у фрачку кававага колеру.

- Chapeaux bas[2], мосці панове! Едзе яе вусатая вялікасць, стогадовая выпрабаваная нявіннасць і мільён злотых гадавога прыбытку - княгіня Агінская.

- Схіляюся прад яе светласцю і гатовы паклясціся берагчы яе нявіннасць, хай толькі аддасць мне астатняе.

З-за таўханіны на рагу вуліц экіпажы рухаліся крокам. Моладзь пакеплівала трохі цішэй, але яшчэ больш дзёрзка.

- Панна Скірмунт - высокіх, кажуць, правілаў, але зубы - нібы старая клавіятура.

- Цыцыянаў едзе з нейкім рыжыкам!

- Зачараваная князёўна. Я бачыў яе на гецы[3], хадзіла па канаце, вельмі прыгожая, але ўяўляеце сабе, як гэта белае цела спаласуе княжацкая нагайка! Бедную Юзю, памятаеце, Вірыён[4] ледзь вылечыў.

- Распавяду вам радавод гэтай княжны: князь выйграў яе сёння ўначы за сто дукатаў у Анквіча; Анквіч учора - у Дзівава[5]; Дзіваў надоечы[6]...

- Можаш не працягваць, Война, бо ў канцы акажацца, што прынцэсу завуць Ройза і можна яе купляць па дукаце ў Файгі на рынку.

- Сальвуйцеся[7], плоткі: пралываюць Шчукі, Жабы і Карпы.

- Нешта вельмі шмат гэтага рыбінага племені. Ха-ха! А за імі гудуць Камары!

- Рэспект, васпанства: дочкі чашніка Рачкоўскага, цуд у чатыры асобы! Брава!

І нібы ў тэатры, бурна запляскалі, схіляючы галовы перад чацвёркай цудоўных прыгажунь, якія ехалі з сівой шаноўнай матронай.

- Касакоўскія насы і барадаўкі! - крыкнуў Карсак, але астатнія нібы здранцвелі, учуўшы гучнае імя, а нехта хутка прагаварыў:

- Штосьці не відаць нашых багінь і матадор[8]...

- На амбасадарскім абедзе служаць дэсертам нунцыю і біскупам.

- Елавіцкая! Падобная на мошчы, якія ўзносяцца жыўцом у неба.

- Аж тры развядзёнкі з кульгавым Карвоўскім! Nec Hercules conter plures[9].

- Машкоўская і Зялінская! Не ведаю толькі, хто тая - трэцяя, пухленькая бландынка.

- О, гэта найпершы канар[10], - змяніла ўжо трох мужоў, з капу каханкаў, а дзеці ў яе нейкім дзіўным чынам падобныя на паштмайстраў на Варшаўскім гасцінцы.

- Любіць ваяжы з трубачамі. Я ведаю яшчэ і такую акалічнасць, што яе хлапчук быў не толькі падобны на капелана, а так і нарадзіўся ўжо з францішканскай танзурай і ў габіце.

- Новаковская ў такім цудоўным настроі, як быццам з новым ami.

- У яе сталыя: змяняе толькі час дня і гадзіны, бо для мужавай палітыкі мусіць іх мець з усіх фракцый, з афіцэрамі суседніх дзяржаў у прыдачу.

- Гледзіце, Ванькові ч у кампаніі са старасціхай. Гэта нешта новае.

- Як жа яна магла застацца нячулай, калі ён учора выйграў некалькі тысяч?

Прыціхлі, бо з Маставой вуліцы грымнуў пранізлівы свіст файфераў[11] і гром літаўраў. Натоўп адразу ўспудзіўся і пачаў ціснуцца да сцен і ў сені, экіпажы з'язджалі ўбок: а пасярэдзіне вуліцы рушылі зялёнай сцяной, натапыранай зіготкімі

[1] Экскупуенся (з лац.) - сцеражыся.
[2] Chapeaux bas (франц) - Шапкі далоў!
[3] Геца (з ням.) - цыркавое прадстаўленне, цырк.
[4] Вірыён - лекар, прафесар анатоміі ў лекарскай школе ў Гародні.
[5] Дзіваў - пляменнік іверса, сакратар расейскай амбасады ў Варшаве.
[6] Надоечы (стар. бел.) - пазаўчора.
[7] Сальвавацца (з лац.) - ратавацца, уцякаць.
[8] Матадор (з ісп.) - знакамітасць.
[9] Nec Hercules conter plures - І Геркулесу няпроста ўзначальваць многіх.
[10] Канар - адборны гатунак трысняговага цукру; пераносна: слодыч.
[11] Файфер (з ням.) - жаўнер, які падыгрывае барабаншчыкам на пішчалцы.

багнетамі, егеры, - зямля дрыжала пад нагамі коней. Наперадзе ж высачэнны драб у пярэстым строі размахваў пазалочанай булавой з лялькай на верхавіне, абвешанай стужкамі і бомамі, падкідаў яе ўгару і лавіў, а потым раптам грымнуў нейкую заліхвацкую песню і пайшоў у скокі, адколваючы шалёнага трапака. Яму акампанавалі пранізлівыя свісты, віскі, бой у барабаны, скуголенні дудак, некалькі гемейнаў пусціліся заадно з ім упрысядкі, не перарываючы шэсця. Паднялося дзікае выццё спяваўшых галасоў, што нагадвала свіст розг, стогны і адначасова гуллівы рогат і разгульную вясялосць.

- Ідуць у замак змяняць варту! - першым перапыніў маўчанне Война.

Ніхто, аднак, не спяшаўся загаварыць. Моладзь стаяла халодная, паглядаючы хмурна на праходзіўшых салдатаў, як быццам разам з ўздымаўшымся за імі пылам у душах уздымалася змрочнае воблака ўтоеных трывог.

- Раскажу вам нешта вельмі суцяшальнае, - пачаў зноў Война, - пра шляхцюка, які называўся Гузік, пахаваў дзвюх жонак, а сабе такое вырабіў надмагілле:

*“Што сёння мне - заўтра будзе з вамі,*
*Тут ляжыць Гузік паміж пяцелькамі”.* -

Але не здолеўшы нікога расмяшыць, падышоў да Зарэмбы, якога заўважыў у натоўпе, і яны разам накіраваліся да замка.

- Я пакінуў твайму слузе круглую тысячу дукатаў; гэтулькі прыйшлося на тваю долю з выйгрышу. А тое, што я ў цябе пазычыў, я пакінуў на далейшую гульню. Згода?

- Калі табе не здрадзіла Фартуна, паспрабуем і далей шчасця, - адказаў Зарэмба, абрадаваўшыся выйгрышу, і паведаміў Войну звесткі, пачутыя ад графіні Камелі.

- Ёй можна верыць, - заўважыў нягучна Война, - ёй вядомая кожная таямніца каралеўскай пошты. Можа быць, ведае іх ад Сіверса, бо дзед закаханы ў яе па вушы, а можа быць, і ад Бухгольца, з якім яна таксама ў канфідэнтах. Гэта птушачка! Яна пырхае тут не без задняй думкі і не толькі для таго, каб чараваць сваім абаяльным шчэбетам...

- Адгэтуль выснова, што гэтая дама замешана ў палітычных інтрыгах. Цяпер я разумею, адкуль яна ведае ўсё, што робіцца ў нас, і чаму так узрадавалася смерці Марата і падзенню Майнца! Але якому боку яна служыць?

- Ёсць падазрэнне, што Зубаў падаслаў яе для сачэння за Сіверсам. Я ж думаю, што яна на самай справе служыць, толькі за ангельскае золата. Піт[1] аплачвае кааліцыю супраць Францыі, не спускае, аднак, вока і з любых саюзнікаў! Нішто сабе гульня?

- Я ведаю толькі адно: што падзенне Майнца - гэта наша параза, бо пасля такой перамогі прускі кароль павернецца зараз усім фронтам на нас. Смерць жа Марата - гэта ўдар для чалавецтва.

- Я думаю, хутчэй палягчэнне. Гэта быў жудасны крывапівец і дэмагог.

- Але разам з тым ён быў адзіны ў рэвалюцыі, які адважваўся!

- Пажаніць Людовіка з мадэмуазель Гільяцін? Бяда толькі - шлюб бясплодны.

- Гэта будзе хутка відаць! - прагаварыў Зарэмба з таямнічай усмешкай. Зачэплены гэтым, Война ўзяў яго пад руку і зашаптаў раздражнёным тонам:

- Што ж, і вы адважвайцеся! Мне ўжо надакучылі вашы пярсцёнкі, трыкутнікі, катэхізісы і словы, якія адкрываюць канспірацыйныя сезамы[2]. Пара б выцяць дзеяннем.

- Будзе і гэта. А ўсякі вялікі намер павінен апранаць на сябе маску і мець свой рытуал для пасвечаных. Ты - наш? - спытаў Зарэмба ўжо без хітрыкаў...

- Я - свой і больш нічый, - адказаў самаўпэўнена Война.

Зарэмба збянтэжыўся, пашкадаваўшы пра толькі што сказаныя словы.

- На што патрэбен сабака ў касцёле, калі пацераў не гаворыць, - дадаў Война праз хвілю са смехам. - Каму ахвота падстаўляць галаву, таму не замінаю, а я аддаю перавагу "фараону" і бутэлькам. Бахусавым[3] валанцёрам зрабіла мяне прырода, і я гэтаму не супраціўляюся.

- Ты ведаеш нашы ўмоўныя знакі, а сам не належыш да кола?! - з трывогай у голасе прамовіў Зарэмба.

- Ведаю, але даю табе слова гонару, што прызнаўся ў гэтым табе першаму.

Яны выйшлі на Замкавы пляц, ужо забіты экіпажамі, прыслугай і салдатамі. Пасярэдзіне, пад шатамі векавых дрэў, стаялі гарматы пад зялёнымі чахламі, з-пад якіх выглядалі медныя пашчы, накіраваныя на замак. Салдаты ў зялёных вузкіх куртках і бліскучых чорных касках, з карабінамі пры

---

[1] Піт Уільям (1759-1806) малодшы - ангельскі прэм’ер, галоўны арганізатар барацьбы супраць рэвалюцыйнай, а потым і напалеонаўскай Францыі

[2] Сезам - тут скарбец (з казкі “Тысяча і адной ночы”).

[3] Бахусавы - Бахус у грэцкай міфалогіі бог віна і весялосці.

назе, замыкалі кардонам пралёты вуліц, не пускаючы на пляц простых людзей. Частка іх размясцілася біваком каля скрынь і фургонаў ззаду гармат ці стаяла вартай каля моста і над замкавымі равамі.

- Аргументы "саюзнікаў" для зялантаў, - заўважыў Зарэмба, паказваючы на гарматы.

- Толькі для дабра Рэчы Паспалітай і спакою дэпутатаў, - іранізаваў Война, штохвілінна кланяючыся саноўнікам і дэпутатам, ехаўшым на сойм.

Замак узвышаўся на высокім беразе Нёмана, выразна рысуючыся ў паветры сваімі сценамі, вежкамі, дахамі мезанінаў, купалам капліцы і статуямі над галоўным франтонам. З боку горада яго абабягаў глыбокі роў, засаджаны шпалерай стройных таполяў; цераз роў быў перакінуты мураваны шырокі мост з балюстрадамі, аздобленымі мармуровымі вазамі і амурамі. Каменная высокая брама, увянчаная алегарычнымі групамі з каляровага парцаляну, з вытанчанай работы кованымі жалезнымі варотамі і багата пазалочанымі гербамі вяла на вялікі дзядзінец, абстаўлены будынкамі разнастайнай архітэктуры і свежа адноўленымі да сойма.

Вялікі амарантавы[1] сцяг з арлом і вершнікам на кані развіваўся над варотамі ў знак знаходжання караля і адбываўшыхся паседжанняў найяснейшага сойма.

Егамосць кароль пражываў у замку з сям'ёй, нешматлікім дваром і канцылярыямі. Толькі прыкамандзіраваныя для аховы яго вялікасці часткі польскай і літоўскай гвардыі разам з "віватавай-артылерыяй", як яе празвалі жартаўнікі, размяшчаліся ў рэдутах, размешчаных на пісталетны стрэл ад замка.

У замку ж знаходзіліся і абедзве палаты сойму.

Усё паблізу было акружана частым кардонам егераў пад камандай вышэйшых афіцэраў, якія чынілі такія цырымоніі, што кожны раз, калі да моста пад'язджаў які-небудзь шляхетны саноўнік, раздаваўся рэзкі голас каманды, грукаталі барабаны, і салдаты бралі “на фронт”.

- Не скупяцца на парады, - шапнуў Зарэмба пасля шумнага прыёму Ажароўскага.

- Яны няволяць трыма спосабамі: золатам, здрадай і ласкай - і кожны паспяховы.

- Няўжо і Навакоўскі - дэпутат? - здзівіўся Зарэмба на від даўняга таварыша, які высаджваўся каля моста з экіпажа ў новым ваяводскім кунтушы.

- Ігельстром яго прызначыў, а дукаты абралі, - саркастычна растлумачыў Война.- Ён - важная персона, руплівы пацыфікатар[2], незаменны ў разнастайных кампрамісах, а таму заўсёды ўдзельнічае ад імя сойма ва ўсіх дэлегацыях да Бухгольца і Сіверса. І да таго самаадданы ў служэнні Айчыне, што не звяртае нават увагі, ці плацяць яму рублямі ці талерамі.

- Я ведаю яго ўжо па чутках, і ведаю, колькі каштуе яго сумленнасць.

Яны перайшлі мост, абмінулі вароты і прыпыніліся пад соймавым кружганкам перад шырока расчыненымі падвойнымі дзвярыма ў шырокія сені, запоўненыя ўжо людзьмі і гулам галасоў. Каля дзвярэй, якія вялі ў залу паседжанняў сойма і розныя бакоўкі, дзе размяшчалася канцылярыя, у гэты дзень несла варту каронная гвардыя, але з карабінамі без багнетаў і з пустымі ледарвэркамі[3].

- Ідзе ломжынскі Катон, крываусты Скаржынскі. Я вас пазнаёмлю, хай ён табе што-небудзь працыцароніць; сам я не маю смаку да аратарскай траскатні.

Скаржынскі, вядомы сваёй эрудыцыяй у дзяржаўных справах, высокім красамоўствам і гарачым патрыятызмам, цёпла прывітаўся з Войнам; Зарэмбе ж нагадаў пра даўняе знаёмства з яго бацькам; але, перш чым ён паспеў пра штонебудзь сказаць, яго падхапілі некалькі праходзіўшых дэпутатаў і пацягнулі ў кут фае, дзе стаяў стол з халоднымі закускамі: бо паседжанні зацягваліся нярэдка да позняй ночы.

Зарэмба, не бянтэжачыся гэтым, рушыў услед за імі і спыніўся трохі ўбаку.

- На каго гэта ты так зазіраешся? - пачуў ён раптам голас Навакоўскага, які нечакана апынуўся побач з ім.

Ён паказаў вачамі на стаяўшых вакол Скаржынскага дэпутатаў.

- Годная кампанія, - скрывіўся Навакоўскі пагардліва, адводзячы яго да акна. - Мазурская шу-шамець. Ты не ўяўляеш сабе нават, каго бачыш: бо гэта тыя самыя гарачыя зялaнцы, пра якія сум-ны розгалас ідзе ўжо па ўсёй Рэчы Паспалітай.

- Першы раз у жыцці іх бачу, - жвава адказаў Зарэмба.

- Дык ведай жа: вось гэты лысы п'яніца з

[1] Амарантавы - малінавы.

[2] Пацыфікатар - прымірыцель.

[3] Ледарвэрк (з ням.) - раменны пас, які ўтрымоўвае ранец і ладунку.

[4] Катон - у двух прадстаўніках гэтага рымскага роду (Катон старэйшы, 234-149 і Катон малодшы, 95-45 да н.э.) паказвала гісторыя ўзор нязломнасці і грамадзянскай дабрадзейнасці.

мінай агаладалага папрашайкі - гэта ліўскі дэпутат Краснадубскі[1]; побач з ім хаваецца самы адчайны брахун сойма, дэпутат ад Вышгорода Мікорскі; ззаду яго тапырыцца засцянковы Цыцарон[2] - Шыдлоўскі[3] з Цеханова; а вось гэты панок у пашарпаным кунтушы і канаплянай партупеі пры карабелі - гэта ружанскі Цямнеўскі, заядлы якабінец, які адважыўся ў палаце пярэчыць самому яго вялікасці, а вось той, каля сцяны, высокі з сівізной, апрануты з пыхай, - гэта ломжынскі дэпутат Скаржынскі, празваны крываустым і нібы самой прыродай адзначаны за паклёпы і фанабэрыстасць; апошні, высокі чорны з тварам вострым, як брашчот[4], і кручкаватым носам, - упіцкі дэпутат Кімбар, годны пераемнік трыклятай памяці Сіцінскага[5], - пералічваў ён з такой нянавісцю, што хвілямі бракавала яму дыхання, з-за чаго на яго пегаватых шчоках выступала цагляная чырвань. - Кампанія яшчэ не ў поўным камплекце, але summa summarum ўсё гэта гідкія бунтары, соймавыя брахуны, абмежаваныя галовы і фракцыянеры. Павінен цябе яшчэ прасвятліць: усе яны абраны на сойм за маскоўскія грошы, - прашаптаў ён яшчэ цішэй і зласлівей, - а акрамя таго, не аднаго з іх Ігельстрому давялося экіпіяваць і забяспечыць кармавымі на дарогу ў Гародню. Затое ўсіх, хто не падзяляе іхніх перакананняў, яны лічаць здраднікамі і заяўляюць пра гэта. Паспольства іх паважае, бо яны выстаўляюцца Катонамі, апранаюць на сябе маску Карыёлянаў[6], а тым часам, калі б не нашы захады, сойм з-за гэтых крыкуноў даўно быў бы разагнаны на ўсе чатыры вятры. Да шчасця, маюцца яшчэ праўдзівыя патрыёты, - распінаўся ён, не прамінуўшы пахваліцца пры гэтым сваімі вялікімі заслугамі на службе грамадству.

Зарэмба быў не вельмі рады гэтай публічнай канфідэнцыі, тым больш што Скаржынскі кідаў у яго бок падазроныя погляды. Але паслугач Ігельстрома, вычарпаўшы тэмы de publicis, прыняўся з такім жа жарам распавядаць інтымныя выпадкі з жыцця найбуйнейшых персон сойма, з адмысловым нейкім задавальненнем выводзячы іх на святло.

- Усё гэта вельмі цікава, але я не аматар капацца ў чужых плётках, - перабіў яго ў раздражненні Зарэмба.

Навакоўскі паблажліва ўсміхнуўся і шапнуў са значнасцю:

- Але той, у каго ў руках гэтыя інтымныя звесткі, можа ў выпадку патрэбы націсnуць на сарамліва схаваную балячку і павесці, як на вяровачцы.

- Гэта дакладна, такія сакрэты шмат значаць у розных інтрыгах.

Зарэмба паглядзеў на гадзіннік. Навакоўскі паспяшаўся яго папярэдзіць:

- Чакаем біскупаў, яны паехалі на абед да Сіверса.

- Не вельмі то спяшаюцца на паседжанне. Мне б хацелася паслухаць спрэчкі.

- Завяду цябе на галярэю. Думаю, што сёння маршалак не прагоніць арбітраў.

Павёў яго па вузкіх усходах і крутых калідорах, слаба асветленых дзе-нідзе лоевымі свечкамі, уваткнутымі ў прыбітыя да сцен кандэлябры.

- Прашэнне я ўжо склаў. Трэба толькі падпісаць яго і падаць у канцылярыю. Ну, як, ты не ўзважваў маёй парады? - кінуў ён між іншым.

- Паспрабую перш шчасця ў караля, - адказаў Зарэмба ўнікліва.

- Як хочаш. Учора зноў двое юнкераў, з былых фрайкураў[7], атрымалі ад Цыцыянава капітанскія пагоны і багатае забеспячэнне. Калі б ты звярнуўся да яго, твая просьба мела б найлепшы вынік.

- Пазнаём мяне з ім, - прапанаваў Зарэмба пад уплывам нейкай новай ідэі, якая мільганула ў яго ў галаве

- З задавальненнем. Складаецца нават так зручна, што ён мае быць сёння ў мяне. Значыць, пасля паседжання я забяру цябе з сабой на вячэру. Ты сабе не можаш уявіць, які гэта асвечаны чалавек і як ён да нас прыязны, а пры тым - правая рука Сіверса...

- Тым шчырэй мне давядзецца ім захапляцца, - адказаў Зарэмба, пацiскаючы руку, але пасля яго сыходу ўздыхнуў з глыбокай палёгкай і пачаў аглядаць залу паседжанняў сойма.

*(Працяг у наступным нумары.)*

---

[1] Краснадубскі (Краснадэмбскі) - лоўчы, дэпутат ліўскі, чалец памяркоўнага крыла у краёвай змове.

[2] Цыцарон - Марк Тулій Цыцарон (106-43 да н.э.), вялікі рымскі прамоўца і пісьменнік.

[3] Шыдлоўскі Шымон - стараста, дэпутат падляшскі, чалец памяркоўнага крыла ў краёвай змове.

[4] Брашчот - вастрыё нажа, шаблі.

[5] Сіцінскі Уладыслаў - стольнік упіцкі, у 1652 г. першы раз сарваў сойм адзіночным liberum veto (раней зрывала соймы меншасць).

[6] Карыёлян Гай Марк - рымскі патрыцый, якога пыха штурхнула на здраду краю.

[7] Фрайкур (з ням.) - корпус дабраахвотнікаў.




*У **1562 г.** (?) (460 гадоў (?) таму назад) нарадзіўся **Тамаш Макоўскі** - мастак, графік, гравёр, друкар, картограф*
*У **1992 г.** (30 гадоў таму назад) - на Алеі памяці ў Старым парку ў Нясвіжы ўсталяваны бюст **Т. Макоўскаму***




*У* ***1982 г.*** *(40 гадоў таму назад) - у Нясвіжы ўстаноўлены помнік*
***Сымону Буднаму****. Аўтар Святлана Гарбунова.*
*Здымак С. Судніка, 2017 г.*